тыдзень, як цень. Ешыботнікі глядзелі на яго і дзівіліся. Часта хто-небудзь да яго звяртаўся:

— Рэб Эля, што з вамі?

— Рэб Эля, вы нездаровы?

— Рэб Эля, вы вельмі схудалі.

Эля маўчаў і на яго твары відаць былі вялікія пакуты і вялікія надзеі.

Роўна праз тыдзень Эля дастаў з каўчэга мой новы канверт. Дома ён чытаў вось што:

«Эля, ты вялікі дурань! Не вер у забабоны. Скажы «дзякуй» за першыя тры далары і больш не чакай. Няма прарока Ільі і няма бога. Усё гэта хлусня. Амінь! Калі-небудзь я табе раскажу ўсё».

Эля некалькі тыдняў не прыходзіў у сінагогу. Ён захварэў на нервовую гарачку і доўгі час у сваім брэдзе нешта расказваў пра Ілью прарока. А як вярнуўся ў сінагогу, дык паглядаў на ўсіх недаверліва.

Тым часам я займаўся далей пісаннем лістоў у Амерыку. У хаце старой Бейлі я жыў спакойна. Нада мною не вісеў вечны страх перад інспектарам рэб Шмар'я. Я мог чытаць у прыватнай кватэры хоць цэлымі начамі. Творы Пушкіна і Лермантава, Гогаля і Некрасава выцеснілі схаластычны талмуд з яго мёртвай філасофіяй, з яго нуднымі развражаннямі аб дабры і зле, з яго дробнымі ўрыўкамі featured рознастайных старадаўніх навук, з прыстасоўваннем Вавілонскага быту і мудрасці да ўмоў жыцця зусім іншай зямлі ды іншых людзей.

Я пачаў пісаць вершыкі на стара-яўрэйскай мове. Пісаў удзень ў сінагозе, засланяючыся фаліянтамі талмуда. Уночы я чытаў кнігі. Так цягнулася больш году.

### Мірыям

Лісты ад нявест да жаніхоў у Амерыку і чытка лістоў ад жаніхоў з Амерыкі накіравалі мяне пісаць вершы на тэму кахання. Кожны дзень—новы верш. Пры стале ў хатцы, калі старая Бейля ўжо спала, я ўпісваў гэтыя вершыкі начыста ў прыгожую запісную кніжачку, якую купіў у краме. Кніжачку я назваў «Мірыям». Яна была ўся запоўнена гімнамі неіснуючай дзяўчынцы Мірыям. Дзяўчынка майго ўзросту, пятнаццаці год жыла толькі ў маёй фантазіі. Часта Мірыям мяняла свой выгляд. То яна была з валасамі чорнымі, як ноч, то—залацістымі, як сонца. Вочы яе былі то спелымі вішнямі, то васількамі. Голас яе гучэў, як арфа. Смех—цурчанне ручайка. Дыханне—шэпты кветак і каласоў пад ветрыкам. Яе песні—спевы салоўкі. Усе радасці і смуткі свайго сэрца я прысвячаў цудоўнай мары—Мірыям... Яна была добрая, і мудрая. Яна засланяла ад маіх вачэй мудрацоў талмуда.

Аднаго разу ў жнівеньскі дзень, калі праз каляровыя шклы ў сінагогу прабіваліся сонечныя прамені і ператварылі сінагогу ў фантастычнае падзямелле часоў старадаўняга Егіпта, калі ажылі дрыўляныя львы і арлы на каўчэгу, я чытаў пад сумны спеў юных талмудыстаў гімны сваёй Мірыям. Кніжачка з вершамі ляжала ў мяне на тоўстым фаліянце. Я чытаў з захапленнем, у голас:

Мірыям... Мірыям...

Перад тваімі вачыма пятнаццаць разоў цвіла чаромха і зелянела руњь.

Я пацалую залацістую пасму тваіх валасоў і ад асалоды памру ля ног тваіх.

Не! Не памру. Дазволь мне жыць і піць асалоду з тваіх галубіных вачэй. Хачу гуляць з табою, як з роднай сястрой.

Мірыям... Мірыям...

Ты мне бліжэй за бацьку і матку. Ты мне даражэй за жыццё. Ты—маё неба. Ты—мая зямля. Ты—маё шчасце. Ты звіла навекі гняздо ў маім сэрцы.

Мірыям... Мірыям...

Над полем стаіць белы, як малако, туман. Ля рэчкі пасуцца цяляты. Пастушок грае на жалейцы, а я сяджу на камені ды спяваю песню. І кожнае слова маёй песні—любоў да цябе. І кожнае слова маёй песні—хвала красе тваёй.

Мірыям... Мірыям...

Я забуду малітвы вечнаму небу.

Дазволь раніцой і ўвечары вымаўляць тваё спеўнае імя... Я гляджу на зоркі і думаю, што гэта твае вочы. Я слухаю песні салоўкі і думаю, што гэта твой голас. Я гляджу на макаў-цвет і думаю, што гэта твае губкі.

Мірыям... Мірыям...

Раптам нада мною замітусіўся цень. Я ўстрапянуўся.

Ля майго штэндара стаяў высокі, грозны, чорнабароды аскет—інспектар рэб Шмар'е...

Рукі і ногі ў мяне амярцвелі. Мне зрабілася холадна і горача.

Рэб Шмар'е ўзяў з маіх рук кніжачку пад назвай «Мірыям». Чытаць было лёгка, бо я для большай прыгажосці пісаў друкаванымі літарамі. Ён углыбіўся ў кніжку. Я, нібы загіпанатызіраваны, глядзеў на яго і не мог крануцца з месца. Ён чытаў доўга. Навокал майго штэндара сабраўся ўвесь юны народ, усе мае таварышы.

Кончыўшы чытаць «Мірыям», рэб Шмар'е закусіў бараду, пранізаў мяне наскрозь двума вострымі кінжаламі чорных вачэй і загаварыў не да мяне, а да маіх таварышоў:

— Сыны Ізраіля... Рвіце на сабе вопратку, абсыпайце галовы попелам у знак жалобы. Гэты пасадзецкі шэйгец здрадзіў яўрэйству. Напісаў кніжачку пад назваю «Мірыям». Ні разу імя бога не ўспамінае ў кніжцы. Яго кніжка—сорам і спакуса. Яго кніжка—усхваленне мацеры нячысцікаў—Ліліт. Утапілася ў смале пякельніцы душа маладая... Яна прапала, прапала для святой торы, для бацькоў... Пагасла іскра з полымя Адэная...

Аскет рэб Шмар'е не біў мяне. У яго вачах стаялі слёзы—кракадзілавыя слёзы.

Маю кніжачку спалілі на каменнай падлозе ў пярэднім пакоі сінагогі...

Рэб Шмар'е так напалохаў юных талмудыстаў, што яны ад мяне адступіліся, нібы мяне перадалі Анафеме.

— Ухадзі з гэтага святога мура,—сказаў рэб Шмар'е са

строга ўзнятай рукой.—Ухадзі! Гаспадарам тваіх дзён я скажу, каб яны цябе больш не кармілі. Ухадзі з гэтага мястэчка, бо калі я цябе ўбачу на вуліцы, не мінаваць «малкес».

Я вышаў з сінагогі ў апошні раз. Старой Бейлі сказаў, што выбіраюся пехатой у Пасадзец. Я ўзяў з сабой толькі кніжкі. Бейля дала мне на дарогу кавалак хлеба.

Бывайце назаўсёды, таноім і амайроім—прафесары і дактары талмуда! Вашы старадаўнія рыцары Гілель і Шамай, Попай і Гуна памёрлі ў маім сэрцы. Нібы туман, растаялі пад сонцам жыцця паветраныя замкі Ерусаліма і Вавілона.

Адно імя ўвасабляе маю новую мару—Мірыям...

Хацеў пабачыць Элю, расказаць яму праўду аб трох даларах і папрасіць прабачэння, але не ўдалося сустрэцца з ім. Я рашыў напісаць яму аб гэтым пісьмо дома і пераслаць поштай.

Іду лясной дарогай. Пахне смалою, багуном і грыбамі. Спяваюць жаўранкі. Можа гэта грае на лютні мая Мірыям? Здалёк плывуць да мяне гукі жніўных песен. Спяваюць некалькі жанчын. Палоняць мяне жыватворчыя сілы зямлі—яе радасці і смуткі. Можа гэта сумуе і радуецца Мірыям?

* * *

Навіны пасадзецкія мне вядомы. Памёрла мая бабуля. Памёрлі стагоднія дзяды Юстын і Мірон. Мае таварышы па хедэру памагаюць працаваць бацькам. Дзеці карчмара гандлююць. Пані Чапкоўская судзіцца з вёскай за луг. Мае таварышы пастушкі праходзяць свой парабкоўскі талмуд. Нудна паўзе жыццё. Стагоддзямі яно стаіць на месцы.

Іду дамоў і думаю: такая ў хаце цесната, што мне прыдзецца спаць на падлозе.

Я набліжаюся да родных мясцін.

Як мяне сустрэне бацька? Ведаю. Ён запытаецца:

— Што з цябе будзе?

Пасля гэтага пакутліва на мяне зірне і паведаміць:

— У мяне-ж і без цябе шэсць чалавек дзяцей. Было восем, дык пару бог забраў. З табою было-б якраз дзевяць... Табе ўжо пятнаццаць год. Сам павінен разумець.

Ён змоўкне на хвіліну, зірне на мяне, як утапаючы на човен, і дадасць шэптам:

— Такія сыны, як ты, ужо дапамагаюць бацькам... Ведаеш... Я-ж вечна гарую аб адным, каб хацця хлеб быў у хаце.

Так. Мае дзіцячыя годы скончыліся.

Трэба працаваць і вучыцца!

Гэта было ў 1902 годзе.

*Пімен Панчанка*

## У НАВАЛЬНІЦУ

Перуны грукаталі ў прасторы пустым.
Прыгіналіся к долу кусты.
І у цёмным прадонні набухшых крыніц
Гаслі водбліскі бліскавіц.

Мы стаялі удвох. І тугая каса
Ненарокам кранула мой твар.
І тады я адважыўся і расказаў
Пра сардэчны, як кажуць, пажар.

Ты-ж глядзела на клён, што на вуліцы мок,
Быццам бачыла першы раз.
Я адказу твайго дачакацца не мог,
І агеньчык надзеі пагас.

Вось і схлынулі хмары, і дождж перацiх,
Чуўся кропель буйных перазвон.
Асцярожна трымаў на ладонях тугіх
Серабрыстае зарава клён.

Я з трывогай аб нечым цябе запытаў...
Ты хутчэй заспяшыла дамоў:
«Я нічога не чула, бо гром грукатаў,
Другім разам раскажаш ізноў».

1939 г.

---

## МЕЛІЯРАТАРЫ

Усёроўна—ці Мазыр, ці Хойнікі:
Балаты асушым тут і там.
Абы толькі вогнішча у хвойніку
Гатавала чай заўсёды нам.

Сонца будзе нашым спадарожнікам,
З сонцам працаваць і жыць лягчэй.
Астралябій тонкія трыножнікі
Не намуляць маладых плячэй.

На гнілую багну з ліхарадкаю,
Пусцім стрэлы светлыя канаў,
Каб зямля была сухой і гладкаю,
Каб палескі змрок навек сканаў.

Вечарамі, пасля працы спорнай,
У рацэ даваць будзем нырца
І на вогнішчы пад небам зорным
Будзем смажыць сала на дубцах.

Пра дзяўчат пагутарым і песняй
Патрывожым душны сон імшар...
Вылячым зямлю сваю ад плесні
І радзіме прынясем у дар.

«Не дарэмна хлеб ядзім мы!—скажам ёй.—
Уладанні новыя прымай,
Яблынямі, вішнямі абсаджвай,
Залатой пшаніцай засявай!»
1939 г.

*Л. Гаўрылаў*

## ЦІШЫНЯ

Цішыня над полем і над лесам,
Ī на хаты пала цішыня.
Сінім небам—месячык бялесы,
Сінім небам—грае вышыня.
Ī плыве, як грэчкі пах мядовы,
Ī плыве, як васільковы пах,
Ціхі смутак зеленагаловы
Аб вачах любімых, аб губах.
Наш рубеж акованы гранітам
Ī напят, як тонкая струна.
Ды спрабуй, струну тую крані ты—
Адзавецца грукам перуна.
А пакуль спакойны заранiцы,
П'юць расу палеткі на зары—
Сцерагуць свяшчэнную граніцу
Усе таварышы, усе мае сябры!
Вось таму над лугам, над садамі
Ī на воды пала цішыня,
Ī дарог мядзянымі слядамі
Пабрыла нямая даўжыня.

---

## У КАСАВІЦУ

Больш ад хмелю пахучая ў лузе трава!
Твае кудры жартун-вецярок рассыпаў,
Сарамліва цябе наляту цалаваў,
Ī расла, і расла за капою капа.

Спорна ў дружбе гарачай работа ідзе.
Ī не ў знак, што на вуснах у кропельках пот,
Ī не ў знак, што ў крынічнай халоднай вадзе
Густасіні замер небазвод.

Усплыве ў ціхай завадзі месяц тугі,
Пранясуцца апошнія ў даль касачы—
Будуць высіцца густа радамі стагі,
Будзем слухаць трапеткія шэпты начы.

Ї забудзецца цяжкая стомленасць рук.
Зоры мкнуцца ў каханыя вочы—наніз,
Разгараецца ў шустрай лявонісе круг,
Толькі русай чупрынай трасе гарманіст!

Зоры гаснуць. Ї зноўку цудоўна мігцяць.
Ї птушынае ранне прабуе лады.
Мы шчаслівы, як можна ў кіпенні жыцця
Быць шчаслівымі нам—маладым!

---

*І. Гурскі*

# ПАТРЫЕТЫ

*П'еса ў 3 дзеях, 9 карцінах*

ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

ВАЕВОДЗІН—старшы лейтэнант, начальнік заставы
ЛЮБОЎ НІКАЛАЕЎНА—яго жонка.
САСНОЎСКІ—младшы палітрук.
ГЛАДКІХ Цімох—аддзельком.
ЦІТ—старшыня пагранічнага калгаса „Правда“.
НАСТА—яго жонка, калгасніца.
АКСІННЯ—іх прыёмная дачка, даярка калгаса.
ПАВЕЛ—іх сын, брыгадзір калгаса.
РУДНЕЎ—калгасны пастух.
КРУШЫНІН—пагранічнік.
БАЙКАЧ—служыў у Чырвонай Арміі, ў сувязі, зволіўшыся працуе па гэтай спецыяльнасці.
ДОМНА—калгасніца-цялятніца.
АНІСІМ—повар.
УДАЛАЎ—пагранічнік, потым парторг заставы.
ТРУТНЕЎ—адказная асоба.
ПЕКАРСКАЯ—шпіёнка.
СКВАРЦОЎ—дыверсант.
ЛІХАДЗІЕЎСКІ—ветэрынарны фельчар.
ЛЁЛЯ—машыністка.
ПОЛЯ—стэнаграфістка.
ПАГРАНІЧНІКІ, сяляне.

*Дзея адбываецца на заходняй граніцы ў 1937 годзе.*

---

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА 1

Лес. Стаяць стогадовыя дубы. Дзе-ні-дзе пракідаюцца хвоі, бярозы. Вясна. Цячэ рэчка. Спакой, цішыня. Гладкіх і Крушынін, змяніўшыся з сакрэту, ідуць на заставу.

Гладкіх (*застанавіўся*). Каля гэтых трох дубоў, мінулай вясной, быў забіты Пархоменка. (*Садзіцца на пень, закурвае*). Чаго мяне цягне сюды?

Крушынін. Прыгожае месца. (*Прысаджваецца*). Таварыш Гладкіх! А вы так і не сказалі, дзе ўчора былі?

Гладкіх (*напявае*). Ой, мы ўчора да вечара
Дзень гулялі,
Мы не русую касу
Прапівалі.

Ды Аксінню мы не замуж
Выдавалі.
Праважалі мы Аксінню
У Маскву-горад,
Ды к Сталіну вялікаму
У госці.
Выхадзіла свет-Аксіння
За вароты,—
Маладая і прыгожая
У новых ботах.
Гаварылі мы Аксінні
Усе разам,
Каб прывет перадала
Ад калгаса.

Крушынін. А ад нас як, перадалі прывет?

Гладкіх. Асобы, пагранічны!

Крушынін. Не забудзецца?

Гладкіх. Яна моцна любіць мяне. *(Напявае).*

Крушынін *(паглядзеў на Гладкіх).* Спяваеце? Вясёлыя людзі доўга жывуць.

Гладкіх. Я і не збіраюся паміраць. Мы з вамі—кавалачак камунізма захопім. Будзем унукам расказваць пра граніцу. «Дзядуля,—запытаецца,—няўжо ты быў комсамольцам?» А вы, таварыш Крушынін, павесялелі. Чаго толькі я не перадумаў пра вас. Локаць к локцю ляжыш, трэба ведаць з кім?..

Крушынін *(усміхнуўшыся).* Калі мяне прызначылі на граніцу, страх узяў. Не ведаў, што буду рабіць. Стаў чытаць пра Беларусь. Наткнуўся на каўтун, па начах не мог спаць. Стаяць перад мною высокія, худыя, згорбленыя людзі з доўгімі непрыгожымі рукамі і з шышкамі на галовах. Прыязджаю—зусім другая карціна. Беларусы такія-ж, як і ўсе. Палюбіў я Нёман—быструю рэчку, валакністы лён, сінявокіх дзяўчат. *(Гладкіх ціха напявае).* От чалавек, песня з вуснаў не сходзіць.

Гладкіх. Песня—мая слабасць. *(Прыслухоўваецца).* Таварыш Крушынін! Чуеце, нешта плюхаецца?

Крушынін. Няйначай, шчупак вышаў на прагулку. *(Прыглядаецца).* Не. Дзікая качка з выводкам. Хто-ж гэта яе ўспароў? Мусіць недзе чалавечыя ногі ходзяць? Няма Анісіма. Той-бы зараз пачаў свае паляўнічыя байкі. Учора бачыў ва сне яго Домну. Як сціснула, з мяне і дух вон. Азярод, а не жанчына. Гара. І сняцецца-ж чорт ведае што!

Гладкіх. Не добра, калі жанчыны сняцца.

Крушынін. А што?

Гладкіх. Для здароўя шкодна.

Крушынін. Пасваталі-б каго. Вы ўсіх тут ведаеце.

Гладкіх. Знойдзем дзяўчыну.

Крушынін. Уступіце Аксінню. Ха-а-ро-о-шая дзяўчына. Чатырох парушальнікаў затрымаць!

Гладкіх. А-ах, які я сёння злосны, чорт вазьмі!..

Крушынін. Навошта злавацца? Не я, дык Сасноўскі адаб'е. Ён можа! Младшаму палітруку пакарыць сэрца . дзяўчыны, усё адно, што нам з вамі папяросу выкурыць.
Гладкіх. Вы не ведаеце Аксінні.
Крушынін. Што вам стоіць пераступіць дзяўчыну другому.
Гладкіх. Чаго захацелі? Ласунчык!
Крушынін. Скажыце, у вас сям'я вялікая?
Гладкіх. Маці, бацька, пяць сясцёр і тры браты.
Крушынін. Ого! Цэлае аддзяленне. Зайздрошчу! А я адзін, як стаю.
Гладкіх. А дзе вашы бацькі?
Крушынін. У дзевятнаццатым з голаду памерлі.
Гладкіх. А раней маўчалі. Хадзілі як індык надзьмуты. *(Пачуўся стрэл, абодвы ўскочылі).*
Крушынін. Што такое? З таго боку?
Гладкіх. Не. Гэта Вяршынін стрэліў. *(Пачуў трэск, прыглядаюцца).*
Крушынін. Столькі галля валяецца. Павычышчаць, ці што?
Гладкіх *(усміхнуўся)*. А навошта? Я спецыяльна панакідаў. *(Зноў чуваць трэск)*. Бачыце, паўзуць.
Крушынін *(прыглядаецца)*. Дзе?
Гладкіх. Унь.
Крушынін. Бачу куст і больш нічога.
Гладкіх *(паказвае)*. Глядзіце, кусты рухаюцца.
Крушынін. Скажыце, як жывыя. І што ім трэба? *(Цэліцца)*. Больш не палезуць. Мы, саратаўскія, такія!
Гладкіх. Не страляйце. Трэба жывымі ўзяць.
Крушынін. Ёсць. Жывымі ўзяць.
Гладкіх. Колькі іх?
Крушынін *(прыглядаецца)*. Чатыры і адна. Сілы не роўныя.
Гладкіх. Чаго там! Мне траіх і вам двое. Галава! Толькі— свае не выстаўляйце.*(Крушынін прылёг)*. Трэба адрэзаць ім мажлівасць адступлення. *(Камандуе)*. Сто-о-ой! Рукі ўверх! *(Кінуліся на дыверсантаў. Пачуўся стрэл)*. Лажыся!
Крушынін *(схапіўся за нагу)*. О, чорт! Метка б'юць! Прахвосты!
Гладкіх *(лежачы)*. Вы ранены? Ідзіце на заставу. Я—не прапушчу.
Крушынін *(хутка перавязаўшы нагу)*. Таварыш аддзельком. Рана не цяжкая. Дазвольце застацца.
Гладкіх. Страляць можаце?
Крушынін. Магу.
Гладкіх. Бачыце, адзін адрываецца. Падняўся і пайшоў. Яго трэба прызямліць.
Гладкіх. Ёсць. Прызямліць. *(Папоўз)*.
Гладкіх. Гм. Трое падняліся. Сто-о-ой! *(У адказ пачуўся стрэл)*. Ах, сволачы! *(Прыцэліўся, страляе)*. Няма аднаго. (Зноў прыцэліўся). Другі пакланіўся зямлі. *(Камандуе)*. Сто-о-ой! Не хочаш? *(Дасылае патрон. У гэты час пачуўся стрэл. Гладкіх выпусціў вінтоўку з рук)*.

Сасноўскі *(падбегшы)*. Сто-о-ой! *(Страляе)*.
Гладкіх. А-а-а, зладзюга, скапыціўся. Зараў носам зямлю. Метка б'яце таварыш младшы палітрук! *(Чуваць стрэл)*.
Сасноўскі. Хто там страляе?
Гладкіх. Крушынін.
Сасноўскі. Што з вамі? Увесь у крыві?
Гладкіх *(хацеў падняцца)*. Няўжо-ж гэта паміраць прыдзецца?
Сасноўскі. У вашы годы толькі жыць.
Гладкіх. Я не вельмі што, каб і спяшаўся. Але...
Сасноўскі *(разарваўшы на сабе кашулю, перавязвае)*. Але жыць не даюць.
Гладкіх *(скрывіўся ад болю)*. Не чапайце... Вось партбілет... Пакуль агледзеўся... гімнасцёрка прамокла...
Сасноўскі *(узяўшы партбілет)*. Паправіцеся... вярну...
Гладкіх. Каб-жа яно так...
Сасноўскі. Як Крушынін у баю?
Гладкіх. Герой! Будучы раненым, застаўся ў баю. Ён там! *(Хацеў паказаць, рука падае на зямлю)*.
Сасноўскі. Дзіўна! Чаму гэта—рана ў спіну?
Гладкіх. Не ведаю.
Крушынін *(падбегшы)*. Таварыш младшы палітрук. Дазвольце дакласці. Вы і я—па аднаму і таварыш Гладкіх двух, разам чатырох улажылі. Адна знікла. Таварыша Вяршыніна, які быў у сакрэце, яны абышлі. Банду дыверсантаў суправаджала аддзяленне салдат. *(Да Гладкіх)*. Вы ранены? *(Нахіляецца)*.
Ваеводзін *(падбегшы)*. Што здарылася? Чаму такая стральба?
Сасноўскі. Чатырох зваліді. Адна прарвалася.
Ваеводзін. Та-а-ак. *(Да Гладкіх)*. Куды вы ранены?
Гладкіх. Сам не разбяруся... Нібы плашкаю ў спіну... Потым стала горача...
Удалаў *(падбегшы)*. Таварыш старшы лейтэнант. Пастух калгаса «Праўда» Руднеў паведаміў, што ў Нёманскім лясніцтве з'явілася незнаёмая, якая прабіраецца ў мястэчка Пруды. Руднеў паспрабаваў яе затрымаць, але яна адкрыла па ім агонь і як скрозь зямлю праваліласся.
Анісім *(падбегшы з двухстволкаю)*. Таварыш старшы лейтэнант. Домна паведаміла па тэлефону...
Ваеводзін. Якому тэлефону? Домна каля Яснай паляны лён поле. *(Незадаволена)*. Хоць бы каўпак скінулі.
Анісім. Я за дзікам сачыў. «Анісім!—крычыць,—нейкая шалёная зладзейка праз дарогу перабегла». Я дагадаўся, што гэта шпіёнка. Домна кінулася яе даганяць, а я сюды, вас паведаміць. Дазвольце ногі размяць.
Ваеводзін. Можна. Толькі хутчэй.
Анісім. Ёсць. На адной назе. *(Пабег)*.
Ваеводзін *(да Удалава)*. Падняць калгаснікаў «Праўды», «Зялёнай Дубравы» і «Шлях соцыялізма». Акружыць лес і не выпусціць адтуль. Самі зараз-жа вяртайцеся сюды.

Удалаў. Ёсць. Падняць калгаснікаў. Акружыць лес і не выпусціць адтуль. *(Пабег).*

Ваеводзін. Ну і дні пашлі. Лезуць гады—не дай рады. На ўчастку лейтэнанта Обухава чацвёра ўзброеных маўзерамі спрабавалі прайсці, але былі знішчаны.

Крушынін. Загадаеце мёртвых абшукаць?

Сасноўскі. Мёртвыя нікуды не дзенуцца. Трэба адправіць таварыша Гладкіх у больніцу.

Гладкіх. Покуль даеду... Яе-б злавіць, наробіць бяды...

Ваеводзін. Яна нідзе не дзенецца... Вось-бы вас як... *(Хацеў падняць).*

Гладкіх *(застагнаў).* О-ой... Прапала... *(Чуцен сігнал).*

Сасноўскі. Ну вось і машына прышла. А вы не сумуйце.

Гладкіх. Чаго? Буду жыць. *(Прыслухоўваецца).* Лес шуміць. Кланяюцца бярозы. Смалой пахне. Аксінюшка. Ну-у! Ці давядзецца ўбачыць? А сонца будзе свяціць. *(Да Ваеводзіна).* Галаву апусцілі? *(Да Сасноўскага).* І вы? Харо-о-шыя начальнікі. Жыць, жыць... *(Яму стала горш).* Поезд ідзе... *(Усе пераглянуліся паміж сабою).* Аксіння езде з Масквы... *(Прыпадняўся, заспяваў «Масква мая»).* Едзе... едзе... едзе... *(Асунуўся).*

Сасноўскі *(камечучы ў руках шапку).* Вось яно жыццё чалавечае, тут быў і тут не стала. Э-эх!

Крушынін *(шчыра).* І я хацеў-бы так памерці.

Сасноўскі *(усхвалёвана).* Жыць трэба, жыць. Але жыць не даюць. З тылу стралялі? Хто-о???

Крушынін. Няўжо яна паспела абыйсці? Не-е... *(Пахіснуўся).*

Ваеводзін. Вам дрэнна? Ідзіце на заставу.

Удалаў *(падбегшы, рапартуе).* Загад выканан. Калгаснікі пайшлі ў абход. Узначальвае групу Ціт Станкевіч.

Ваеводзін. Добра. *(Разглядаюць партбілет Гладкіх).* Увесь у крыві?..

Сасноўскі. Ён быў у кішэні гімнасцёркі.

Ваеводзін *(да Сасноўскага).* Трэба выставіць сакрэт, каля балотца, што правей маладога сасняку. Небяспечнае месца.

Удалаў. Таварыш старшы лейтэнант. Дазвольце мне стаць у сакрэт.

Ваеводзін. Можна. *(Да Крушыніна).* Дойдзеце да заставы? А то сядайце ў машыну.

Крушынін. Дайду.

Сасноўскі. Вам, таварыш Удалаў, выпала вялікае шчасце першым стаць на вахту пасля смерці патрыёта нашай радзімы.

Удалаў. Я ганаруся гэтым. *(Бяруць труп забітага, нясуць).*

Ваеводзін *(сціснуўшы кулакі. Да Удалава).* Клянуся за галаву таварыша зрабіць горы з касцей фашысцкіх псоў. *(Пауза).* Загадваю граніцу трымаць на большэвіцкім замку, каб ні адна гадзюка не перапаўзла.

Удалаў. Ясна. Загадана граніцу трымаць на большэвіцкім замку, каб ні адна гадзюка не перапаўзла. Я ніколі не забуду амыты крывёю партбілет. Дазвольце ісці?

**Ваеводзін.** Ідзіце. Будзьце такім, як Цімох Гладкіх. *(Удалаў пайшоў у бок граніцы, астатнія на заставу. Чуваць гудок машыны).*

## КАРЦІНА II

Службовы пакой пры зале з'езду. На стале тэлефон. Прыходзяць заклапочаныя стэнаграфісткі, машыністкі, абслугоўваючы персанал. Калі адчыняюцца дзверы, чуваць прамовы. Сустракаюцца Лёля і Поля. Каля тэлефона Байкач: „Алё! Праверачка". Па другому тэлефону звоніць: „Алё! Алё! Папсавана". Разбірае апарат.

**Лёля.** Ну, як там? Полічка!

**Поля.** Сыплюць Шчуцкаму, аж пыл ляціць. Не затрымлівай, Лёлічка!

**Лёля.** Пачакай! А ён што? Адбіваецца?

**Поля.** Перш рэплікі кідаў, а потым змоўк. Прыперлі к сцяне. Сядзеў чорны як хмара, а потым падняўся і пайшоў.

**Лёля.** Куды ён мог пайсці? Трэба пазваніць жонцы.

**Поля.** Я пазваню.

**Лёля.** Не, я! *(Падыходзяць да тэлефона).*

**Байкач.** Грамадзянкі! Па гэтых тэлефонах размаўляць нельга.

**Лёля.** Нельга!? Думаеце, так ужо і скінулі Шчуцкага. Яго не ў першы раз дзяўбуць. І ўсё сухім з вады выходзіць. *(Да Полі).* А яшчэ што цікавага?

**Поля.** Мілачка, не магу. Трэба, золатца, стэнаграму расшыфроўваць.

**Лёля.** Паспееш. Ніколі няма часу пагаварыць.

**Поля.** Што робіш сёння?

**Лёля.** Друкую цэтлікі на абеды. На стэнаграмах адпачываеш.

**Поля** *(па сакрэту).* За Трутнева бяруцца. Выступіла нейкая ордэнаноска, Аксіння, і так сыпала, што Трутнеў і бялеў і чырванеў. «Вы,—кажа,—несяце адказнасць за шкодніцтва ў вёсцы». Потым падняўся вайсковы... Толькі ты нікому...

**Лёля.** Ух, як цікава! Трэба паведаміць Серафіме Нікалаеўне.

**Поля.** Я пазваню.

**Лёля.** Не, я! *(Ідуць да тэлефона).*

**Байкач.** Званіць забаронена. Апарат папсаван.

**Лёля.** Хто забараніў?

**Байкач.** Памочнік сакратара.

**Лёля.** Такі ўжо ваш апарат. Скажу Серафіме Нікалаеўне. Яна прапіша абодвым іжыцу.

**Байкач.** А чаму не старшынісі? Тую асадзілі. Будзе і сакратаршы тое самае.

**Лёля.** Яшчэ не вядома. Трутнеў усіх сваіх крытыкаў на лапаткі пакладзе.

**Поля.** Трутнеў гэта можа. То віляе хвастом, то раптам зубы пакажа. На людзей кідаецца. Ён заўсёды блытае. Адзін раз назаве мяне Поля, а другі—Лёля. Не можа адрозніць авёс ад сена.

**Лёля.** Авёс гэта я.

Поля. Не, я.
Лёля. Ты ў новым плацці?
Поля. Праціўная! Калі заўважыла.
Лёля. Куды сёння пойдзем?
Поля. «Маленькую маму» глядзець.
Лёля. Зойдзеш да мяне?
Поля. Добра. *(Разыходзяцца).*
Байкач *(павярнуўся да дзвярэй).* Што вам трэба, грамадзянка? Казаў, Трутнеў заняты. З'езд ідзе. Хто вас прапусціў?
Пекарская. Варта. Я пачакаю.
Байкач. Званіце ў прэзідыум. Памочнік сакратара распарадзіўся...
Пекарская. Мне ён патрэбен.
Байкач. Адкуль вы такая настойлівая?
Пекарская. З Ленінграда. Месяц сяджу ў гасцініцы «Еўропа» і чакаю работы. *(Хоча ісці).*
Байкач *(не пускае).* Ну вы, Еўропа, не націскайце.
Пекарская. А мне трэба.
Байкач. Чакалі месяц, пачакаеце яшчэ адзін дзень. У яго дзяржаўныя справы. Не націскайце, кажу, а то адпраўлю ў камендатуру.
Пекарская *(адыходзячы).* Прабачце.
Байкач. Праходзьце, праходзьце. Трутнеў адказная асоба. Яму няма часу.
Пекарская. У мяне таксама дзяржаўныя справы.
Байкач *(у бок).* Ну і яна! Выпхнеш з адных дзвярэй, у другія лезе.
Пекарская. А вы хто такі? Трутнеў—сакратар. На лапках перад ім хадзіць павінны.
Байкач. Цяпер гэтага не водзіцца. У яго свае абавязкі, а ў мяне свае. Паважаем, калі чалавек на рэволюцыю працуе, а не...
Пекарская. Глядзі ты, які рэволюцыянер? А калі не?
Байкач. Па шапцы, хто-б ён ні быў.
Пекарская. Ну-у?
Байкач. А што вы думалі! Шчуцкі старшынёю працаваў. Але, калі народ даведаўся, што ён звярнуў з дарогі, дык так наламаў бакі, што доўга не ачухаецца. З народам не жартуй, чорту рогі скруціць.
Пекарская. Шчуцкі на з'ездзе?
Байкач. У сваім кабінеце сядзіць.
Пекарская. Як ён сябе адчувае?
Байкач. Дрэнныя паперы. На людзей не глядзіць. Вочы так і бегаюць, як у злодзея.
Пекарская. Выберуць яго ў совет?
Байкач. Нават да галасавання не дапусцяць.
Пекарская. Ну, а Трутнеў як? Добры сакратар?
Байкач. А вы хто такая?
Пекарская. Настаўніца.
Байкач. Не раскусілі яго. Надта скрытны. Вачыма зямлю рые. Нашага брата ні ў грош не ставіць.

Пекарская. Кажаце, скрытны?
Байкач (*хітра*). Вы сапраўды настаўніца?
Пекарская. Так.
Байкач. Чаго вы тут аціраецеся? Едзьце ў пагранічны калгас «Правда», што недалёка ад мястэчка Пруды. У нас памерла настаўніца.
Пекарская (*хітра*). Я адмовілася туды ехаць.
Байкач. Чаму?
Пекарская. Граніца. Нікога знаёмых.
Байкач. Пазнаёміцеся.
Пекарская. А што вы думалі, можа і паехаць. Вы будзеце першым маім знаёмым. Як вас зваць?
Байкач. Сымон Байкач.
Пекарская. Сенечка!
Байкач. А вас як?
Пекарская. Ірына Казіміраўна Пекарская. Як служыцца?
Байкач. Я адслужыў. У сувязі працую. Прасіўся ў адпачынак, не пускаюць.
Пекарская. А што ў вас?
Байкач. Маці хворая.

(Выходзіць Трутнеў, страшна ўсхваляваны. Калі ён адчыняе дзверы, з залы даносіцца магутны голас: „Смерць здраднікам рэволюцыі").

Байкач. Сам ідзе.
Пекарская (*падыходзіць да Трутнева*). Покуль да вас дабярэшся...
Трутнеў. Вы хто такая? (*Да Байкача*). А вы як трапілі сюды?
Байкач. Папраўляў тэлефон. Ваш памочнік прасіў нікога не пускаць. Мы даўно з ім знаёмы.
Трутнеў. Скажыце свайму начальніку, каб ён вас не пасылаў на з'езд. (*Злосна*). Што ёй трэба?
Байкач. Яны ніяк не могуць дачакацца прызначэння ў школу. А ў вёсцы не хапае настаўнікаў. Парадачкі ў Воранава, нечага сказаць... Хаос... (*Выходзіць, зачыняючы за сабою дзверы*).
Пекарская. Некалькі разоў да вас звaніла. Тут пратарчала з гадзіну. (*Аглядаецца кругом*). Мне з вамі трэба пагаварыць з вока на вока.
Трутнеў. Гаварыце.
Пекарская. Маё прозвішча Пекарская.
Трутнеў (*хвалюецца*). Кажыце хутчэй. Я чалавек заняты.
Пекарская (*мнецца*). Ведаеце, не зусім выпадае. Можа зойдзеце да мяне ў гасцініцу.
Трутнеў. Што вам трэба?
Пекарская. Мы незадаволены вашай работай.
Трутнеў (*злосна*). Хто гэта мы? З якога вы раёна? Хто вас туды паставіў? Відаць яшчэ мінулае кіраўніцтва? (*Усміхнуўшыся*). Яны нездаволены маёй работай!? (*Пра сябе*). Убраць...
Пекарская (*хітра*). Як дабрацца да Турава?
Трутнеў (*насцярожана*). Узялі візу і паехалі.

Пекарская. Візу не так лёгка дастаць.
Трутнеў. Я магу дапамагчы.
Пекарская. Дзякую.
Трутнеў. Сабе даражэй каштуе.
Пекарская. Мадрыд.
Трутнеў. Лондан.

(Усміхнуўшыся, вітаюцца).

Пекарская. Мяне паслалі непасрэдна да вас. Правал за правалам. Так больш нельга! Усё трашчыць па швох.
Трутнеў. Сядайце, калі ласка.
Пекарская *(аглядаецца па ўсіх бакох)*.
Трутнеў. Слухаю вас. Ну, і трусіха-ж вы!
Пекарская. Хоць вы і адказная асоба, усё-ж трэба—асцярожней.
Трутнеў *(хітра)*. Дзе вы шылі гэта плацце?
Пекарская. У мадысткі Шорынавай.
Трутнеў. Непакоіцца няма чаго.
Пекарская. Вам відней. *(Садзіцца, а насупроць яе Трутнеў)*.
Трутнеў. Як здароўе шэфа?
Пекарская. З страўнікам не ў парадку.
Трутнеў. З дваццаць першага года яго не бачыў. Відаць, пастарэў.
Пекарская. Нічога, трымаецца. Увесь час ён мала вас турбаваў. А цяпер настала пара. Трэба дзейнічаць. Што са Шчуцкім?
Трутнеў. Няважныя справы. Пашчыпалі крыху.
Пекарская. Добрае «крыху». Шэф за яго непакоіцца.
Трутнеў. Меры перасцярогі прыняты.

(Праходзіць Поля).

Пекарская *(хітра)*. Чорт ведае, што робіцца ў Наркомасвеце... Месяц як скончыла інстытут і ніяк не дачакаюся прызначэння...
Трутнеў *(нібы абурана)*. Цэлы месяц!.. Узгрэем Воранава... *(Поля пршла)*.
Пекарская. А што, калі Шчуцкі здасць?
Трутнеў. Тым горш будзе для яго. *(Чуцен глухі стрэл. Пекарская ўздрыганулася)*.
Пекарская. Што такое?
Трутнеў. Праверым. *(Звоніць па тэлефону)*. Соф'я Уладзіміраўна? Крумкач. Што за стральба? *(Вешае трубку)*. Шчуцкі застрэліўся.
Пекарская. Тым лепш. *(Праходзіць Лёля)*. Прашу заставіць мяне ў горадзе...
Трутнеў. Не можам... У вёсцы не хапае людзей... *(Да Лёлі)*. Што вам трэба, Поля?
Лёля *(нездаволена)*. Мяне завуць Лёля. На свеце многа красак: трэба ўмець адрозніваць адну ад другой. *(Пашла)*.
Пекарская. Тут не дагаворышся.
Трутнеў. Толькі тут.

П е к а р с к а я. Як з адкрыццём граніцы?

Т р у т н е ў. Усё ў парадку. Падрыхтавана да дробязей. Пачнецца вайна, паляціць усё ўверх...

П е к а р с к а я. Падрыхтавана!? Там на граніцы не то што не пройдзеш, але на жываце не прапаўзеш. На участках старшага лейтэнанта Ваеводзіна і лейтэнанта Обухава восмерых нашых забілі. Малодшы палітрук Сасноўскі напавал уложыў майго мужа.

Т р у т н е ў *(развёў рукамі)*. Выпадковасць. Убярэм Сасноўскага. *(Запісвае ў блакнот).*

П е к а р с к а я. Сярод насельніцтва—аптымізм. Усяго хапае. З дробязей трэба пачынаць. Шэф нездаволен.

Т р у т н е ў. Памілуйце! Тут з'езд ідзе, а там чарга за хлебам. Трыццаць тысяч знішчана конскага пагалоўя. Сто пяцьдзесят тысяч свіней. І ўсё яшчэ мала?

П е к а р с к а я. Мала, мала, мала! За людзей трэба брацца, за дзяцей. Трэба пасеяць паніку, нездаволенасць. Коней знішчаеце, а людзі... людзі зноў коней гадуюць. За людзей трэба брацца, глушыць.

Т р у т н е ў. Гэта не так лёгка.

П е к а р с к а я. Розум патрэбен. Не марудзіць ні адной хвіліны. Самы падыходзячы момант. *(Перадае пакет).*

Т р у т н е ў *(узяўшы)*. Што тут?

П е к а р с к а я. Дырэктывы. Прачытайце, спаліце.

Т р у т н е ў. Добра. *(Кладзе ў кішэню).*

П е к а р с к а я. Не, вы будзьце ласкавы, пры мне.

Т р у т н е ў *(разрывае канверт, чытае)*. За людзей брацца? *(Яшчэ раз перачытаў, паглядзеў ва ўсе бакі, паліць).* З якога канца пачынаць?

П е к а р с к а я. Яны нашых б'юць, а мы іхніх. Паглядзім, чыё возьме?

Т р у т н е ў. Для мяне незразумела, чаго цягнуць з вайной?

П е к а р с к а я. Паспрабуй, сунься. Іх адзін, а нашых восмера злягло. Так ваяваць нельга. Да-а. Я застаюся тут. Мне патрэбна работа.

Т р у т н е ў. Якая?

П е к а р с к а я. Настаўніцы. Сасноўскага і Ваеводзіна—сама ўбяру.

Т р у т н е ў. І без вас зробяць.

П е к а р с к а я. Я сказала, што сама.

Т р у т н е ў. Калі ласка. *(Звоніць па тэлефону).* Гэта ты, Воранаў? Трутнеў гаворыць. Да цябе зойдзе Пекарская. Пе-кар-ская. Дасі ёй работу. Якую? Яна сама скажа. Новыя дырэктывы? Ёсць. Заходзь. Са Шчуцкім? Гатоў. *(Павесіў трубку).*

П е к а р с к а я *(хацела ісці)*. Да-а. Мне патрэбен адзін чалавек. Байкач яго прозвішча. Ён сёння абслугоўвае з'езд. Нядаўна звольніўся з арміі. Цяпер працуе ў сувязі. Трэба, каб яму далі адпачынак.

Т р у т н е ў *(запісвае)*. Як толькі?

П е к а р с к а я. Ён гаварыў, што маці хворая.

Трутнеў. Будзе зроблена.
Пекарская (развітваючыся). Да пабачэння!
Байкач (убегшы). Алё! Таварыш Трутнеў! Чулі стрэл? Гэта-ж Шчуцкі застрэліўся. Вас клічуць.
Трутнеў (спакойна). Гэта стрэл варожы...
Байкач. Відаць, заблытаўся.
Трутнеў (паглядзеў на Байкача). Перадайце—я іду. (Байкач выходзіць).
Пекарская. Што скажаце з'езду?
Трутнеў (падумаўшы). На сямейных справах...
Пекарская. Разумна. Ітак, я еду ў калгас «Правда», Прыязджайце ў госці.
Трутнеў. Дзякую. Буду.
Байкач (увайшоўшы, да Трутнева). Вас чакаюць.
Трутнеў (да Пекарскай). Усяго добрага! (Выходзяць).
Байкач (адзін). Доўга яна яго мучыла. Дрэнна, калі дзяўчаты з начальнікам..

(Уваходзяць Лёля і Поля, яны ўсё чуюць).

Поля. Якія дзяўчаты, з якім начальнікам?
Байкач. Да Трутнева нейкая заходзіла.
Лёля. І гэта ўжо не ўпершыню. Трэба пазваніць Серафіме Нікалаеўне.
Поля. Я пазваню!
Лёля. Не, я!
Байкач. Што вам трэба, перапёлкі? Авёс, сена. Толькі апараты псуюць.
Поля. Хто авёс, а хто сена?
Байкач. Хіба вас разбярэш. (Пра сябе). Шчуцкі застрэліўся...
Лёля. Ну-у?
Поля. Няўжо-о?
Лёля. Я пазваню!
Поля. Не, я!
Лёля (да Байкача). Можна?
Поля (просячы). Дазвольце.
Байкач (махнуў рукой). Званеце. (Выходзячы). Мяне тут няма.

(Лёля і Поля падбягаюць да тэлефона).

Поля (узялася за трубку). Я пазваню!
Лёля (вырывае трубку). Не, я!
Поля (палажыла трубку). Не будзем, Лёлічка, з-за глупства сварыцца.
Лёля. І я гэтак думаю, Полічка!
Ваеводзін (выходзячы з Аксінняй з зала). Кажаце, падула свежым ветрам? (Закурваючы). Скразнячкі, яны карысны. Ну і ўсыпалі вы Трутневу, малайчына. (Пауза). Як у Маскве?
Аксіння. Добра, усё добра. Раскажу. А ў нас што? Вы хацелі нешта важнае для мяне сказаць?
Ваеводзін (цяжка). Учора Цімох Гладкіх забіты. Усё вас з Масквы чакаў.

Аксіння (*заплакала*). Цімоша! Мілы!

Ваеводзін (*заспакойваючы*). Аксіння! Мне думалася... Адно-ж, вы перш за ўсё жанчына.

Аксіння. Сталі-б вы на маё месца. Без бацькоў расла. Палюбіла чалавека і раптам...

Ваеводзін. Я таксама без бацькоў гадаваўся. Дзенікінцы расстралялі. Як цяпер помню палкоўніка Скварцова. Бацька яму рассек шчаку. Уходзячы ў Чырвоную Армію я прысягнуў на брацкай магіле адпомсціць за іх смерць.

Поля. Чу-у-л-і-і? Шчуцкі застрэліўся...

Ваеводзін. Застрэліўся, туды яму і дарога.

Аксіння. Цімох нічога не казаў?

Ваеводзін. Апошнія яго словы: «Едзе... едзе... едзе...»

Аксіння (*праз слёзы*). Еду, любы!.. еду... еду. (*Выходзяць*).

## КАРЦІНА III

Калгас „Праўда". Рэчка. Відаць стары млын, новы калгасны хлеў, сілосная вежа. Праходзіць Кацярынінскі шлях, абсаджаны бярозамі. Байкач, ловячы рыбу, напявае „Капитан, капитан, улыбнитесь". Падыходзіць Пекарская.

Пекарская. Дзе мне знайсці старшыню калгаса? У вёсцы ні адной душы, нібы павыміралі.

Байкач. Шпіёнку трэці дзень шукаюць. А вы хто такая?

Пекарская. Настаўніцай прыслалі.

Байкач. Дакумент? Можа вы і ёсць шпіёнка? Цягаюцца па свеце зладзеі. А народу непакой.

Пекарская. Ха-ха-ха! Шпіёнка сама ў рукі не прыдзе. Няма дурных. (*Дае дакументы*). Ну як, злавілі што?

Байкач (*разглядае дакументы*). Дзе там! Швэндаюцца злыдні па беразе. Рыба не любіць гэтага.

Пекарская. Торкае. Пацягнула.

Байкач (*схапіў за вудзілна*). І нешта вялікае. О, чорт! Апошні кручок паехаў. (*Злосна*). У некаторых людзей бываюць вочы, дык каб яны ім павылазілі. Такі быў кручок!

Пекарская (*усміхнуўшыся*). У мяне здаецца недзе былі кручкі. (*Глядзіць у рэдыкюлі*). І я часамі люблю пасядзець на рэчцы. (*Дае кручкі Байкачу*).

Байкач. Вельмі ўдзячан! (*Узяў кручок, прывязвае*). Другі раз у жыцці такі выпадак. Аднойчы закінуў на плотку. Гляджу, торкае. Я хваць, адно-ж там шчупак...

Пекарская. Закідалі на плотку, а ўзяўся шчупак? Хаця ў рыбаловаў бывае!

Байкач (*злосна паглядзеў на Пекарскую, закінуў вудачку, праглядае дакументы*). Пекарская? Дзе я вас бачыў? (*У бок*). Нічога мордачка.

Пекарская. А вы хто такі? Чаму ў вайсковым? Без шапкі? Не зашпіліўшыся? Будзь я камандзірам, трое сутак гаўптвахты.

Байкач. Кажуць: «Бадлівай карове бог рог не дае». Пекарская? Вы ўчора на з'ездзе былі? (*Ветліва*). Сядайце, калі ласка.

Пекарская (*села, потым ускочыла*). А-ай!

Байкач. На кручкі селі? (*Адчапіўшы кручок, у бок*). От каб такую плотку ўвабраць!?

Пекарская (*падстаўляе руку*). Пры жаданні ўсё можна.

Байкач (*не ведае што рабіць*). Сядайце, калі ласачка.

Пекарская. Ну і рыбалоў-жа з вас! (*Выстаўляе руку*). Цалуйце!

Байкач (*пацалаваўшы*). Прапаў. (*Садзяцца*).

Пекарская. А я вас шукаю.

Байкач (*здзіўлена*). Мяне? Навошта я вам спатрэбіўся? Здаецца такі непрыкметны чалавечак? Адкуль вы ведалі, што я дома?

Пекарская. Я прасіла за вас Трутнева.

Байкач. То-та я гляджу, выклікае мяне Нарком сувязі дый кажа: «Таварыш Байкач! У вас—маці хворая. Што-ж вы раней не гаварылі? Прадастаўляем вам месячны адпачынак». А ў мяне, уласна кажучы, маці даўно памерла. Проста захацелася рыбы палавіць. Я так спяшаўся, што нават кручкоў не купіў.

Пекарская. Вось як! А чаму вы не пашлі шукаць шпіёнку?

Байкач. Мая хата з краю. І без мяне абыйдзецца. Знойдуць.

Пекарская. Не так лёгка.

Байкач. Дзякую за клопаты пра адпачынак. Ніколі не забуду. Толькі не гаварыце, што маці памерла. З работы знімуць.

Пекарская. Не-е.

Байкач (*раптам*). Цікава, чаму вы прасілі за мяне?

Пекарская. Спадабаліся. Такі стройны, прыгожы.

Байкач (*пра сябе*). І сапраўды, на мяне, часам, калі я служыў у арміі, заглядалі камандзіршы, пальцам паказвалі. Адна неяк сказала, як-жа яна сказала? Ага! «Невялічкі ростам, шустры, з невялічкаю душою. Трус і падхалім, кажа, якіх у свеце мала». (*Хітра*). Мусіць-жа для нечага я вам спатрэбіўся.

Пекарская (*зарагатала*). Я люблю мужчын здаровых, цвёрдых характарам, адважных.

Байкач (*паціскае плячмі, у бок*). Ні таго, ні гэтага ў мяне няма. (*Напалохана*). Што вам трэба?

Пекарская (*паглядзела кругом, хітра*). Адплата па вексялёх.

Байкач. Ні ў кога я не пазычаў.

Пекарская. Забыліся? То мы напомнім.

Байкач. Чаго вы хочаце ад мяне?

Пекарская (*падсоўваецца*). Невялікае дзельца ёсць.

Байкач (*адсоўваецца*).

Пекарская. Вы баіцеся мяне?

Байкач. Кажыце, што вам трэба?

Пекарская. Давайце заспяваем. У вас такі дзіўны голас! (*Спявае: «Капитан, капитан, улыбнитесь»*).

Байкач (*напалохана*). У нас аднаго інжынера такая перапёлка збіла з дарогі. Спявала салаўём, а аказалася гадзюкай.

Пекарская. Ха-ха-ха! Ну і трус-жа вы! А яшчэ мужчына! Рыбалоў! Не, мусіць з вамі кашы не зварыш. А ваш бацька зусім не такім быў.

Байкач (*убок*). Пулі залівае! (*Да Пекарскай*). Адкуль вы ведаеце майго бацьку?

Пекарская. Ён пры паляках быў солтысам.

Байкач (*рэзка*). Нічога не выйдзе, паненка. Не на таго нарваліся. (*Ускочыў*). Я вас адпраўлю ў камендатуру. Вы і ёсць тая шпіёнка, якую шукаюць.

Пекарская. Ён мяне адправіць! Мала кашы елі. Паскачаце і на тым месцы сядзеце.

Байкач. А я не хачу садзіцца.

Пекарская. Сядзеш. (*Паглядзела ва ўсе бакі*). Ваш бацька лічыцца, што быў у партызанах, а на самай справе,— служыў у дыфензіве.

Байкач (*садзіцца*). Не магу я несці адказнасць за бацьку.

Анісім (*падыходзячы з двухстволкай*). Э-эй! Рыбалоў! Вуда паплыла.

Байкач. Алё! (*Кінуўся да рэчкі*).

Анісім. А-а-а! Удваіх? Ну, значыць, трэці лішні. (*Праходзячы, да Пекарскай*). Вы хто такая?

Байкач. Новая настаўніца.

Анісім. А-а-а. Гэта ты Сымон? Здароў!

Байкач (*вітаючыся*). Добры дзень!

Анісім. У водпуск?

Байкач. Ага!

Анісім (*паказваючы на Пекарскую*). Са сваімі прыладамі!?

Байкач. Не-е.

Анісім. Ну, старайся. Вось што, каля трох дубоў шчупакі вядуцца. Прыходзь! (*Пашоў*).

Байкач. Абавязкова прыду!

Пекарская. Хто гэта?

Байкач. Повар на заставе.

Пекарская. Ну, што скажаш?

Байкач. Бацька сабе, а мы сабе. Адкуль я мог ведаць, дзе ён служыць. Я тады быў малым.

Пекарская. Малым? А кантрабанда?

Байкач. Адзін толькі раз схадзіў. Купіў тавару на боты і дзюжыну кручкоў. Мне ніхто гэтага не ўспамінае. Нават у армію ўзялі.

Пекарская. А хто браў, дзе ён цяпер?

Байкач (*апусціўшы галаву*). Спёкся, дзякаваць богу.

(Чуцен голас: „О-го-го-го-о!")

Пекарская. Хто гэта гарланіць?

Байкач. Калгасны пастух Руднеў.

Пекарская. Ненавісны чалавек.

Байкач. Не, нічога хлапец.

Пекарская. Мала ён цябе біў?

Байкач. Адкуль вы ведаеце?

Пекарская. Біў, прыгаварваючы: «Гэта за тое, што бацька солтыс. А гэта за тое, што галубоў ганяў. А гэта за тое, што паненцы дагаджаеш».

Байкач (*моргае вачыма.*).

Пекарская. Калі даведаўся, што хадзіў у кантрабанду, хацеў у новых ботах каля старога млына ўтапіць.

Байкач (*напалохана*). Ядзя!

Пекарская. Ірына Казіміраўна.

Байкач. Але-ж Ядзя. Панна Дварэцкая. Такія былі лядашчыя. Зусім перамяніліся.

Пекарская. Так. Ядзя Дварэцкая. Але аб гэтым ніхто не павінен ведаць. (*Падумаўшы*). Ты мне дапаможаш у адной справе.

Байкач. Не магу. Прашу вас, не затрымлівайцеся доўга. Іначай я адпраўлю ў камендатуру.

Пекарская. Вы ў другі раз аб гэтым гаворыце. А ваша абавязацельства. (*Дастае з рэдыкюля, чытае*): «Гэтым я, Сымон Байкач, абавязваюся, па першаму патрабаванню дыфензівы...»

Байкач (*хацеў вырваць*).

Пекарская (*выхапіла рэвальвер*). Не дурыся!

Байкач. Мяне прымусілі падпісаць, і ўсё кручкі няшчасныя. Пайду і скажу.

Пекарская. Трэба было тады гаварыць, калі ў цябе пыталіся. Камендант цэлы месяц цягаў.

Байкач. Баяўся. Паслухайце, як было. Лаўлю рыбу. Хваць акунь і адкусі кручок. А ў мяне ён быў апошнім. Што мне рабіць? «Прапала—думаю—уся мая лоўля». Тады днём з агнём нельга было знайсці кручкоў. Зажыгалкі яшчэ прыносілі з горада. Падыходзіць чалавек з Заазер'я. Мы з ім часта сустракаліся на рыбе. У трыццатым годзе яго раскулачылі. «Чаго,—пытаецца,—прыгаруніўся хлопча?» Расказаў я яму аб усім. «Невялікая,—кажа,—бяда. Кручкоў можна дастаць». Угаварыў ён мяне аднесці нейкія паперы на той бок. Аднёс. Там дастаў—на боты, кручкоў, ну і сам трапіў на кручок. Пайду...

Пекарская. Сядзі і не рыпайся.

Байкач. Дык чаго вы хочаце ад мяне?

Пекарская. Быць гаспадаром свайго слова.

Байкач. Я ніколі ім не быў. Натура такая.

Пекарская. Тады я скажу Трутневу.

Байкач. І Трутнеў? Значыць не дарэмна пра яго хадзіла пагалоска, што ён выдаў партызан.

Пекарская. У гэтай справе вялікую паслугу аказаў твой бацька.

Байкач (*садзіцца, апусціўшы галаву*).

Пекарская. Напішаш аб узбраенні палка, у якім служыў.

Байкач (*моўчкі ўзяў блакнот, напісаўшы*). А цяпер адчэпіцеся?

Пекарская. Яшчэ невялікае дзельца ёсць. Усыпаць вось гэта ў рэчку. (*Дае*). Падняцца ўверх. (*Паказвае*).

Байкач (*напалохана*). Атруціць жывёлу? Дый людзі часам п'юць з рэчкі ваду. Не, не!

Пекарская. Ты гэта павінен зрабіць і зробіш. Калі будзеш рабіць тое, што я скажу, ашчасліўлю. (*Падсаджваецца*). А не, мяне растраляюць і цябе разам са мною.

Байкач (*калоціцца*). Не гаварыце гэтага. (*Чуваць шамкі*).
Пекарская. Хто гэта едзе? Вяселле якое, ці што?
Байкач (*прыглядаецца*). Аксіння. Была ў Маскве. Відаць не ведае, што яе Цімоха забілі. Моцна яны любіліся.
Пекарская. А ведаеш, хто забіў?
Байкач. Не. Кажуць у спіну стралялі.
Пекарская. Сасноўскі... Ён страшна закаханы ў Аксінню.
Байкач. Трэба ў партарганізацыю сігнальчык падаць.
Пекарская. А Ваеводзін разам з ворагамі народа служыў у атрадзе, а да гэтага вучыўся ў ворагаў народа.
Байкач. І аб гэтым сігнальчык падам.
Пекарская. Цяжка толькі пачаць. З-за іх твой бацька раней пары ў магілу залёг. Далей пойдзе, як па маслу.
Байкач. Ну і цвёрды-ж характар быў у Цімоха Гладкіх. З песняю, кажуць, паміраў. Маці Аксінні будзе ўбівацца, яна такая сэрдабольная. На Далёка-Усходняй граніцы сына забілі, а тут—зяця. Ёй баяцца гаварыць.
Пекарская. Падумаеш, забілі двух чалавек. На вайне не гэта бывае.
Байкач. Хіба-ж у нас вайна?
Пекарская. Малая вайна.
Байкач (*прыглядаецца*). Ладная дзяўчына Аксіння. На памяць ведае «Евгения Онегина». Асабліва здорава ў яе атрымоўваецца пісьмо... Ну, як яе... ага, Тацяны. (*Махае рукою*). Алё! Прывет!
Пекарская. Яна кім тут?
Байкач. Даяркай. (*Зноў махае рукою*).
Пекарская. Ты глядзі ў мяне. (*Праз некаторы час едзе другая падвода*).
Байкач. Хто гэта там?
Пекарская (*прыглядаецца*). Ліхадзіеўскі. Коней паглядзіць, прывівачку свінням зробіць.
Байкач. Чаго добрага?..
Пекарская (*усміхнуўшыся*). Ці яны нас, ці мы іх. Альбо, альбо.
Байкач. Загубіць стада? (*Ускочыў*). Не, не!
Пекарская. Садзіся. (*Байкач садзіцца. Паклала руку на плячо*). Малады, прыгожы, о чо-о-орт!
Байкач, Што вы са мной робіце?
Пекарская. Дурніца! Ты думаеш, яны забыліся, што ты хадзіў за граніцу?
Байкач. Нават ніхто не ўспамінае.
Пекарская. Успомняць! (*Угледзеўшы, што падыходзіць Руднеў, да Байкача, голасна*). Дзе-б мне крыху адпачыць?
Байкач. Можаце зайсці да нас.
Руднеў (*падышоўшы*). Здароў, Сымон!
Байкач (*падняў руку*). Прывет! Ну, як ты жывеш, Пятро?
Руднеў. О-о-г-о-о! Лепей за ўсіх! (*Вітаючыся*). А гэта хто такая?
Байкач. Новая настаўніца. З Мінска прыслалі.

Руднеў. Зусім не падобна на настаўніцу, хутчэй артыстка.
Пекарская. А артысты хіба не людзі?
Руднеў. Наадварот. Я страшна люблю артыстаў. Дзівосны народ!
Пекарская. Мусіць больш за ўсё артыстак. Ха-ха-ха!
Руднеў. Весялуха. Добра, да восені ў драмгуртку зоймем. Будзеце іграць лэдзі Анну ў п'есе «Кароль Рычард III».
Пекарская. Шэкспіра ставіце? Цікава! А хто будзе іграць караля Рычарда III?
Руднеў. Я.
Пекарская. Вы? Ха-ха-ха!
Руднеў. Паглядзім, хто лепей сыграе.
Пекарская (*многазначна*). Будзем бачыць.
Руднеў (*усміхнуўшыся*). О-го-го-о! Я гэту рольку так адцяпаю, што аж чэрцям моташна стане. Ёсць дзе разгарнуцца. Шэкспір! О-го-го!
Пекарская. Чаго вы так крычыце?
Байкач (*да Пекарскай*). Будзьце асцярожны. У яго характар круты.
Пекарская. А хто будзе іграць Елізавету, каралеву?
Руднеў. Аксіння.
Пекарская. Пацешна!?
Руднеў. Будзь Вільям жывы, ён-бы такую эпапею закаціў аб нашых днях. О-го-го-го-о!
Пекарская (*схапілася за вушы*). Чаго вы так галёкаеце?
Руднеў. Прывычка. (*Крута*). Не люба, не слухайце.
Пекарская (*да Байкача*). Я страшна стамілася.
Байкач (*да Руднева*). Настаўніца з дарогі стаміліся. Гарадскія. Не прывыклі да хадзьбы.
Руднеў (*крывіць*). Настаўніца з дарогі, стаміліся? Ніяк з цябе не выб'ем духу солтысавага. Прывык лізаць панскія талеркі.
Байкач. Но-но! Ты ў мяне глядзі! А то я магу раззлавацца.
Руднеў. Што-о?
Байкач (*падыходзячы*). Паламі толькі вуду.
Руднеў. Шкада, што ты ў форме. Хаця, без звязды.
Байкач. Но, но! Што ты да мяне маеш? Чаго ты вечна чэпішся? Я цяпер не той, што быў калісьці.
Руднеў. Відаць. Скажы, чаму не пашоў шпіёнку шукаць?
Байкач. А вы яе знайшлі? Яна ліха ведае дзе апынулася.
Руднеў. Скажу старшыні калгаса, каб напісаў Наркому сувязі. Папруць з работы. А яшчэ ў арміі служыў. Што з цябе будзе, калі пачнецца вайна.
Байкач. Каго папруць? Што ты пляцеш? Я магу раззлавацца.
Руднеў. Такія за радзіму не памруць. У лепшым выпадку ў кустах перачакаюць. Людзі ад малога да старога, як мурашкі лес абсыпалі, шпіёнку шукаюць, а ён рыбу ловіць. (*Падыходзячы*). Недарэмна ты мусіць хадзіў за кручкамі? Мо' трапіў на кручок? Зматвай тады свае вудачкі. Каб твае і нагі тут не было!

Байкач (*напалохана*). Што ты, братка? Я магу раззлавацца. (*Рудней падыходзіць*). Но, но!

Пекарская (*непакоіцца*). Я страшна хачу піць.

Байкач. Зойдзем да нас. Нап'яцеся. (*Да Руднева*). Ты мяне будзеш помніць!

Руднеў (*паківаў галавою*). Прапашчы ты чалавек! (*Чуваць шум*). Што такое?

Аксіння (*крычыць*). Ніякай прывіўкі. Ведаем гэтыя штучкі.

Ліхадзіеўскі. Якія штучкі. (*Паказвае паперку*). Прадпісанне цэнтра. (*Да Пекарскай*). Пасудзіце самі, у шасцярых коней выяўлен сап. Іх трэба неадкладна знішчыць. А яна падбухторыла баб, тыя з вілкамі і стрэльбамі акружылі стайню і блізка не падпускаюць. (*Да Аксінні*). Вы за гэта адкажаце. (*Відаць выстаўленая варта каля хлява*).

Аксіння. Ніякага сапу. Ва ўсякім разе, я распарадзілася гэтых коней паставіць асобна. Тыдзень таму назад аглядалі, былі здаровымі. Выклічам вайсковага ветурача, праверым.

Ліхадзіеўскі. Ні чорта ён не разумее.

Аксіння. Больш за вас. Вы толькі фельчар.

Ліхадзіеўскі. Я практык...

Аксіння (*да Байкача*). Хто яна?

Байкач. Наша настаўніца.

Аксіння. Ага! (*Да Пекарскай*). Разумееце, выбраў самых лепшых коней, адвёў за сілосную вежу і хоча застрэліць.

Ліхадзіеўскі. Дык вы-ж і свінням не даеце рабіць прывіўкі. (*Паказвае паперку*). У мяне загад.

Пекарская (*паглядзела на паперку, паціснула плячмі, да Ліхадзіеўскага*). Не разумею, чаго вы цацкаецеся. У вас ёсць прадпісанне. Могуць усё стада заразіць.

Ліхадзіеўскі. Правільна. (*Пайшоў*).

Аксіння. Не-е. Я не дапушчу знішчыць калгаснае стада. (*Падняла руку, потым апусціла, пачуўся крык жанчын*).

Ліхадзіеўскі. Што-о! (*Падаўся назад*). Бабскі бунт!? Арыштаваць.

Руднеў. О-го-го-о!

(Падбягаюць жанчыны).

Наста (*выходзіць наперад*). Убірайцеся адсюль па дабру па здарову.

Домна (*да Ліхадзіеўскага*). Каму кажуць? А то я вас у бараній рог сагну.

Ліхадзіеўскі. Арыштаваць зачыншчыкаў.

(Жанчыны накінуліся на Ліхадзіеўскага).

Аксіння (*падняла руку*). Таварышы, спакойна. (*Да Ліхадзіеўскага*). Паедзем у НКВД. Па адной толькі Беларусі знішчана трыццаць тысяч конскага пагалоўя. Гэта справа брудных рук...

Ліхадзіеўскі. Я не вар'ят туды ехаць... Калі патрэбен буду, яны па мяне прыедуць... Я практык...

Пекарская *(паглядзела на Аксінню, у бок).* Альбо я яе, альбо яна мяне.

Аксіння *(да Ліхадзіеўскага).* Паедзем, галубчык, паедзем. *(Ліхадзіеўскага акружаюць жанчыны, вядуць).*

---

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА IV

Вялікая калгасная хата на дзве палавіны. Чыста прыбрана. Відаць нікеліраваны ложак, а на ім гара падушак. Стаіць піяніна. Поруч баян. Многа кветак. Наста, скончыўшы вышываць партрэты Леніна і Сталіна, любуецца, потым прыбівае да сцяны.

Наста *(як прыбіла).* Нешта-ж нашых мужчын доўга няма? *(Напявае: «Як крыніца цячэ»).*

Ціт *(увайшоўшы).* Што тут за крык быў?

Наста. «Практык» прыязджаў. Хацеў шасцёра коней знішчыць, зрабіць свіням прывіўку. Аксіння не дазволіла.

Ціт. Добра зрабіла. *(Распранаючыся).* Газет не было?

Наста. Не. Што з табою, бацька? Чаму ты, Ціт, такі засмучоны?

Ціт. Так сабе.

Наста. Ведаю цябе не першы год. Не знайшлі шпіёнкі?

Ціт. Шукай ветра ў полі.

Наста. Уваб'ецца свіння ў агарод, наробіць шкоды. *(Да Ціта).* Супакойся. Вазьмі баян, сыграй.

Ціт *(разглядае вышытыя партрэты).*

*Наста.* Ну, як? Ці падобныя хоць крыху? Ты-ж іх абодвых бачыў.

Ціт. Сказаць табе праўду? Многа намалёвана партрэтаў Леніна і Сталіна...

Наста. Але падобных мала?..

Ціт *(углядаецца).* Ведаеш, лепшай вышыўкі я нідзе не бачыў.

Наста. Шкада—не паспела скончыць, каб з Аксінняй перадаць у Маскву. Але нічога, Гладкіх збіраўся ехаць, дык з ім перашлю. Ці бачыў ты Цімоха? Непакоіцца напэўна, у часе, калі ён нёс вахту, перайшла. Аксіння жыцця яму не дасць.

Ціт *(да сябе).* Ніхто яму цяпер не дасць жыцця...

Наста. Недзе-ж і Валодзя так, як і Цімох стаіць на граніцы. Ты нешта хацеў сказаць?

Ціт. З Гладкіх не добра...

Наста. Яму будуць непрыемнасці. Я гэта ведаю.

Ціт *(ён не адважваецца паведаміць аб смерці ні сына—Уладзіміра, ні Гладкіх).* Не тое...

Наста. А што? Кажы. Я прывыкла к нечаканасцям. Старшы лейтэнант наказаў Цімоха? Па заслугах. Няхай добра глядзіць. Ці можа з Валодзяй што здарылася?

Ціт *(мучыцца).* Не магу... *(Глядзіць у акно).* Што гэта за яна, з Байкачом разгульвае?

Наста. Новая настаўніца. Што ты хацеў сказаць?
Ціт. Потым.
Наста (*глядзіць у акно*). Да нас ідзе.
Ціт. Чаго ёй трэба?
Наста. На прыём. Хоць бы пераадзеўся, старшыня калгасны.
Наста. Чаму ты адзяеш гэту дзяругу? Адзявай з гальштукам. Выходны дзень. Аксіння заходзіла. Слёзы на вачах. Відаць пакрыўдзілася, што Цімох не сустрэў.
Ціт. Яна нічога не сказала?
Наста. Не. А што яна павінна была сказаць?
Ціт. Ну, як там у Маскве?
Наста. Ведаеш што, бацька, няхай-бы яны ўжо жаніліся. А то сохнуць адно па другім. З гальштукам, кажу, адзявай!
Ціт. Я, Настачка, адзену чорную рубашку.
Наста. Да сіняга касцюма пасуе белая сарочка. (*Вырвала з рук рубашку*). Сорамна! Каб сказаў не было чаго адзець.
Ціт (*неахвотна адзяе белую сарочку, а потым праз галаву гальштук*). Не прывык я да гэтага хамута.
Наста. Гэтым хамутом плеч не наб'еш. Калгасам нябось цяжэй кіраваць і то навучыўся, а гальштука завязаць не ўмее. (*Падыходзіць, папраўляе*). За цяперашнім ладам толькі і пакрасавацца.

(Праходзіць паштальён, кідае ў акно газету).

Ціт (*пераадзеўшыся, адзяе акуляры, разглядае газету*).
Наста. Што новага на свеце?
Ціт (*паглядзеў з-пад акуляраў на Насту*). На Ўсходзе неспакойна. (*Наста насцярожылася*). Прабачай, на Захадзе. Даўно хацеў акуляры змяніць, ды ніяк не выбяруся ў горад.
Наста. Чорт іх ведае, чаго ім трэба. Правучыць-бы іх добра і на Захадзе і на Ўсходзе. А то ў іх аднялася памяць і зрок.
Ціт (*асцярожна*). На граніцы перастрэлка была. Восьмера дывер-сантаў улажылі.
Наста. А з нашага боку, як? Усё добра?
Ціт (*цяжка*). Забілі аднаго.
Наста. Праклятыя! Бацькі недзе дома чакаюць. (*Праслязілася*).
Ціт (*паклаў газету*). Ну вось ты ўжо і плакаць. Вочы ў вашага брата на мокрым месцы.
Наста (*выцірае слёзы, надзела акуляры, узяла газету, праглядае*). Дык-жа тут нічога няма пра граніцу. Ой, саколе! Водзіш ты мяне, старую, за нос. (*Прыглядаецца*). Шчуцкі застрэліўся?..
Ціт. А я і не заўважыў. (*Бярэ газету, праглядае*). Па сямейных справах?!. Штосьці не так! (*Стук у дзверы*).
Наста. Уваходзьце!
Пекарская (*як зайшла*). Добры дзень!
Ціт. Дзень добры!
Пекарская. Мяне прыслалі настаўніцай у вашу школу. Вось мае дакументы. Тут без дакументаў ні кроку.
Ціт. Пазаўчора пераляцела птушка. (*Праглядае дакументы*). Адкуль родам?

Пекарская. Са Случчыны. Бацьку ў часе грамадзянскай вайны забілі.

Цiт. Хто? Дзе ён служыў?

Пекарская. Быў чырвонаармейцам... *(Злосна)*. Што вас так цікавіць?

Цiт *(спакойна)*. На граніцы жывем. *(Паглядзеў на Пекарскую)*. Адкуль у вас столькі злосці?

Пекарская. Прабачце, калі пакрыўдзіла.

Цiт. Хіба на такую жанчыну, як вы, можна крыўдзіцца?!.

Пекарская. Навошта вы бярэце абавязкі, не ўласцівыя старшыні калгаса?

Цiт. Жыццё падказвае гэтым займацца.

Наста. Бацька шмат перанёс. Семнаццаць год назад пазнанцы хацелі расстраляць. Пан Дварэцкі падказаў.

Пекарская. Цікава! У чым-жа вы правініліся? Мусіць, нечым угневілі пана?

Цiт. Уся мая віна была ў тым, што ў семнаццатым годзе, калі скінулі цара, дык я пана Дварэцкага, як ён майго прадзеда, падвесіў у мяшку да асіны, з той толькі розніцай, што яго прадзед забіў майго прадзеда, а я пашкадаваў... Фактычна ў мяне тады выхапіў ружжо Байкач, ён потым стаў солтысам. Помню, калі мяне звязалі, падышло панскае шчанё—Ядзя, дый кажа: «Мой прапрадзед падвешваў вашага прадзеда на сасне. А чаму вы падвешвалі майго папа на горкай асіне?»—ды лясь па твары. Афіцэры зарагаталі. Не так балела, як крыўдна было.

Пекарская. Як-жа вас не расстралялі? Цуда нейкае!

Цiт. Ніякага цуда. Хацелі расстраляць, але не ўдалося. Таварышы падскочылі. Адбілі.

Пекарская. Набраліся страху?!.

Цiт. Дзіва што! Пасля, усё-ж, улажыў пана. Шкада, пані з Ядзяй уцякла. Цяпер недзе ў Варшаве балююць. Вядома, гэткае багацце. Колькі маёнткаў. Грошы ў заграничных банках. Аднойчы бачылі Ядзю. З таго боку з маткай, у бінокль разглядала маёнтак. Не хочацца, відаць, расставацца. Ну, не я, дык мае дзеці ёй адпомсцяць.

Пекарская *(да Насты)*. Многа ў вас дзяцей?

Наста. Пятнаццацера было, ды шаснаццатая прыёмная—Аксіння. З іх сямёра памерла, вядома, нястача.

Пекарская. Не бачу я нястачы. Так хораша ў хаце.

Наста. Гэта было пры цару Нікалаю, калом яму зямля. Хіба-ж мы раней так жылі. Пляцы, дзе цяпер пабудаваны, належалі пану Дварэцкаму. Нягодны быў чалавек. А пані яшчэ горшай. Ну, а шчанё, як бацька кажа, паненка Ядзя—далей пойдзе. Добра было-б, каб усю псярню знішчылі. Праўда, яны нічога не ў сілах зрабіць, але напакасціць могуць. У палацах цяпер школа, клуб, кватэра настаўніцы. А раней трое жылі. У дваццатым алеі было спляжылі на дровы, але ў трыццатым—зноў насадзілі. Паглядзіце, якая прыгажосць, усё ў зелені, цвітуць вішні.

Пекарская. Цудоўна!

Наста. Колькі там дзяцей вучыцца! З адной толькі нашай вёскі выйшла ў людзі каля поўсотні чалавек. Адны сокаламі ў паветры кружаць, другія лічаць у небе зоры, трэція, як мой Грыша-танкіст, як качкі па вадзе плаваюць. Летам як паз'язджаюцца—весела. Маткі з любасцю заглядаюць у вочы дзецям, цешацца.

Пекарская (*разглядаючы*). Якія дзіўныя ў вас рамы. Старынныя.

Наста. А гэта мая Каця-медычка, прынесла з маёнтка. У гэтай раме быў партрэт панны Ядзі. Яна яго шасць-шасць і ў печ. А рама спатрэбілася.

Пекарская. Та-а-ак.

Наста. Так нічога не даецца. Іх трэба было ўзяць. А гэта не проста робіцца. «Таксама—мастацтва»,—як кажа мой акадэмік, Пятрусь.

Пекарская. Прыгожыя рамы. Я люблю ўсё старыннае.

Наста. Прызнацца,. яны і мне падабаюцца. Кажуць, што гэтыя рамы, у адной была панна Ядзя, а ў другой пані Дварэцкая, два прыгонных мастакі два гады рабілі. Яна ўся з кусочкаў. Тут каля сотні парод дрэва. Ручная работа! І вось, калі была скончана праца, каб яны нікому другому не зрабілі такіх рам, былі зверскі закатаваны. Ні імя іх, ні магілы ніхто не ведае.

Пекарская (*разглядае партрэты Леніна і Сталіна*). Ручная вышыўка? Ваша? (*Наста кіўнула галавой*). І доўга вы іх вышывалі?

Наста. Больш двух год у вольныя часіны адпачывала. Бацька ў выходны сядзе за піяніна вучыцца, а я іголку ў рукі. Купляў дзяўчатам, а каля іх і сам навучыўся іграць. Партрэты зроблены па гэтых рамах. Калі самой не давядзецца быць у Маскве, то Цімох адвязе.

Ціт. Цімох, не Цімох, але неяк-жа зробім. (*Любуецца*). До-о-бра.

Наста. Ты-б, старык, сыграў што-небудзь.

Ціт. Не магу...

Наста (*папракаючы*). Ты заўсёды не можаш, калі цябе просіш. Ну, сыграй.

Ціт (*садзіцца за піяніна, потым узяў баян, зайграў пахавальны марш Шопена*).

Наста (*усхвалёвана*). Што гэта ты іграеш? Душу раздзірае. (*Да Пекарскай*). Навучыла дачка Зоська-піяністка, на маю галаву.

Ціт. Па пагранічніку.

Наста. Я цябе не разумею.

Ціт (*мучыцца*). Як-жа мне зрабіць, каб ты зразумела. (*Хацеў нешта сказаць*).

Наста. Ну, ну?

Ціт. Не магу... (*Устаў, ходзіць па пакоі*).

Пекарская (*да Ціта*). Як-бы мне кватэру?

Ціт. Пры школе.

Пекарская. Я там не хачу. *(Да Насты і Ціта).* Можа вы здасце?

Наста. Не выпадае.

Пекарская. Я добра заплачу.

Наста. Не ў плаце, мілая, справа. Грошы ў нашай хаце, як той казаў, не пераводзяцца. Лішніх няма, але на свае патрэбы хапае. Ды мы на іх не вельмі сквапныя. Не ў грошах шчасце. Грыша на лета з жонкай прыязджае. Можа Валодзю з Далёка-Усходняй граніцы адпусцяць на пабыўку. Аксіння выходзіць замуж за Гладкіх. А тут Паўлуша падскочыў, брыгадзірам у калгасе, час і аб ім паклапаціцца. Дзяўчаты як яблыні расцвілі. Трэба сям'ю ўпарадкаваць. Пры школе добрая кватэра.

Пекарская. Мне тут зручней. *(Да Ціта).* Дык як-жа будзе?

(Чуцен голас: „О-го-го-го-о!")

Наста *(да Ціта).* Можа Пятро здасць?

Пекарская. Які Пятро? Калгасны пастух?

Наста. Ага. Баявы хлопец. У гэтым годзе двух дыверсантаў злавіў. Можа пажэніцеся.

Пекарская. Многа гонару!

Ціт. Чаго гэта вы так! Яшчэ ці возьме. Ён абы на каго не пакваліцца.

Наста. Пераборлівы. Годы! Пасля трыццаці цяжка ажаніць.

(Уваходзіць Павел, на ім відаць страшнае ўнутранае хваляванне).

Наста. Паўлуша, сынок, што з табою? Ты хворы? Што цябе непакоіць?

Павел *(да Ціта).* Сказаў?

Ціт. Не.

Наста. *(уздыхнуўшы).* Што з табою, саколік? У цябе на твары смутак. *(Прыгарнула да сябе).* Сэрца няроўна б'ецца?

Павел. Проста стаміўся.

Наста. Крывіш душою. Па вачох бачу. Нешта ўтойваеце ад мяне.

Ціт. Дзе ты быў?

Павел. «Генрыха IV» вадзіў паіць. Да рэчкі ішоў, цуглі грыз, іржаў, ледзь не падабраў пад сябе, а ад рэчкі—кладзецца, галаву апусціў. Слёзы з вачэй капаюць, нераўнуючы, як у чалавека.

Ціт. Чаго добрага, вар'яты ваду атруцілі? *(Хоча ісці).* Трэба паведаміць у камендатуру.

Павел. Усё зроблена. А толькі жарабка няма. Доўга небарака біўся.

Ціт. Чырвонай Арміі падарунак рыхтавалі. Думалася, маршал са Спаскіх варот будзе выязджаць на калгасным скакуне, парад прымаць.

Павел. Не гаруй, бацька, другога выгадуем. *(Толькі цяпер заўважыў Пекарскую).* Хто гэта?

Ціт. Новая настаўніца.

Павел. Дакументы правяраў?

Ц і т. Усё ў парадку.
П а в е л *(пра сябе)*. Дакументы дакументамі, а душа не кажух, не вывернеш.
Н а с т а. Людзі ведаюць?
П а в е л. Сказаў.
Ц і т *(скідаючы сарочку)*. Да вечара з зямлі трэба дастаць вады. Трох калодзежаў не хопіць напаіць жывёлу. А галоўнае, людзі.
П е к а р с к а я *(здзіўлена)*. Вада атручана і вы так спакойна гаворыце.
Н а с т а. Крыкам, мілая, нічога не зробіш. Жывучы на граніцы да ўсяго прывыклі. *(Прыглядаецца)*. Коннік скача. *(Да Пекарскай)*. Менш крыку, а больш дзела. *(Зноў глядзіць у акно)*. Здаецца Гладкіх. *(Ціт і Павел пераглянуліся)*. Не, конь Цімоха, але яздок другі. Чаму гэта? Гладкіх нікому не даваў свайго каня. *(Да Паўла і Ціта)*. Чаго вы маўчыце? *(Глядзіць у акно)*. Удалаў на кані? Вараны неспакойны. Чуе маё сэрца нядобрае. *(Выбягае)*.
Ц і т. Добра, што прыехаў.
П а в е л. Яно можа і лепей.
Ц і т. Пра Валодзю скажу, як Цімоха пахаваем.

(Уваходзіць Удалаў, за ім Наста).

Н а с т а *(да Удалава)*. Дзеткі, што з Цімохам? Ён нездаровы?
У д а л а ў *(паглядзеў на Ціта і Паўла, яны кіўнулі галовамі. Бярэ пад казырок)*. Дазвольце, мамаша, дакласці. Ваш зяць, Цімох Гладкіх забіты ў баю з дыверсантамі.
Н а с т а. О-ой!.. *(Апусцілася ў крэсла. Яе падтрымліваюць Ціт і Павел. Калі Ціт нагнуўся, з кішэні выпаў пакет)*.
У д а л а ў. Варожая куля з тылу прастрэліла яму грудзі.
Н а с т а *(поўныя вочы слёз)*. Што гэта за пісьмо? Чаму ты, бацька, нічога не гаворыш? Столькі пячатак... Кажы...
Ц і т *(мучыцца)*. Наш сын...
Н а с т а. Забіты?.. *(Ціт кіўнуў галавою)*. А-а-ай! *(Ёй стала дрэнна, даюць вады)*.
Ц і т. Камісар часці піша, што: «Уладзімір Станкевіч загінуў, як герой. *(Чытае)*. Мы ніколі не забудзем яго імя. «І далей: «А як ён любіў Маскву. Сталіна. Прывіць такую любоў можа толькі такая матка, як вы, Наста Пятроўна, сапраўдная патрыётка.» *(Наста залілася слязмі)*. Ты плачаш, маці...
Н а с т а. Не плачу я...
Ц і т. Не, ты плачаш...
Н а с т а. Гэта самі слёзы льюцца...
Ц і т. Ну, вось, а я думаў... *(У самога слёзы на вачох)*.
П а в е л. Мама! Прашу цябе... Гэтым не падымеш...
Н а с т а. Дайце мне гора выплакаць... *(Горка-горка плача)*.
Ц і т *(сціснуўшы кулакі)*. Э-эх!..
Н а с т а *(прыпадымаецца, поўная рашучасці)*. Помсціць, помсціць. Паўлуша! Сын мой, ты адпомсціш за брата. *(Пауза)*. Як маці,

загадваю табе заняць месца Валодзі. Збірайся, дзеткі, у дарогу.

Павел. Мама! Матуля, любая! *(Абнімае, цалуе).*

Наста. Прысягні перад бацькам і маці, што ніколі не здрадзіш айчызне.

Павел. Прысягаю, ніколі не здраджу айчызне, хоць-бы гэта пагражала смерцю.

Удалаў *(моцна ціснє руку Паўла).* Прывет маладому байцу-пагранічніку.

Павел. Шчэ ці прымуць? Трэба прасіць наркома.

Удалаў. Сыноў, якіх такія маткі мабілізуюць, заўсёды прымуць.

Наста. Памятай, сынку, калі-б не рускія, белапалякі-б пры адступленні бацьку расстралялі.

Ціт. Ведай—мяне не будзе ў жывых, ворагі табе адпомсцяць. Калі ты іх не знішчыш, яны цябе знішчаць. Так у нас было з панамі. Пасылаем на бой, крывавы бой. Звяртайся альбо пераможцам, ці як Валодзя... і Цімох...

Павел. Ясна.

Ціт *(да Насты).* Прашу цябе... Не плач... Гэтым гору не дапаможаш. Ну?..

Наста. Добра, добра. *(Выцірае слёзы).*

Удалаў *(бярэ пад казырок).* Пахаванне адбудзецца ў дваццаць ноль-ноль. Па вас прыедзе машына.

Ціт. Ты, маці, з Аксінняй паедзеш. Мы з Паўлушам пойдзем ваду даставаць. Пазней будзем.

Наста. Паўлуша! Ці ведаюць людзі з калгаса, што вада ў рэчцы атручана?

Павел. Аксіння з сваёй брыгады паслала ганцоў ва ўсе бакі.

Наста. Чыя-ж гэта работа—атручванне вады?

Удалаў. Няйначай тае, якая прашмыгнула. У забітых дыверсантаў знойдзена халера, чума.

Наста. От, напасць! Каб іх саміх халера пабрала. *(Да Удалава).* А хто прыняў баявога каня Цімоха?

Удалаў. Вараны і зброя—не пры дзеле.

Наста. Чуеш, Паўлуша, зямля дрыжыць пад капытамі воранога. Па гаспадару сумуе.

Павел. Я, матуля, паеду на Далёка-Ўсходнюю граніцу. Буду самураеў біць.

Пекарская *(асцярожна).* Ці чулі вы? Кажуць людзі, што ў Гладкіх з тылу стралялі?

Удалаў. З тылу. А што?

Пекарская *(хітра).* Пагалоска прайшла, што страляў нейкі вайсковы са звяздою на рукаве, праз галаву вашага зяця, у дыверсанта. Можа?..

Павел. Гэта Сасноўскі. Ён варашылаўскі стралок. У пятак на ляту пападае.

Пекарская *(хітра).* Кажуць, нібы той вайсковы калісьці любіў Аксінню. Усё можа быць у прыпадку кахання.

Наста. Гэтага не можа быць. Любіў Аксінню младшы палітрук Сасноўскі. Не, не, не!

Пекарская. Людзі гавораць... Няма дыму без агня...
Удалаў. Ва ўсякім разе трэба праверыць.
Ціт. Праверыць ніколі не зашкодзіць. Але-ж гэта, мусіць, злыя языкі гавораць.

(Чуваць гоман. Збіраюцца мужчыны).

Павел *(да Ціта)*. Ну вось і народ сабраўся. Пойдзем ваду даставаць.
Наста. Толькі ты, бацька, не пазніся. Трэба замест сына наглядзецца на зяця. Больш не ўбачымся. *(Да Удалава)*. Які ён цяпер?
Удалаў. Ляжыць, як жывы, усміхаецца. *(Наста зноў плача)*.
Ціт. А ты, маці, трымайся. Паны хочуць вярнуць нам няволю. Нічога не будзе.
Пекарская. Таварыш старшыня! Дазвольце мне з вамі пайсці на работу?
Ціт. Што вы! Напэўна ў руках ніколі рыдлёўкі не трымалі.
Пекарская. Прашу вас.
Ціт. Ну, ідзеце. Прывыкайце. У жыцці можа спатрэбіцца. Хаця для нас выгадней скарыстоўваць людзей, прашоўшых навуку, на другой працы.
Наста *(да Паўла)*. Глядзі ты! Куды народ, туды і яна.
Павел. Паглядзім, як яна будзе капаць
Пекарская *(пачуўшы)*. Будзем бачыць!..

(Чуваць гудок).

Удалаў *(бярэ пад казырок)*. Дазвольце, мамаша, дакласці. Машына прышла.
Наста. Прышло гора ў нашу хату, нахлынула бяда. *(Сабраўшыся)*. Іду, дзеткі, іду. *(Выходзяць)*.

## КАРЦІНА V

На заставе. Ленінскі пакой. Адчынены вокны. Любоў Нікалаеўна прыбіраючы напявае „Все выше". Уваходзяць Крушынін і Удалаў.

Крушынін. О! Любоў Нікалаеўна парадак наводзіць. Толькі ці варта вам гэтым займацца? Трэба сына гадаваць. Ой, гэтыя жанчыны!
Любоў Нікалаеўна. Зноў сваё! От пойдзем лепей ды вынесем з казармы фікусы. Надумаліся дзе ставіць! Вы-ж там спіце. Ай мужчыны, мужчыны!
Удалаў. Прабачце. Не можам. Хіба ўвечары.
Любоў Нікалаеўна. Я пайду—вытру. *(Спынілася, да Удалава)*. Калі вы разбярэце справу Ваеводзіна? Вас-жа абралі парторгам? Ваеводзін з беспрытульніка вырас у камандзіра. Калі расстралялі бацькоў... пашоў па свеце. Ён страшна перажывае.
Удалаў *(здзіўлена)*. Адкуль вы ведаеце, што я парторг? Толькі ўчора адбыліся выбары.
Любоў Нікаласўна. Муж сказаў. І выбары былі не ўчора, а сёння. Скончыліся яны ў гадзіну ночы. Ваеводзін ведае, што

можна гаварыць і што нельга. І нарэшце, як будзе з Сасноўскім?

Удалаў. Каб не ўмяшалася ў справу Аксіння...

Любоў Нікалаеўна. Сасноўскі Аксінню сапраўды кахаў. Праўда, не карыстаўся ўзаемнасцю. Бывае так у жыцці. Аксінню любіў не толькі Сасноўскі, але і Ваеводзін. Ды хто яе не палюбіць. Хіба з вас хоць адзін адмовіцца Аксінню ўзяць у жонкі?..

Удалаў. Гэта праўда.

Крушынін. Аксіння—залаты чалавек.

Удалаў. Ведаю.

Любоў Нікалаеўна. Дык нашто такая напасць на Сасноўскага, што ён з-за рэўнасці забіў Гладкіх. *(Да Удалава)*. І вы, які павінен быў разабраць справу Сасноўскага, на той падставе, што справа не разабрана, галасуеце за адвод яго кандыдатуры ў парторгі.

Удалаў. Прабачце! Я вас паважаю, але...

Любоў Нікалаеўна. Я ведаю, што вы хацелі сказаць. «Але не лезце не ў сваю справу». І будзеце і правы, і няправы. Я беспартыйная; але мне, як і ўсякаму сумленнаму чалавеку, дорага партыя. Яе лёс—мой лёс. Так думаю я, так думае савецкая жанчына. Ваеводзін мне нічога не сказаў аб вашым адводзе. Гаварылі пра гэта Лосеў і Міцін. Я лічу, што вы няправільна зрабілі. Трэба быць Сасноўскім, каб перанесці ўсё гэта. Сасноўскі не мог забіць Гладкіх. Я яму веру. Веру таксама свайму Ваеводзіну і гатова прысягнуць, што ён не звязаны з ворагамі народа. *(Усхвалёвана)*. Гатова пакляссціся сваім дзіцем.

Крушынін. Любоў Нікалаеўна! Вам нельга хвалявацца.

Любоў Нікалаеўна *(да Удалава)*. Вы харошы чалавек, але часам забываеце, што маеце справу з людзьмі. Замест таго, каб шукаць шпіёнку, шукаюць неіснуючую сувязь з ворагамі.

Крушынін. Трэба праверыць.

Любоў Нікалаеўна *(махнула рукой, пайшла)*.

Удалаў. Будзь гэта не людзі, а дровы, раз-раз і гатова. *(Задумаўся)*.

Крушынін *(паглядзеў на Удалава)*. Нечым смачным запахла.

Удалаў. А хіба ты не ведаеш, Анісім дзіка забіў.

Крушынін. Вялікага?

Удалаў. Пудоў на восем.

Крушынін. Зайздрошчу! *(У акно)*. Анісім чым будзеш частаваць?

Анісім. Гарохам, Крушынушка, гарохам.

Крушынін. А што на другое?

Анісім. Каўбасы.

Крушынін. Ну-у?

Анісім *(праз акно)*. А дзе Любоў Нікалаеўна?

Удалаў. Навошта яна табе?

Анісім. Нясу каўбасу пакаштаваць. Ёй трэба малога падкармліваць. Першы Ваеводзін, камандзір, во! І другі «на-яць».

Старшы лейтэнант усю грамадзянскую вайну прайшоў. Ранены. Не тое, што вы, за матчыную спадніцу трымаліся.

Крушынін. Любоў Нікалаеўна на малочнае налягае.

Анісім (*ідучы*). Не выйдзе.

Удалаў. Пастой!

Анісім. Што скажаш?

Крушынін. Ты ў нас міравы повар!..

Анісім (*з гонарам*). Я сам гэта ведаю. Такія каўбасы! За поўкілометра пахнуць. Паглядзі, як палякі насамі круцяць. Толькі не есці ім смачнага беларускага сала і каўбас!

Крушынін. Дзе там!

Удалаў. Мы самі з вусамі.

Анісім. Нічога не будзе, хлопчыкі, не ўгаворыце. (*Пайшоў*).

Удалаў. От, чорт! Упарты як казёл! Ніяк не паддаецца.

Крушынін. Закіну прыманку. (*Крычыць*). Анісім! Раскажы, як ты дзіка забіў?

Анісім. Вельмі проста. Я хутка іду. (*Уваходзіць. На талерцы, пакрытыя сурветкай, каўбасы*).

Удалаў (*хітра*). Гэта-ж трэба ўмець так прыгатаваць...

Анісім (*усміхнуўшыся*). Ты-ж яе яшчэ не каштаваў. (*Прыадкрывае*).

Удалаў. Нідзе не лопнула. У рэстаране такой не пададуць. Скажы, як ты ўмудрыўся так падсмажыць?

Анісім. А я відэльцамі накалоў.

Крушынін (*да Удалава*). Вучыся, пад старасць як знойдзеш.

Удалаў (*да Крушыніна*). Пры комунізме, брат, кухар будзе паважанай асобай...

Анісім. А цяпер хіба не? (*Павярнуўся, хацеў ісці*).

Крушынін. І цяпер таксама...

Анісім (*дае каўбасу, хлеб, відэльцы*). Наце, ешце, чэрці! З рук вырвуць! (*Пауза*). Ну і яны! Аплятаюць, аж насы гнуцца і хоць-бы адзін запытаўся, як я дзіка забіў? Выходжу, братцы, з лесу...

Крушынін (*перабівае*). На любімага коніка сеў..

Удалаў. Ведаем вашы паляўнічыя штучкі... Адным стрэлам забіў: «Качку, шчупака і зайца»...»

Крушынін. Ты-б нам яшчэ адну каўбаску падкінуў.

Анісім. Чорта з два! Меркаваў, але не дам. (*Падняў сурветку, паказвае*). Бачылі? Абедзве вам нёс. Аддам младшаму палітруку. Гэта чалавек. Пагаворыш з ім, розуму набярэшся, а з вамі,—які маеш, і той згубіш...

Крушынін (*паглядзеў на Удалава, чухае патыліцу, раптам*). А младшы палітрук у атрадзе?

Удалаў. Даўно паехаў і не хутка вернецца.

Анісім (*да Удалава*). Сасноўскага не выбраць парторгам? Гэта-ж усё адно, што душу ў чалавека вырваць. Малады хлопец. Паглядзелі-б вы, як ён тактычна папраўляе часам старшага лейтэнанта. Фурманаў! Якое далікатнае абыходжанне са старэйшым таварышам. Не тое, што вы са мною. Я-ж вам дзядзька. (*Да Крушыніна*). Бязвусая блазнота.

Крушынін. Правільна!.. Усё правільна!.. толькі каўбаса... астыне... хто яе будзе есці... *(Да Удалава, хітра).* А ведаеш, усё-ж цікава, як ён забіў?..

Удалаў. Раскажы.

Анісім. Не хачу.

Удалаў. Прашу цябе.

Анісім *(паставіў скавараду на стол).* Тры дні, братцы, я хадзіў за дзікам. А яго няма і няма. «Ну,—думаю,—аскандаліўся». Адно-ж сёння вазьмі, ды з'явіся. Ну, я і бабахнуў.

Удалаў. То-та сёння ў калгасе «Праўда» не далічыліся кабана. Як раз яго хацелі падараваць на заставу. *(Смех).*

Анісім. Чорта з два цяпер атрымаеце. *(Бярэ са стала каўбасу).* Панясу Ваеводзіну. Вось паглядзеце, Ваеводзін хутка будзе камандваць атрадам. Сасноўскі камісарам атрада, а я ў іх старшым поварам. Каб не ворагі народа, Ваеводзін даўно-б ужо быў капітанам, ці маёрам, альбо палкоўнікам, а Сасноўскі не ніжэй батальённага камісара. Зацiралі сумленны народ. Занясу пробу старшаму лейтэнанту.

Удалаў. Старшы лейтэнант на граніцы.

Анісім *(ківае пальцам).* Нічога не выйдзе, хлопчыкі. Не будзьце такімі разумнымі. *(Выходзячы).* Ведайце, з кім маеце справу.

Удалаў. Сарвалося.

Крушынін. Самі вінаваты.

Удалаў *(пасля паузы).* Ведаеш, чаго я цябе паклікаў?

Крушынін. Адкуль мне ведаць? Ці мала ў цябе ідэй у галаве водзіцца.

Удалаў. Без жартаў. Байкач падаў заяву на Сасноўскага і Ваеводзіна. Сасноўскага абвінавачвае ў забойстве Гладкіх.

Крушынін. Так і піша?

Удалаў. Не так, але вынік гэтакі напрашваецца. А Ваеводзіна ў сувязі з ворагамі.

Крушынін. Ён-жа падаў заяву ў Райземаддзел на Станкевіча. Сутнасць такая: чаму гэта Цiт Станкевіч быў асуджаны палякамі к расстрэлу і не расстраляны. «У гэтым,—піша,— відаць нешта ёсць». Станкевіч засумаваў. Я параіў яму напісаць камісару Огневу, які яго вызваляў. Ён цяпер у Растове на Дану.

Удалаў. Тут паскладаней.

Крушынін. Трэба разабрацца.

Удалаў. Дапамагай!

Крушынін. Што ты?

Удалаў. Не хочаш?

Крушынін *(абурана).* Яшчэ што! Заўсёды гатоў чым магу. Але тут такое пытанне, разумееш, людзі. Мне здаецца, што за спіной Байкача нехта стаіць. Ці не Пекарская толькі. А яе голымі рукамі не возьмеш. Пекарская развіла такую актыўнасць, што дзіву даешся, адкуль у яе столькі энергіі. Яслі арганізавала, у драмгуртку працуе, даклады чытае, і нават калі было высветлена, што ў рэчцы вада атручана, калодзеж капала. Але

гэтая актыўнасць падазроная. І Сасноўскі, і Ваеводзін свае людзі. Младшы палітрук учарнеў, а ён моцны чалавек. Старшы лейтэнант высах у шчэпку. А ён валявы камандзір. Але іх хутчэй зломіш, чым сагнеш.

Удалаў. Твая думка?

Крушынін. Я веру і Ваеводзіну і Сасноўскаму. Гатоў з імі ісці ў любы бой, не падвядуць. Актыўнасць-жа Пекарскай мне здаецца паказнай. Больш таго, ці не яе толькі работа атручанне вады ў рэчцы?

Удалаў. А факты?

Крушынін. Фактаў няма.

Удалаў. Штосьці не так...

Крушынін. На мінуту адкінь асабістую крыўду на іх. Хоць ты і парторг, але тады заслужыў без чаргі чысціць бульбу. На самай справе, хіба можна трымаць у тумбачцы шчотку для ботаў і чысткі зубоў. І крытыка цябе младшым палітруком і старшым лейтэнантам табе-ж пайшла на карысць.

Удалаў. Ты мяне абвінавачваеш у неаб'ектыўнасці. Ваеводзін вучыўся у ворагаў народа?

Крушынін. Вучыўся, але не яго ў гэтым віна.

Удалаў. Працаваў разам з ворагамі ў атрадзе?

Крушынін. Працаваў, але не быў з імі ідэйна звязан.

Удалаў. Гладкіх з тылу забілі?

Крушынін. З тылу, але толькі не Сасноўскі.

Удалаў. Адкуль у цябе такая ўпэўненасць?

Крушынін. Ты хацеў, каб я сказаў сваю думку, дык выслухай яе. Я лічу, што заява Байкача на Сасноўскага і Ваеводзіна паклёпніцкая.

Удалаў. Па-твойму, Пекарская атруціла рэчку?

Крушынін. Па мойму—так. Рэчка Балотная бярэ свой пачатак ад калгаса «Праўда». На пяску знойдзены жаночыя сляды. У гэты дзень з'явілася Пекарская.

Удалаў. Гэта не нова. І Ваеводзін, і Сасноўскі да гэтых вынікаў прышлі і я іх падтрымліваў, але з намі не згадзіліся. Пекарскую добра ведае сам Трутнеў.

Крушынін. Вось ад гэтай печы і танцаваў-бы. Тут зарыты сабака.

Удалаў. Каб не ўмяшаўся ў гэту справу Трутнеў, мы-б даўно яе вырашылі. Пекарская-б напэўна ўжо сядзела.

Крушынін. Раз правер, два правер. Не палянуйся ў трэці раз праверыць. Гэта не зашкодзіць. Толькі не рубі з пляча, а то наломіш дроў. І Сасноўскі і Ваеводзін свае людзі.

Удалаў. Твая думка ясная. Ну, а як будзе з падачай заявы аб прыёме ў партыю?

Крушынін. Лічу сябе яшчэ не падрыхтаваным. Нічога такога я не зрабіў.

Удалаў. Ну і ўпартыя-ж вы з Рудневым.

(Чутно цоканне падкоў. Гэта скача Ваеводзін).

Ваеводзін *(хутка ўвайшоўшы)*. Застава, у ружжо!

(Трывога. Збіраюцца пагранічнікі, Любоў Нікалаеўна, Анісім.)

Ваеводзін *(да ўсіх)*. Праз граніцу незаўважаным прашоў дыверсант вялікай маркі. Яго чакалі заўтра. Калі агледзеліся, ён быў далёка. Пусцілі сабаку. Сабака не ўзяў следу. Навучыліся гады сляды замятаць. Наша задача акружыць лес і не выпусціць адтуль.

Усе. Ясна.

Ваеводзін. Мы разбіваемся на дзве групы. Першую групу ўзначальваю я. Задача: акружыць Чортава балота. Другую групу—таварыш Удалаў. Задача: прачасаць бор у раёне Воўчай ямы.

Удалаў. Ёсць. Прачасаць бор у раёне Воўчай ямы.

Любоў Нікалаеўна *(да Васводзіна)*. Дазволь мне пайсці з таварышам Удалавым. Я там кожны кусцік ведаю.

Ваеводзін. Можна.

Удалаў. Другая група. За мной! Бя-го-о-ом!.

Ваеводзін. Любаша! А сын?

(Анісім шэпча на вуха Крушыніну).

Любоў Нікалаеўна. Вову я нядаўна карміла. Ён прачнецца не раней як праз тры гадзіны. *(Хутка выходзіць)*.

Анісім *(глядзіць у акно, да Крушыніна)*. Бачыў, казак у спадніцы. Міравая жанчына! *(Бярэ пад казырок)*. Таварыш старшы лейтэнант. Дазвольце і мне з вамі. Хоць раз у тыдзень дайце вінтоўку ў рукі. Разумееце, дзяўчаты праходу не даюць. «Кулінар,—кажуць,—пайшоў!» А хіба ў мяне няма прозвішча? Здаецца і голасна гучыць—Ленскі. Раней было Сяміжонаў. І ўсё адно—ніякі не герой. Усе завуць—Анісім.

Ваеводзін. Вы застанецеся пры дзяжурным, для сувязі. *(Да ўсіх)*. За мной! Бяго-о-ом! *(Хутка выходзяць)*.

Анісім *(пачуўся крык дзіцяці)*. Ага! Што я табе казаў. Цяпер рабі, што хочаш. *(Зноў чуваць плач)*. Іду-у. *(Выходзяць, сцэна некаторы час пустая)*.

Сасноўскі *(увайшоўшы)*. Гэта-ж жартачкі, такое абвінавачванне! *(Грузна садзіцца ў крэсла)*. Гладкіх забіць? *(Апусціўшы галаву)*. Раней прыедзеш у атрад, як дадому, а цяпер кругом абыходзяць цябе. Толькі і чуеш: «Ты яшчэ там?» «А дзе-ж мне быць?» «А мы думалі, што ў другім месцы...» Каму гэта трэба? *(Сядзіць у глыбокай задуменнасці)*. Ка-а-му?

(Чуваць крык дзіцяці. Як толькі зайграе гармонік, плачу не чуваць).

Сасноўскі. Што такое?

Анісім *(падбегшы)*. Ваеводзін другі разышоўся. Пакуль іграю, маўчыць.

Крушынін *(дакладвае)*. Таварыш малодшы палітрук. Праз граніцу незаўважаным прайшоў дыверсант. Старшы лейтэнант з чырвонаармейцамі ў Тоўстым лесе. Дзяжурны па заставе Крушынін. *(Пауза)*. Дазвольце ісці?

Сасноўскі (*да Анісіма*). Ну, як там Вова?
Анісім. Міравы хлопец! Пагранічнік! (*Чуваць крык*). А голас, голас, стопроцантны мужчына. Любіць музыку!
Сасноўскі. А дзе-ж Любоў Нікалаеўна?
Анісім. Не ведаеце яе? У лесе. Скача на кані, як кавалерыст. Міравая жанчына!
Сасноўскі. Можа што трэба?
Анісім. У асноўным праблема вырашана. Адну прастыню прыдзецца вывесці ў расход. Як толькі? Зноў Анісім ламі галаву.

(Пашоў, чуваць музыка, дзіця перастае плакаць).

Сасноўскі (*пацягнуўся, выходзіць*).

(Уваходзяць Крушынін і Анісім).

Анісім (*выціраючы пот*). Ух, ты! Новую спецыяльнасць набыў— нянькі... Адна другой лепей... Не-е... На гэтым дзеле не заробіш героя...
Крушынін. І не кажы... Пакутуй за чужыя грахі...
Анісім. Кулінарам усё-ж спакайней... (*Зноў чуваць крык*).
Крушынін. Чаго ён?
Анісім. Можа есці захацеў. (*Іграе. Крыку не чуваць*). Ай, лайдак!
Крушынін (*глядзіць у акно*). Што такое? Руднева вядуць? (*Любоў Нікалаеўна ўвяла дыверсанта. Удалаў увайшоў з Рудневым, падтрымоўваючы яго пад руку*).
Крушынін (*да Руднева*). У чым справа?
Любоў Нікалаеўна (*паказвае*). Малайчына Рудневу! Герой. Увабраць такога звера.
Анісім. Цябе ранілі?
Руднеў. Дробязь.
Анісім. Куды?
Руднеў. Ты, Анісім, нагадваеш мне старога балагола, які едзе на возе і пытае, ці высока сонца. Бачыш, у галаву.
Крушынін. Зайздрошчу! Як-жа ты, будучы без зброі, яго ўвабраў?
Руднеў. Як без зброі! У мяне была пуга. О-го-го-о!
Любоў Нікалаеўна (*да Анісіма*). Як Вова? Не прасынаўся?
Анісім. Ого! Будзе ён спаць, калі там граніцу парушаюць. Задаў такі лямант, аж сцены дрыжэлі. Баявы хлопец! (*Любоў Нікалаеўна пайшла*).
Ваеводзін (*увайшоўшы, да дыверсанта*). Ну, як галубчык, папаўся? Што-ж вы маўчыце?
Руднеў. Ён толькі размаўляе зброяй.
Ваеводзін. Нямы?!
Руднеў. Маўчальнік. Ні на адно пытанне не адказвае.
Ваеводзін. Нічога, загаворыць. Рэчы былі якія?
Руднеў. Два рэвальверы, тры бомбы і семдзесят пяць патронаў. (*Аддае Удалаву*). Астатняе спалена ў раёне Воўчай ямы.

Ваеводзін (*да Крушыніна*). Вазьмеце з сабою байца і абшукайце лес.

Крушынін. Ёсць. Абшукаць лес. (*Пайшоў*).

Ваеводзін (*разглядае рану*). Ну, як?

Руднеў. Не страшна, таварыш старшы лейтэнант. Толькі каровы засталіся на падпаска.

Ваеводзін. З каровамі ўладзім. (*Да Удалава*). Таварыш Удалаў! Паведаміце старшыню калгаса Ціта Станкевіча аб здарыўшымся.

Удалаў. Ясна. Паведаміць Ціта Станкевіча. (*Пайшоў*).

Ваеводзін. Выходзіць, праліў кроў за справу народную.

Руднеў. Што-ж, наша справа пагранічная. Лепш крывёю сцячы, чым каб зямлю тапталі злыдні.

Ваеводзін (*да байца*). Узяць парушальніка!

Чырвонаармеец. Ёсць! Узяць парушальніка. (*Вядзе*).

Сасноўскі (*хутка ўвайшоўшы, да Ваеводзіна*). Ну, як? А я з вамі размінуўся.

Ваеводзін. Таварыш Руднеў уватраў.

Сасноўскі (*усміхнуўся*). Малайчына!

Ваеводзін. Таварыш Сасноўскі! (*Адводзіць убок, гаворыць*).

Сасноўскі (*згаджаецца*). Правільна!

Ваеводзін. Таварыш Руднеў! Вы ў гэтым годзе трэцяга парушальніка затрымалі. Прадстаўляем матэрыял камандванню для ўрадавай узнагароды.

Руднеў. Дзякую. Прызнаюся, навіна прыемная. Толькі ці заслужыў я ўзнагароду?

Ваеводзін. Заслужылі. Дзякую за службу.

Руднеў. Служу Совецкаму Саюзу.

Анісім. Таварыш Руднеў! Хочаце, пачастую каўбасой. Міравыя каўбасы! Гарачую, са скаварады.

Руднеў. Мне-б папіць чаго?

Анісім. Хочаце бярозавага соку? (*Бярэ пад руку Руднева*). Міравы сок!

Ваеводзін (*да Анісіма*). Сын не скандаліў?

Анісім. Яшчэ і як скандаліў! Ніяк не мог прымірыцца, што чужынец уступіў на нашу зямлю. Перш не ведалі, што рабіць. Прынёс я гармонік. Аказваецца, ён вялікі аматар музыкі. Стопроцантны совецкі мужчына!

Ваеводзін (*усміхнуўшыся*). Дзякую, таварыш Ленскі, за клопаты пра Вову. (*Ціске руку*).

Анісім (*важна*). Ага! І я герой.

Руднеў. Тую-б гадаўку ўвабраць.

Сасноўскі. Дзе яна дзенецца. Убярэм!

Ваеводзін (*абвёў усіх вачыма*). Ну і людзі пайшлі, адзін другога лепшы. Расцалаваць мала (*Усе пайшлі*).

## КАРЦІНА VI

Былы маёнтак пана Дварэцкага, цяпер калгасны клуб. На дзвярах надпіс: „З прычыны ранення выкэнаўцы ролі караля—пастуха калгаса „Праўда" Пятро Севасцянавіча Руднева, спектакль „Кароль Рычард III" пераносіцца на 11 ліпеня 1937 г. Білеты сапраўдны". Далёка ў глыбіню ўходзяць алеі. Многа зелені, кветак. Чыстата, прастор. Аксіння з Сасноўскім прагульваліся, потым селі на скамейку.

Сасноўскі (*працягвае гаварыць*). Не магу! Кашмары. З трох гадзін ночы аж да раніцы не спаў.

Аксіння. Я вам веру. Хіба ў вас магла падняцца рука на Цімоха? Ніколі.

Сасноўскі. Аксінюшка! (*Глядзяць у вочы адно другому*). Верыш? (*Паўза*). А я хацеў было рукі накласці.

Аксіння. Неразумна. (*Усміхнуўшыся*). Тады-б я перастала вас любіць.

Сасноўскі. Любіш? Дык як-жа будзе? Без цябе я жыць не магу.

Аксіння. Запытаюся ў бацькоў. (*Паднялася*). Хутка народ пачне сабірацца, а я не ведаю, што гаварыць. Столькі ўражанняў ад Масквы.

Сасноўскі. Я цябе правяду.

Аксіння. Не. Унь Домна. Яна мне патрэбна. Будзем бачыцца.

(Сасноўскі пашоў).

Домна (*падышоўшы*). Анісіма майго не бачыла?

Аксіння. Не.

Домна. Ну, мала не будзе.

Аксіння. Кажаш, учора ў Пекарскай быў Ліхадзіеўскі?

Домна. Так. Доўга аб нечым гаварылі.

Аксіння. Сёння яго няма. Забралі. Аказваецца, коні—здаровыя.

Домна. Здаровыя? Брава, Аксіння.

Аксіння. Вось што, не спускай вачэй з Пекарскай. Аб сустрэчы яе з Трутневым раскажы Сасноўскаму. Я яе вывяду на чыстую ваду. (*Ідучы*). Трэба... (*Аб нечым ціха гавораць*).

(Праз некаторы час Анісім з Домнаю ідуць пад ручку).

Домна (*глядзіць на аб'яву*). Анісім! Шпектакаль будзе?

Анісім (*рэзка*). Няўжо, мая ты Домначка, ты не бачыш? Спектакль адмяняецца.

Домна. Я няграматная.

Анісім. Чым пахвалілася!? Пасаромелася-б людзей. Адна ў калгасе засталася такой. За гэта цяпер б'юць.

Домна (*грозна*). Што-о?

Анісім (*напалохана*). Я пажартаваў.

Домна. Добрыя жарты!? б'юць?! (*Лезе з кулакамі*).

Анісім. Перастань.

Домна. Можа любіць кінеш?!

Анісім. А што ты думаеш! Няграматнасць, гэта тормаз...

Домна. Ну і правальвай. Бачылі такіх. Другога палюбім.

Анісім. У асноўным, мая ты каралева, я цябе люблю.

Д о м н а. Як у асноўным? А ты-ж казаў, на ўсе сто процантаў. Я ўся гару ад злосці. Кулінар!
А н і с і м. Ты мне кулінарыю не чапай. Гэта табе мажа не цялят паіць.
Д о м н а. Ах, ах, які спец!
А н і с і м. Каўбасу ела?—ела. Век такой не зробіш, хоць і ў гадох дзяўчына.
Д о м н а. Вось яно як! Нянька! А памятаеш, як ты салаўём заліваўся. Усё раманцы, ці як іх, спяваў. Як-жа ён? Ага! «Любви все возрасты покорны». А цяпер аглоблі назад? Кулінар!
А н і с і м. Домна Янкаўна! Колькі разоў я вас прасіў, не чапайце мае кулінарыі. Скажыце, няўжо і гарох быў нясмачны?
Д о м н а *(скрывілася)*. У рот нельга было ўзяць.
А н і с і м. А сама на сто процантаў апляла.
Д о м н а. Гэта вам здалося. Палавіна трэцяга бачка—засталася. *(Наступаючы)*. Вы што-ж гэта народнае дабро расцягваеце? З казённага катла цывільных корміце?
А н і с і м. Ну і што тут такога! Мне старшы лейтэнант дазволіў. А ў вашага цяляці горб расце.
Д о м н а. У якога?
А н і с і м. У падласага бычка «Рычарда III».
Д о м н а. Ён з роду быў такім.
А н і с і м. Ну, значыць карову не даглядзелі. Усюды патрэбна грамата.
Д о м н а. Ну добра, казёл ты рыжы! Паскачаш у мяне. Гэта грамата табе бокам вылязе.
А н і с і м. Домна Янкаўна! Я вас люблю.
Д о м н а *(перабівае)*. Як чорт свечку...
А н і с і м. Яшчэ горш!
Д о м н а. «У гадох дзяўчына»!? Страшна ты мяне пакрыўдзіў, Анісім. Я табе за гэта ніколі не дарую! Людзі ў героі павыбіваліся, а ён на кухні аціраецца.
А н і с і м. Зноў кухня! Прыдзецца відаць у лётчыкі падавацца.
Д о м н а. Ён будзе лётчыкам?! Нікуды я цябе не пушчу!
С а с н о ў с к і *(падышоўшы)*. У чым справа? Што за скандал?
Д о м н а. Ніякага скандалу, звычайная сямейная сцэна, таварыш младшы палітрук. Анісім, пражыўшы са мною год, дзяўчынаю заве, у зубы заглядае. Падлічвае колькі мне год адстукала.
С а с н о ў с к і. А-а-а. Наступіў на жаночы мазоль.
Д о м н а. Каб вы ведалі, як баліць. *(Да Анісіма)*. Кулінар!
А н і с і м. Колькі разоў я цябе прасіў, не чапай кулінарыю.
Д о м н а. Кулінар, кулінар, кулінар!
А н і с і м. Домна Янкаўна!
Д о м н а. Домна Янкаўна—трыццаць адзін год.
А н і с і м. Трыццаць два... з гакам.
Д о м н а. Колькі таго гаку і столькі гаворкі. Кулінар!
А н і с і м. Кулінар, і гэтым ганаруся.
Д о м н а. А я ганаруся, што столькі пражыла.

Сасноўскі. Значыць мір.
Домна. Няхай перапросіць.
Анісім. Прабач, Домна Янкаўна. Толькі больш не чапай кулінарыю.
Домна. А ты не падлічвай маіх год, яны і так бягуць. Падумаеш, «дзяўчына ў гадох». Я табе ніколі гэтага не дарую. *(Лезе з кулакамі).* Кулінар!
Сасноўскі *(хітра).* Калі так, прыдзецца вас разлучыць. Анісіма перавядзем у другі атрад.
Домна. Што-о? Новае дзела! Нікуды Анісіма я не адпушчу ад сябе.
Сасноўскі. Тады мірыцеся.
Домна. Будзьце упэўнены, памірымся. *(Абняла Анісіма).*
Анісім. О-ой! Домначка, я жыць хачу.
Домна. Папаўся кулінар у мае рукі. Прасіся!
Сасноўскі. Ну і пара. Арыгіналы!
Домна. Прасіся!
Анісім. Домна Янкаўна! Прабач, я пагарачыўся.
Домна. Прабач і ты мяне, Анісім. Я таксама, падгарачылася. Значыць мір?
Анісім. На ўсе сто процантаў.
Сасноўскі. Ну і добра. Домна Янкаўна! Вы нешта хацелі мне сказаць?
Домна. Анісіма не будзеце пераводзіць?
Сасноўскі. Не.
Домна. Тады скажу. Пекарская ўсё распытвала пра вас. Сцеражыцеся яе як агня. Гэта жанчына ходзіць з камянем за пазухай. Байкач каля яе трэцца. Надоечы прыязджаў да яе Трутнеў. Усё гэта не спраста робіцца.
Сасноўскі. Жанчына—агонь?!
Домна. Цьфу! Балота! Будзь я на месцы мужчыны, і ў той-бы бок не глянула. Скажыце, чаго вы зачасцілі ў калгас?
Анісім. Не ведае. Да Аксінні.
Домна. О, гэта другая справа. Аксіння—дачка граніцы. Яна ведае кожную сцежку ў лесе. Сёлета затрымала чатырох парушальнікаў. Гэта будзе добрая жонка і таварыш.
Сасноўскі. Аксіння ніяк не забудзе Цімоха.
Домна. Выплакала вочы па ім. Гэта дзяўчына ўмее любіць і ненавідзець. А як яна?
Сасноўскі. «Запытаю,—кажа,—у бацькоў»
Домна. Яна Станкевічаў бацькамі лічыць. І правільна робіць. Немцы расстралялі яе бацькоў. Станкевічы знайшлі яе поўмёртвай. Дзіцяці прастрэлілі грудзі. Да трыццатага году Аксіння жыла ў сям'і Станкевічаў як дачка. А потым калгас пабудаваў ёй хату. Слаўныя ў Аксінні бацькі. Яны вас зразумеюць. А Байкач і на вас і на Ваеводзіна нахлусіў.
Сасноўскі. Адкуль вы ведаеце пра заяву Байкача?
Домна. Чуткамі зямля поўніцца.
Сасноўскі *(да Анісіма).* Ваша работа?

Анісім (*пацiскае плячыма*). Першы раз чую.

Домна. Байкач сам пра гэта гаворыць. Тут ён паказаў сваё солтысава нутро.

Сасноўскі. Солтысава?

Домна. Яго бацька быў солтысам. Ага! А пра самае галоўнае, чуць не забылася. Калі быў Трутнеў у Пекарскай, то гаварыў, што пытанне аб адкрыцці граніцы не знімаецца. Ён, на чым свет стаіць, лаяў вас і Ваеводзіна, потым сказаў, што абодвых убярэ.

Сасноўскі. Аб адкрыцці граніцы? Вы напішаце аб гэтым?

Домна. Можна. Толькі... Прабачце, я няграматная.

Анісім. Ага! Што я табе казаў? Каб табе грамата—міравая жанчына!

Сасноўскі (*дастаў блакнот*). Я ўсё гэта, аб чым вы мне гаварылі, напішу. Падпісацца ўмееце?

Домна. Яшчэ як! Анісім навучыў крэндзелі выводзіць.

Сасноўскі. Дзе вы гэта чулі?

Домна. Яны прагульваліся каля балотца. Колькі страху набралася, калі яны зайшлі ў каноплі. Потым падышла машына.

Сасноўскі. Та-а-ак. (*Дае блакнот*).

Домна (*падпісаўшыся*). Домна Міцкевіч.

Анісім. Во! бачылі. Міністэрскі подпіс. Толькі казначэйскія білеты падпісваць. (*Пауза*). Вось яна, ведзьма гэта. (*Неўзабаве падыходзіць Пекарская і Байкач з гітарай*).

Пекарская (*паглядзела на аб'яву*). Якое няшчасце, Руднева ранілі...

Анісім. Па вас гэтага не відаць.

Пекарская. Фі! Вы не ўмееце абыходзіцца з жанчынай. (*Да Сасноўскага*). Добры дзень!

Сасноўскі. Дзень добры! (*Па адной з алей ідзе Аксіння*).

Домна. Аксіння! (*Усе глядзяць на яе, наперад выходзіць Сасноўскі*).

Пекарская. Што гэта ў яе? Ордэн?

Байкач. Так. Ордэн «Працоўнага Чырвонага Сцягу».

Пекарская. Што ў ёй знаходзяць прыгожага? Звычайная вясковая чырвонашчокая дзяўчына. А колькі гонару, велічча! Фэ!

Байкач. Фэ!

Сасноўскі (*бярэ пад руку Аксінню*). Падрыхтавалася?

Аксіння (*станоўча кіўнула галавою*).

Пекарская (*да Байкача*). Ці не думае толькі Сасноўскі з ёю жаніцца?

Байкач. Няўжо-ж.

Пекарская. Не паспела аднаго пахаваць, як другога завяла. Як гэта проста ў іх робіцца.

Байкач. І проста, і складана. Сасноўскі даўно яе любіў, але Гладкіх не даваў ходу. І ўсё-ж, яна прыгожая.

Пекарская. Я думаю, кожную раніцу калгасны сырадой п'ючы..

Байкач. Алё! Падам сігнальчык.

Пекарская. Дзіву даешся, адкуль у такой простай дзяўчыны столькі ўпэўненасці, веліча. Як трымае сябе!

(Падыходзяць мужчыны, жанчыны, Станкевіч Ціт і Наста, Руднеў з перавязанай галавой. Па адной алеі ідуць пагранічнікі з дзяўчатамі. Іграе гармонік).

Ціт *(увайшоўшы на ганак клуба)*. Таварышы! У нас сёння павінен быў адбыцца спектакль, але з тае прычыны, што ранілі Руднева, спектакль адмяняецца. Паслухаем Аксінню аб паездцы ў Маскву. *(Воплескі)*.

Аксіння *(увайшоўшы на ганак)*. Цяжка мне перадаць вам адчутае і пераж̌ытае за гэтыя дні. Слоў не хапае. Мне пашчаслівілася быць у Маскве, убачыць таварыша Сталіна, гаварыць з ім. Таварыш Сталін мне руку пацікснуў. Расказала я пра калгас, пра вас усіх. Цікавіўся кожным чалавекам. Пытаўся пра граніцу. Аказваецца, ворагі хацелі граніцу адкрыць і цяпер яшчэ не пакідаюць надзеі. Я сказала, што покуль мы *(абводзіць усіх вачыма)*—пагранічнікі жывыя, гэтага ніколі не будзе.

Галасы. Правільна! Правільна! Правільна!

Аксіння. Яшчэ таварыш Сталін пытаўся, хто мае бацькі. Як я жыву. Расказала я яму пра ўсё. Як некалі немцы, палякі білі нас, як яны забілі маіх бацькоў і мяне ранілі. Таварыш Сталін сказаў, што больш ніколі і нікому не давядзецца нас біць. Мы будзем біць тых, хто асмеліцца на нас пайсці, будзем біць смяротным агнём. *(Воплескі)*. І яшчэ я сказала, што надняк выходжу замуж за пагранічніка, Цімоха Гладкіх. Прасіла прыехаць на вяселле. Усё сказала. Таварышу Сталіну нельга не сказаць. Ён усё ведае. А як ён любіць беларусаў! Казаў, у грамадзянскую вайну беларускія сяляне апошнім дзяліліся з чырвонаармейцамі. Адно-ж прыязджаю, не застаю Цімоха. У рэчцы вада атручана. Жарабок, якога Чырвонай Арміі ў падарунак гадавалі, загінуў. Шасцярых коней хацелі забіць. Руднеў ранены. Таварыш Сталін прасіў пісаць яму аб усім. Я сёння паслала яму пісьмо. Пра ўсё напісала, як роднаму бацьку.

Домна. І пра мяне таварыш Сталін пытаўся?

Аксіння. Я сама яму сказала, што ты ў нас у калгасе апошняя няграматная.

Анісім. Ага! Даскакалася!

Аксіння. Усім нам дасталося за цябе, але больш за ўсё Анісіму. У міравога повара жонка няграматная.

Домна. Ага! Паскачаш і ты! *(Да Аксінні)*. Колькі трэба, каб навучыцца грамаце?

Аксіння. Я цябе навучыла-б за тры месяцы чытаць і пісаць.

Домна. Добра. *(Да Анісіма)*. Тры месяцы не лезь з пацалункамі. Я цябе правучу! Даю слова перад народам, што праз тры месяцы буду граматнай.

Аксіння *(пасля паўзы)*. Сталін! Колькі я з ім пагаварыла і на цэлую галаву вырасла. «Ведаеце—кажу я таварышу Сталіну,— як прыеду дадому, раскажу ўсяму народу пра вас». А таварыш

Сталін вазьмі і запытайся: «Што-ж вы пра мяне скажаце?» А ў мяне і слоў няма. Тады таварыш Сталін усміхнуўся і гаворыць: «Скажаце, што бачыла таварыша Сталіна. Ён такі звычайны»... Я тады кажу, што: «Гэта праўда, але не ўся. Сталін!—гэта сонца, якое ніколі не згасне, покуль будзе жыць чалавек».

Наста. Малайчына Аксіння! *(Воплескі).*

Аксіння *(падумаўшы).* Вось што мужчыны і жанчыны. Да нас у хату забраўся ліхі чалавек. Чым хутчэй мы яго выявім, тым менш ён прынясе пакут.

Наста. Каб-жа ведаў, хто?

Сасноўскі. Быць не можа, матуля, знойдзем.

Ціт. І я гэтак мяркую. Калі дружна ўзяцца, разблытаем клубок.

Аксіння *(з нейкай асаблівай унутранай цяплынёй).* Сталін! Пагаварыўшы з ім адзін раз, цягне ў другі раз сустрэцца. Аднойчы пашоўшы за Сталіным, на век з ім звяжаш свой лёс. Я прасіла таварыша Сталіна дапамагчы нам разабрацца. А калі таварыш Сталін возьмецца за што, то навядзе парадак. Слава таварышу Сталіну! *(Воплескі. Анісім зайграў. Танцуюць танец пагранічнікаў, да іх далучаюцца Аксіння з Сасноўскім, потым Ціт з Настай).*

---

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА VII

Кабінет Ваеводзіна. Невялікі, чысты пакой. Карта. Тэлефон. Адчынены вокны. На сценах—партрэты правадыроў рэволюцыі.

Ваеводзін *(адзін).* Так абалгаць? Звязан з ворагамі народа? Душу аддаеш, але яе не вымеш, не пакажаш. Рукі апускаюцца.

Сасноўскі *(увайшоўшы).* Недзе не даглядзелі, а цяпер яны садзяцца на карак. Трэба ў справу душу ўкладаць.

Ваеводзін. А хіба вы не ўкладаеце душы ў справу, і ўсё адно цень забойцы ходзіць па пятах. А гэта страшна! Таварышы, з якімі дружыў, старанякца. Нарадзіўся сын. Радасць. А хто да мяне прышоў? Былі вы да я, да мы з вамі. Яшчэ Меркулаў заглянуў. Няма горшага на свеце, як застацца без сяброў. А мы з вамі, здаецца, дайшлі да гэтага.

Сасноўскі. Значыць, не ведалі з кім дружым. Сапраўдныя сябры застануцца. *(Пауза).* Апытвалі?

Ваеводзін. Не.

Сасноўскі. Аксіння падняла жанчын. Калгаснікі шукаюць адкінутыя рэчы. Выклікаць затрыманага? *(Ваеводзін кіўнуў галавою. Звоніць).* Таварыш Крушынін! Прывядзіце парушальніка. *(Вешае трубку).* Ваша адно прозвішча чаго варта! Ваеводзін! Мы яшчэ з вамі атрадам камандаваць будзем. У вас ёсць сын. Ну, як ён?

Ваеводзін *(загарэліся вочы).* Такі хлопец, ого! Разумееце, ужо смяецца. Анісім прывучыў да музыкі, цяпер рады няма.

Сасноўскі. А бацька ў апошні час развучыўся смяяцца. Э-эх, вы!
Ваеводзін. Я праеду на граніцу. Праверу варту.
Сасноўскі. А хто будзе апытваць? Я з'езджу ў раён Воўчай ямы, пагляджу.
Ваеводзін *(памкнуўся нешта сказаць)*. Ведаеце...
Сасноўскі. Што такое?
Ваеводзін. Учора быў у райкоме. Мне паказалі заяву Байкача на Аксінню. Абвінавачвае, што Аксіння п'е калгасны сырадой.
Сасноўскі. Якая нахабнасць! Ён ад свае каровы няма куды дзяваць малака.
Ваеводзін. І я гэта самае сказаў.
Сасноўскі. Ці не па заданню якой-небудзь асобы пішуцца гэтыя заявы?
Ваеводзін. Галаву зломіш.
Сасноўскі. Трэба галаву зламаць тым, хто нам хоча зламаць. Да-а. Толькі будзьце асцярожны з гэтым гарылападобным зверам. Чумны звер, калі ён нават у клетцы, страшны.

(Крушынін увёў парушальніка).

Сасноўскі. Я пайшоў.
Ваеводзін. Ідзіце, толькі не баўцеся. *(Сасноўскі выходзіць)*.
Крушынін. І мне можна ісці?
Ваеводзін. Можаце. *(Да дыверсанта)*. Сядайце.
Скварцоў *(садзіцца)*.

(Чуцен голас Сасноўскага: „Таварыш Крушынін"! „Я вас слухаю. таварыш младшы палітрук!")

Ваеводзін. Ваша прозвішча? *(Скварцоў маўчыць)*. Курыце? *(Скварцоў маўчыць)*.

(Падыходзіць да акна, апускае штору. У гэты час Скварцоў кідаецца ўцякаць у другое акно).

Крушынін *(за акном)*. Сто-о-ой! *(Даткнуўся штыком да грудзей)*. Ну, як? Кажы, а то прапару!
Скварцоў. Хо-о-ладна.
Ваеводзін. А-а-а. Прарвалася. Маўчальнік загаварыў. Давай яго сюды, давай. Цяпер будзе горача.
Крушынін *(камандуе)*. Крру-гом. Шагам-марш! *(Відаць, як Скварцоў чотка павярнуўся)*.
Ваеводзін. Малайчына Крушынін! Смекалісты хлопец. А гаварылі, што з Крушыніна не будзе пагранічніка. З яго камандзір вырасце. *(Крушынін увёў Скварцова)*. Сядайце. *(Скварцоў грузна садзіцца)*. Ваша прозвішча?
Скварцоў. У вас на стале ляжаць мае дакументы. Прачытайце, будзеце ведаць.
Ваеводзін. Па дакументах значыцца Цярпігораў, Сяргей Нікалаевіч.
Скварцоў. Гэта і будзе маё прозвішча.
Ваеводзін. Ілжэце!
Скварцоў. Можаце думаць, што хочаце.

Крушынін. Дазволіце ісці?

Ваеводзін. Ідзіце. *(Крушынін выходзіць. Да Скварцова).* Ваша прафесія?

Скварцоў. Малатабоец.

Ваеводзін. Колькі год працавалі на гэтай прафесіі?

Скварцоў. Малатабойцам?

Ваеводзін. Не, шпіёнам!

Скварцоў. Што вам трэба?

Ваеводзін. Вы хто?

Скварцоў. Шпіён, чаго яшчэ? Толькі не той, пра якога вы думаеце.

Ваеводзін. Зачым ішлі?

Скварцоў. Не на прагулку вядома. Патрэбны былі весткі.Ваяваць усляпую не будзеш.

Ваеводзін. Дзе ваша яўка?

Скварцоў. Які вы наіўны чалавек, задаеце такія пытанні, на якія я ўсёадно не адкажу. Страляйце, больш нічога не скажу.

Ваеводзін. Гэта мы заўсёды паспеем зрабіць. *(Прыглядаецца).* Скажыце, што ў вас за шрам на твары?

Скварцоў. Быў у жыцці такі выпадак, паласануў адзін, а потым сам склаў галаву.

Ваеводзін. Можа раскажаце?

Скварцоў. Нецікава будзе слухаць. Да слёз крыўдна, што так дзіка вышла. Пастух стаў на маім шляху.

Ваеводзін. Пастухі новыя пашлі.

Скварцоў. Прамахнуўся. Старая табакерка. Адчынілася. Ніколі гэтага не было. Скажыце, як прозвішча пастуха? Адкуль ён родам?

Ваеводзін. Навошта вам?

Скварцоў. Хочацца ведаць таго, хто збіў. Законнае жаданне. *(Узяўся за шчаку).* Ён боксам не займаўся?

Ваеводзін *(усміхаючыся)*. Запытаюся.

Скварцоў. Такія кулачышчы загадаваць! Чуць сківіцу не выбіў.

Ваеводзін. «Чуць» не лічыцца. Вы каму служылі?

Скварцоў. І богу, і чорту, і людзям грэшным.

Ваеводзін. Канкрэтней?

Скварцоў. Нічога не будзе, таварыш старшы лейтэнант.

Ваеводзін. Тамбоўскі воўк вам таварыш.

Скварцоў. Прабачце.

Ваеводзін *(доўга ўглядаецца, потым устае)*. Паслухайце, палкоўнік Скварцоў! Доўга вы будзеце прыкідвацца ягнём. Вы расстралялі маіх бацькоў. Тады многа загінула шахцёраў, чыгуначнікаў.

Скварцоў *(паглядзеў на Ваеводзіна)*. Першы раз вас у вочы бачу.

Ваеводзін. Вы і мяне тады хацелі расстраляць, але маці сказала, што «гэта чужое дзіця».

Скварцоў *(у бок)*. Лепей бы такое дзіця на свет не радзілася.

Шкадую, што не прыкончыў.

Ваеводзін. Успомнілі?

Скварцоў. А як-жа, помню. Ваеводзін. Добра ведаю бацьку. Шахцёр, з Юзаўкі. А той, як закрычаў: «о-го-го-го-о!» Я і апешыў.

Ваеводзін. Каму служылі?

Скварцоў. Японцам, немцам, палякам—усім пакрысе.

Ваеводзін. У Совецкім Саюзе былі?

Скварцоў. Першы раз ішоў.

Ваеводзін. Прозвішча?

Скварцоў. Вы-ж ведаеце, Скварцоў.

Ваеводзін. Дзе ваша яўка?

Скварцоў. Не пытайцеся, не скажу. Я чалавек цвёрды. Ведаў, куды іду і падрыхтаваўся к горшаму.

Ваеводзін. Дзе вы жылі пасля рэволюцыі?

Скварцоў. У Токіо, Берліне, Варшаве. У трэцім класе не ездзіў. На малых станцыях не застанаўліваўся. Да смерці не люблю чалавечага поту.

Ваеводзін. Што вас цягнула ў Совецкі Саюз?

Скварцоў. Свае маёнткі ў Варонежскай губерні.

Ваеводзін. Губерні даўно няма.

Скварцоў. Ведаю, але ніяк не магу з гэтым прымірыцца. Мажліва?..

Ваеводзін. Вы сур'ёзна думаеце аб звароце да старога?

Скварцоў А чаму-ж, пры дапамозе...

Ваеводзін. Каго?

Скварцоў. Хоць чорта лысага.

Ваеводзін. Як нізка вы палі. Хаця вы і не падымаліся высока. Скажыце, як вы сталі шпіёнам?

Скварцоў. Гэта застанецца пры мне.

Ваеводзін. Разумней, палкоўнік, расказаць аб усім.

Скварцоў. Многа трэба расказваць. Не, гэтага не будзе. Разумееце, не будзе. І так шмат выбаўтаў. Адчынілася старая табакерка. Не я, дык мае калегі. *(Стук у дзверы).*

Ваеводзін. Можна. *(Уваходзіць Сасноўскі).* Ну, як?

Сасноўскі. Аксіння сярод спаленых папер знайшла абрывак, які нічога не гаворыць. *(Дае).*

Ваеводзін *(разглядвае).* Трут... ская... од... *(Разглядае абрывак, потым дакументы).* Загаворыць. *(Да Скварцова).* Распішыцеся.

Скварцоў. Магу. *(Піша).*

Ваеводзін *(падумаўшы).* Напішыце: Трутнеў, Пекарская.

Скварцоў *(закалацілася рука).*

Ваеводзін. Пішыце, пішыце.

Скварцоў *(піша).*

Сасноўскі. Трутнеў? Навошта вам спатрэбілася гэта прозвішча?

Скварцоў *(маўчыць).*

Сасноўскі. Адкуль вы ведаеце Пекарскую?

Скварцоў *(маўчыць).*

Ваеводзін. Вы ішлі з заданнем падрыхтаваць адкрыццё граніцы?

Скварцоў (маўчыць).

Ваеводзін (пераглянуўся з Сасноўскім). Вы стаміліся? Ну, і гэтага хопіць. Падпішыце. (Дае ліст паперы Скварцову, той прабягае вачыма, падпісвае).

Ваеводзін. Таварыш Крушынін! (Уваходзіць Крушынін). Узяць парушальніка.

Крушынін. Ёсць. Узяць парушальніка. (Выводзіць).

Ваеводзін. Здаецца, мы напалі на след... Страшны, крывавы след...

Сасноўскі. Трутнеў? Нічога сабе абстановачка. (Нешта піша). Таварыш Ваеводзін! Неабходна зараз-жа адправіць Скварцова ў Маскву.

Ваеводзін. У Маскву?

Сасноўскі. Так. Ёсць распараджэнне. (Паказвае). Акрамя гэтага я напішу таварышу Сталіну. Не пакідаюць надзеі граніцу адкрыць? Шчуцкі... Трутнеў... Відаць адзін ланцуг. Хочуць умяшацца ў нашы ўнутраныя справы? Не выйдзе! (Тэлефонны званок).

Ваеводзін. Я вас слухаю. Гаворыць старшы лейтэнант Ваеводзін. Сасноўскі таксама тут. Што-о? Падрыхтаваць справы да здачы? А гэта хто гаворыць? Начальнік штаба атрада? Ну, што-ж, добра. Ёсць. Ясна. (Вешае трубку).

Сасноўскі. Нічога не ясна. Як-жа быць?

Ваеводзін. Падрыхтавацца і чакаць.

Сасноўскі. І мне таксама?

Ваеводзін. Абоім. (Раптам). Тут нейкая недарэчнасць. Чакаць нельга. Едзем у штаб. (Знімае тэлефонную трубку). Таварыш Крушынін! Распарадзіцеся падаць коней! Едзем у штаб.

Сасноўскі. Вось яно, вайсковае жыццё. Сёння на Захадзе, а заўтра на Усходзе.

Ваеводзін. Каб-жа на Усходзе, а то зусім звальняюць з арміі.

Сасноўскі. Зусім звальняюць? (Здзіўлена глядзіць).

Ваеводзін (да Сасноўскага). Вы правы. Не апускаць рукі, а закасваць рукавы. Паехалі! (Выходзіць).

## КАРЦІНА VIII

Былы маёнтак пана Дварэцкага. Кватэра Пекарскай. На сцэне адзін Байкач. Ён адчыняе веранду. Далёка ўглыб уходзяць алеі. Байкач праходзіць каля канавы, падняў галаўную булаўку, накруціў у руках, паклаў на столік. На стале стаіць віно, закускі.

Байкач (узяўшы гітару, іграе). Палацы-б гэтыя прыбраць да рук. Тады Байкач кум каралю і брат міністру!

Пекарская (увайшоўшы, усё чуе, зарагатала). Ну і што-б тады? (Падышла да стала, узяла булаўку, паправіла валасы).

Байкач. Тады зажылі-б мы з табою. Пятро Руднеў за поўкілометра-б кланяўся.

Пекарская. Многа захацелі!?

Б а й к а ч. Мы з табой, Ядзя, здаецца такія блізкія.
П е к а р с к а я. І блізкія, і далёкія.
Б а й к а ч. Як гэта зразумець?
П е к а р с к а я. Разумейце, як хочаце.
Б а й к а ч. На «вы» перайшла. Я больш непатрэбным стаў? *(Хацеў абняць).*
П е к а р с к а я *(адвяла руку).* Вы мне праціўны! *(Закурвае папяросу).*
Б а й к а ч *(іграючы на гітары).* З таго часу, як прыязджаў сюды Трутнеў, ты зусім змянілася.
П е к а р с к а я. Трутнеў вам не раўня.
Б а й к а ч. Ха-ха! А ці ведаеш ты тое, што Трутнеў спёкся. Хі-хі-хі!
П е к а р с к а я. Што-о?
Б а й к а ч. Капут. *(Паказвае пальцамі, што ў турме).* Памінай, як звалі.
П е к а р с к а я *(узяла папяросу не тым канцом).* Цьфу! Цьфу!
Б а й к а ч. Ха-ха-ха!
П е к а р с к а я. Чаго ты выскаляешся? Дурань!
Б а й к а ч. З дурня малы спрос. Скажу—апутала. А цябе к сцяне.
П е к а р с к а я. Калі мяне паставяць к сцяне, то і цябе разам са мной.
Б а й к а ч. Но, но! *(Кінуў іграць).* Даволі жартаваць! Скажы, Ядзя, ты мяне любіш?
П е к а р с к а я. Не Ядзя, а Ірына Казіміраўна. Пачуюць, спякуся і я і ты разам са мною.
Б а й к а ч. Ты ашалела? Чаўпе чорт ведама што? Скажы, Ядзя, а калі ўсё будзе добра, тады як? Усё наша?
П е к а р с к а я *(усміхнуўшыся).* Наша, наша. *(У бок).* Хам, чаго захацеў.
Б а й к а ч *(заўважыў іронію).* Ты насміхаешся? Ну, і чорт з табой. Канчаецца водпуск, паеду ў горад, буду працаваць.
П е к а р с к а я. Паедзеш, але ў другое месца.
Б а й к а ч. Не пужай, мы не з таго дзесятка.
П е к а р с к а я. А-я-яй! А сам баіцца Аксінню, Станкевічаў убраць.
Б а й к а ч. Прывыкла чужымі рукамі жар заграбаць. Я і ваду труці, я і Аксінню і Станкевічаў убяры.
П е к а р с к а я. Мая задача—з Сасноўскім і Ваеводзіным разлічыцца. Першы ўдар нанесен. Прадстаўлен матэрыял для звальнення з арміі... Астаецца дабіць. Гроб будзе ім.
Б а й к а ч. І ў мяне чыста ідзе. Ці Станкевіч адхілен ад старшыні калгаса?—адхілен. Ніхто не сумняваецца, што жарабка атруціў Павел Станкевіч?—ніхто. Аксінню падмачыў з калгасным сырадоем?—падмачыў. Я пачынаю захапляцца гэтай работай. *(Раптам).* Ірына Казіміраўна! Скажы, а калі ты пападзешся, выдасі мяне, ці не?
П е к а р с к а я. А ты думаў як! Я ў зямлі буду гніць, а ты па волі хадзіць? Не чакай ад мяне гэтага!
Б а й к а ч *(кідае шапку аб падлогу).* Тады вось табе хамут і дуга, а я болей не слуга.

Пекарская. Што-о? *(Кідае на падлогу недакураную папяросу).*
Байкач *(паднімае).* Ашалела! Яшчэ пажар зробіш!..
Пекарская. Спаліць, спа... *(Глядзіць на веранду).* Нібы хто мятнуўся. Табе горача? Колькі разоў казала, трэба асцерагацца.
Байкач *(зачыняе веранду).* Гэта табе здалося, Ірына Казіміраўна. Скажы, калі прыязджаў Трутнеў, вас ніхто не бачыў?
Пекарская. Яго ніколі не было тут.
Байкач. Ілжэш! Калі ты з ім прагульвалася каля балотца, я стаяў у алешніку. Потым вы зашлі ў каноплі. Там нехта быў. Я хацеў паглядзець, але як убачыў, што ты села ў машыну, зусім забыўся. Я з поўкілометра бег за вамі.
Пекарская. У канаплях нікога не было.
Байкач. Добра, калі так.
Пекарская. Ну і трус-жа ты! *(Налівае віно, выпілі).*
Байкач. Толькі і чуеш ад цябе: «атруціць», «убраць». Абрыдла. Цяпер толькі я зразумеў, куды трапіў. І ўсё кручкі... праклятыя... Пайду ў камендатуру і раскажу аб усім...
Пекарская. Хутчэй спяшайся, па табе даўно турма сумуе...
Байкач. Пайду. *(Узяўшы гітару, ідзе).*
Пекарская. Сто-о-ой! *(Схапіла рэвольвер).* Зрабі яшчэ хоць адзін крок, страляю.
Байкач *(выпусціў з рук гітару, гітара звякнула).*
Пекарская. Пакляніся рабіць тое, што я скажу.
Байкач. Клянуся.
Пекарская. Мала адхіліць ад старшынства Ціта Станкевіча. Трэба знішчыць усю іх сям'ю. І ў першую чаргу Аксінню. Стала яна мне наўпоперак дарогі.
Байкач. Гэта не так лёгка.
Пекарская. Без разгавору.
Байкач. Слухаю.
Пекарская. На калі прызначана вяселле Аксінні з Сасноўскім?
Байкач. На сёння.
Пекарская. Я яго расстрою. *(Раптам).* Хутка прыязджае Руднеў з Масквы. Увечары будзе спектакль. Ты пускаеш чырвонага пеўня.
Байкач. Дык-жа і мая хата.
Пекарская. Згарыць яна!..
Байкач. О, не-е!
Пекарская. Добра. Я заплачу.
Байкач. Сёння?
Пекарская. Толькі сёння.
Байкач. Будзе зроблена. *(Стук у дзверы).*
Пекарская *(хавае рэвольвер).* Хто там? Ідзі, адчыні.
Байкач. Ідзі-ж ты. *(Абое баяцца падыходзіць да дзвярэй).*
Пекарская *(напалохана).* Напэўна па нас.

(Чуваць моцны стук, аж дзверы дрыжаць).

Пекарская *(да Байкача).* Адчыняй! *(Байкач напалохана падыходзіць да дзвярэй, адчыняе).*

Д о м н а *(хутка ўвайшоўшы)*. Прыехалі, прыехалі. Ваеводзін і Сасноўскі. Вясёлыя. Людзі, якія прадстаўлялі матэрыял для звальнення з арміі Ваеводзіна і Сасноўскага, самі звольнены. Сёння іх забралі.

Б а й к а ч *(лягчэй стала)*. Дзякаваць богу...

П е к а р с к а я *(нервова кінула недакураную папяросу)*.

Д о м н а *(да Байкача)*. Днём зачыняюцца?

Б а й к а ч. Французскі замок. *(Паказвае)*. Пстрык і гатова.

Д о м н а *(паказвае газету)*. Глядзіце! У «Правде» здымак. Сам таварыш Калінін уручае Рудневу ордэн «Чырвонай Звязды». Пашлі калгаснікі ўгору. Усе высыпалі сустракаць. *(Да Пекарскай)*. Па вас зайшла.

П е к а р с к а я. Ідзем, Домначка, ідзем. *(Закурвае)*. Дзе вы былі?

Д о м н а. У Аксінні. Грамаце вучуся.

П е к а р с к а я. А-а-а.

Д о м н а. Сымон! Захапі гітару.

Б а й к а ч. А як-жа! Руднеў, можна сказаць, мой лепшы друг... Разам бydла пасвілі. *(Да Пекарскай хітра)*. Падаруначак бы яму падрыхтаваць...

Д о м н а. Сасноўскі з Ваеводзіным прывезлі імянны гадзіннік. *(Да Байкача)*. Выходзіць, напрасна на іх пісаў.

Б а й к а ч. Мая справа сігналізіраваць, а іх—разбірацца.

Д о м н а. Пад чужую дудку, мілы, іграеш.

Б а й к а ч. Чужым розумам, мілая, жывеш. Кулінар Анісім навучыў.

Д о м н а *(грозна)*. Ты мне майго Анісіма не чапай. Не ўводзь у злосць, бо калі я вазьмуся, ад цябе мокрае месца застанецца.

(Зайграў аркестр. Усе выходзяць).

## КАРЦІНА IX

**Хата Станкевіча. На відным месцы вышытыя Настай партрэты Леніна, Сталіна. На сцэне Ціт і Наста. Я ы рыхтуюцца к вяселлю, накрываюць сталы, ставяць віно, закускі.**

Ц і т. Калі напісаў Огневу і ніякага адказу.

Н а с т а. Растоў на Доне не блізка.

Ц і т. Можа яго ў жывых няма?

Н а с т а. Навошта табе гэта старшынства?

Ц і т. Не ў старшынстве справа. Што, калі памру... не змыўшы плямы... дзеці, што скажуць дзеці?

Н а с т а. І ад наркома нічога няма. Ці прымуць Паўлушу?

Ц і т. А чаму яго не прынядь? *(Пауза.)*. Калі заўтра не будзе пісьма ад камісара Огнева, еду шукаць. Яго не будзе, знайду ў архівах чырвонаармейцаў. Вось толькі прозвішча іх?

(Уваходзіць Байкач).

Б а й к а ч. Што-ж вы не на спектаклі?

Н а с т а. Куды нам, старым! Вочы адмаўляюцца служыць. Сымонка! Калі-ж ты, дзеткі, канчаеш свой водпуск?

Ціт. Прызнацца па праўдзе, Сымон, калі я яшчэ быў старшынёю, напісаў у тваю ўстанову, як ты вёў сябе дома.

Байкач. Прымаю крытыку.

Ціт (*махнуў рукою*). Гарбатага магіла справіць.

Наста (*да Байкача*). Прыходзь на вяселле. (*Заглядае ў акно*). А бо-о, калгас гарыць. І з двух бакоў. Зноў няшчасце.

Ціт (*хутка адзяецца*). Папярэджваў-жа вартавых. Але Домна не засне. Значыць нехта з «сваіх» падпаліў.

Байкач. Пэўна «суседзі» падаслалі.

(Ціт і Наста выбягаюць. З імі Байкач. Відаць зарава. Бяжыць народ. Трывога. Брэшуць сабакі).

Голас (*на двары*). Людзі, пажар!

Байкач (*звяртаецца ў хату, дастае з кішэні парашок, сыпле ў вядро*). Тут і за бацьку солтыса... і за сябе... Поўны разлік... Пап'е Аксіння, Ціток з Настачкай, уся сям'я, дый ногі задзяруць... (*Становіцца ў позу*). Не чапай нашых...

(Убягае Пекарская).

Пекарская (*паглядзела кругом*). Ты адзін?

Байкач. Як бачыш! Заданне выканана, плаціце грошы. Спатрэбяцца.

Пекарская. Паспеем разлічыцца.

Байкач. Грошы на бочку! Я заўтра-ж зматваю вудачкі. Досыць!

Пекарская. Куды спяшаешся? Можа, заўтра будзеш у турме. Паслухай толькі. Прышлі па мяне на спектакль. Я праз акно і наўцёкі. Адно-ж вёска акружана. Выхаду няма. Ты павінен мяне схаваць!

Байкач. Куды-ж я цябе дзену? За пазуху, ці што?

Пекарская. Дзе хочаш, мне няма дзела. Іначай абое загінем.

Байкач. За мяне табе няма чаго непакоіцца. Чыста зроблена. Камар носа не падточыць. Чаго цябе ліхарадзіць? На каго ты падобна? Чуперадла нейкае!

Пекарская. Ледзь выскачыла, разумееш! (*Узяла кружку, хацела ваду піць*).

Байкач. Стой, не пі. Гэта прыгатавана для Станкевічаў.

Пекарская. А ў калодзеж усыпаў? (*Ставіць кружку*).

Байкач. Якая ты спрытная! Так адразу ўсё і ўхопіш. Слухай, кажу па добраму, плаці. Дарма я для цябе стараўся.

Пекарская. Паспееш. Яны наладзілі павальны вобыск. Хутка прыдуць сюды.

Байкач (*спалохана*). Тады нам гроб з крышкай.

Пекарская. Ого! Чаго захацеў! Як сабак пад плот выкінуць.

Байкач (*яму стала страшна*). Я зусім паміраць не хачу.

Пекарская (*спалохана*). Ідуць!

Байкач. Куды-ж мне цябе?

Пекарская. Хутчэй!

Байкач. А ну цябе! Буду я з-за яе пакутваць. Сама заварыла кашу, сама і...

Пекарская (*выхапіла рэвольвер*). Доўта ты будзеш маліцца богу? А то адну табе, а другую... Жывою ім мяне не ўзяць.
Байкач (*спалохана*). От, галава! Перш сабе, а потым...

(Шум набліжаецца).

Пекарская (*узвяла курок*). Усёадно прападаць.
Байкач (*дрыжачым голасам*). Куды-ж мне цябе? Ногі ў падлы доўгія, а то-б у падпечак. (*Схапіў за руку*). Пойдзем.
Пекарская. Хутчэй! Яны ўжо блізка.
Байкач (*ледзь не плача*). Куды я цябе? Тады тут.
Пекарская. Тут нельга.
Байкач. Самае надзейнае месца. Ніхто нават не падумае, што ты ў хаце Станкевіча. Толькі ты рэвольвер схавай, а то з перапалоху яшчэ выстраліш. Давай мне.
Пекарская. О, не-е! З рэвольверам я не расстануся. Хутчэй!!!
Байкач. Лезь у шафу. (*Адчыняе дзверы*). Хаця не. Пад кравацьʔ Ненадзейнае месца. Куды-ж мне цябе?

(Чуцен гоман. Сабака брэша, аж заходзіцца).

Пекарская. Ты знарок адцягваеш. Яшчэ адна мінута... і...
Байкач. У гэтай хаце не знойдзеш месца. (*Схапіў Пекарскую за руку, выбягае на двор. Гоман набліжаецца. Сабака ў будцы бурчыць*). Стой! Ёсць надзейная схова. (*Глядзіць на сабачую будку*). Нікому і ў галаву не прыдзе.
Пекарская. Дзе?
Байкач. У сабачай будцы.
Пекарская. Разам з сабакам? Ён разарве на часткі.
Байкач. А мы яго прыкончым.
Пекарская. Застрэліць?
Байкач. Толькі без шуму. (*Выхапіў з-за халявы фінку, падыходзіць да будкі*). Лыска! Лыска! Лысачка! (*Забівае сабаку*). Ну, а цяпер лезь (*Зняўшы страху з будкі, падсажвае Пекарскую*). Ды хутчэй-жа ты, з табой бяды не абярэшся. (*Накрывае*). Ух, ты! (*Выцірае рукавом пот. Адыходзіць*).

(Некаторы час на сцэне няма нікога. Потым падыходзіць Ваеводзін, Сасноўскі, Любоў Нікалаеўна, Аксіння, Ціт і Наста, а за імі Байкач).

Байкач (*працягвае гаварыць*)... Бачыў, як нейкая жанчына бегла... прама ў алешнік... гэта пэўна яна...
Аксіння (*у касцюме каралевы Елізаветы*). Каля алешніка мы з Любоўю Нікалаеўнай стаялі. Яна там не магла прайсці.
Сасноўскі. Дзе-ж яна дзелася?
Байкач. А хто-ж яе ведае?.. Калі пачаўся пажар, мы з дзядзькам Цітам і цёткай Настай былі ў хаце...
Наста. Але. Рыхтуемся к вяселлю, разгаварваем, ажно там гарыць.
Ціт (*да Ваеводзіна і Сасноўскага*). Добра, што вы падскочылі, а то пагарэла-б жывёла.

(Падыходзяць Павел, Крушынін, Удалаў, Анісім, Рудкоў).

Удалаў. Усю вёску абшукалі, нідзе не знайшлі. Як скрозь зямлю правалілася.

Руднеў *(у касцюме караля Рычарда III, а наверсе піджак з ордэнам)*. І ўсё-ж яна недзе ў вёсцы.

Сасноўскі *(выцершы пот, да Насты)*. Матуля! Як-бы вады папіць?

Наста. Не трэба, дзеткі, ты ўвесь мокры.

Аксіння. І сапраўды, не пі.

Сасноўскі. Лета, горача, не зашкодзіць.

Наста. Ну, ты сябе лепей ведаеш. *(Ідзе ў хату, выносіць кружку вады)*.

Байкач *(спалохана)*. Алё! Не піце. Вы ўвесь успацеўшы. Яшчэ ліхарадка.

Сасноўскі. Глупства! *(Адпіўшы)*. Чаму гэта вада такая нясмачная?

Наста. Вядома ў хаце стаяла... цёплая. *(Узяла кружку)*.

Ваеводзін *(да Крушыніна)*. Вы добра абшукалі?

Крушынін. Ні адной хаты не абмінулі.

Павел. Засталася адна наша хата. Можа яна тут дзе-небудзь?

Наста. Што ты, Паўлуша?

Байкач. Ого! Будзе яна тут хавацца... Яна гэту хату кругом абыходзіла...

Ціт. Усё-ж лепей паглядзець.

Ваеводзін *(да Крушыніна)*. Абшукаць хату Станкевічаў.

Крушынін. Ёсць. Абшукаць хату Станкевіча. *(Ідуць у хату. Сасноўскі садзіцца на прызбу)*.

Аксіння. Сасноўскі! Што з табой? Ты стаміўся?

Сасноўскі. Нешта слінү гоніць.

Ваеводзін. Можа?.. *(Ідзе ў хату)*.

Аксіння. Прасілі цябе не піць.

Сасноўскі. Мне дрэнна.

Аксіння *(углядаецца ў твар)*. А-ах! Цябе атруцілі...

Наста *(напалохана)*. Што гэта робіцца на свеце! *(Бяжыць у хату і выносіць збанок)*. Выпі, дзеткі, кіслага малака. Пярвейшае лякарства. Ды хутчэй у больніцу.

**(Сасноўскі п'е. Усе акружаюць яго. Потым ідзе за хату. Праз некаторы час звяртаецца).**

Ваеводзін *(вышаўшы з хаты)*. Расступіцеся.

Сасноўскі *(да Ваеводзіна)*. Ну, як?

Ваеводзін. І тут няма. Як скрозь зямлю правалілася.

Сасноўскі. Няўжо вада атручана? Ці, можа так, зашкодзіла?

Ваеводзін. Так. Атручана. *(Паказвае паперку ад парашка)*. *Бачыце чым?* Шчасце ваша, што мала выпілі. *(Чухае патыліцу)*. Што будзем рабіць?

Сасноўскі. Прыдзецца яшчэ раз абшукаць. Мусіць, нехта схаваў.

Ваеводзін. Таварыш Крушынін! Наладзьце паўторны вобыск.

Крушынін. Ясна. Наладзіць паўторны вобыск. *(Ідуць)*.

Аксіння (*праходзіць каля будкі*). Мама! Што з нашым сабакам? Чаму ён не брэша? Можа захварэў? (*Асцярожна падыходзіць да будкі, напалохана*). Кроў? Яна недзе тут. (*Заглядае ў будку. Чуваць стрэл, другі. Аксіння схапілася за руку. Да яе падбягае Наста, перавязвае, усе акружаюць будку*).

Удалаў (*наставіў штык*). А ну, вылазь, сучка!

Анісім (*скінуў страху*). Гатова!.. застрэлілася... (*Дастаюць з будкі*).

Наста (*перавязваючы руку Аксінні*). Скажы ты, хапіла смеласці...

Удалаў. У вісок?..

Сасноўскі (*устаў, падыходзіць*).

Ваеводзін. Малайчына Аксіння! Пятую выпарала. Сапраўдная патрыётка радзімы.

Сасноўскі (*разглядае*). Прыкідваецца...

Крушынін. Не-е... Бачыце, з віска кроў...

Руднеў. О-го-го-го-о! А другі цэлы. А ну, уставай! Уставай, кажу, Ну-у!

(Пекарская ўстае).

Наста. А ліханька!

Анісім. Стопроцантная сволач! (*Да Удалава*). Ка-а-лі-і яе! Яна-ж забіла Цімоха Гладкіх.

Удалаў. Пад руку не гавораць.

Наста. Яна Цімоха забіла? Праклятая!

Сасноўскі (*абняў падышоўшую да яго Аксінню*). Загартоўвайся!

Наста. Першую загартоўку яна атрымала ад немцаў. Падыходзім з бацькам. Бачым, сярод халодных мерцвякоў яе. Поўзае па іх, уся акрываўленая. Не ведаем, як зваць. Далі мы ёй імя нашай першай дачкі—Аксіння.

Сасноўскі. І паўторную загартоўку ад палякаў. (*Пацалаваў*). Будзь моцная, як сталь. (*Да Пекарскай*). Ну як, панна Ядзя, даскакаліся? Хто забіў Цімоха Гладкіх?

Пекарская. Я.

Сасноўскі. Хто падпаліў калгас?

Байкач. Алё!

Пекарская. Я.

Ваеводзін. Па чыйму заданню павінны былі забіць коней?

Пекарская. Па майму.

Наста (*да Ціта*). Панна Ядзя?

Ціт (*здзіўлена глядзіць, падыходзіць бліжэй*). Яна. Як-жа гэта я яе раней не пазнаў?

Наста (*падышоўшы*). Цьфу табе ў вочы!

Ціт (*да Удалава*). Дай сюды вінтоўку. Такіх жанчын забіваюць. Дай.

Павел. Не гарачыся, бацька. Яе куля не міне.

Сасноўскі. Хто атруціў жарабка?

Пекарская. Я.

Дзяўчына (*падышоўшы да Ціта*). Вам заказное пісьмо.

Ціт (*чытае*). Ад Огнева? Пісьмо ад Огнева! (*Рад як дзіця*). Дай я цябе пацалую! (*Цалуе дзяўчыну*).

Наста. Бацька!

Ціт. І цябе, мой свет! (*Цалуе Насту*).

Дзяўчына (*да Паўла*). І табе ёсць. Паскачаш, аддам.

Павел (*узяўшы пісьмо*). Ад Наркома. (*Разарваўшы, чытае*)... Прынят у рады Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. (*Цалуе дзяўчыну, танцуе*).

Руднеў. Ну, як справы, сігналізатар?

Байкач. Дррыыжжуу...

Сасноўскі (*паказвае на Пекарскую*). Забраць! (*Яе бяруць пад варту. Да Руднева*). А вам спектакль расстроілі?

Руднеў. Нічога. Мы яшчэ сыграем. О-го-го-о!

Пекарская (*да Сасноўскага*). Шкада, што вы мала хапілі вады.

Сасноўскі. Ну і што-б з гэтага было? Капіталізм усёадно загіне, а комунізм, не гледзячы ні на што, пераможа! (*Кіўнуў. Пекарскую вядуць*).

Ціт (*пагаварыўшы з Настай*). Прашу ўсіх у хату, на вяселле.

(Усе заходзяць у хату. адзін Байкач паплёўся, апусціўшы галаву).

Наста (*як зайшлі*). Дарагія госці! Прашу за стол. (*Усе садзяцца, выходзіць Аксіння пераадзеўшыся. Заходзяць: лётчыкі, танкісты, пагранічнікі, калгасная моладзь*).

Ціт (*устаўшы*). Праўленне калгаса «Праўда» даручыла мне, як самаму старэйшаму тут, адкрыць калгасны бал. Нальем поўныя чаркі і вып'ем да дна за наша шчасце і радасць, за першага з першых патрыётаў нашай радзімы, за таварыша Сталіна! (*Воплескі. Усе ўстаюць*).

Галасы:—Ура таварышу Сталіну!
— Няхай жыве таварыш Сталін!
— Дзякуй Сталіну за шчаслівае жыццё!

Наста. Вось яно, жыццё прышло, паміраць не хочацца. Частуйцеся госцейкі.

(П'юць, закусваюць. Дзяўчаты спяваюць. Галасы: „Горка! Горка!" Аксіння з Сасноўскім пацалаваліся. Танец „Мяцеліца". Танцуюць усе, а з імі Ціт з Настай. У разгар весялосці ўваходзіць пагранічнік, аб нечым гаворыць Ваеводзіну. Ваеводзін сказаў Сасноўскаму).

Ваеводзін. Таварышы пагранічнікі! (*Усе акружаюць яго*). Прабачце, чырвонаармейцы-пагранічнікі. (*Засталіся толькі чырвонаармейцы-пагранічнікі, астатнія адыходзяць*). Узброеная банда ў колькасці сямі чалавек у суправаджэнні аддзялення салдат хоча прабрацца на наш бок. Іх стрымлівае двое байцоў. Наша задача не прапусціць іх. За мной! Бя-го-о-ом!

Сасноўскі *(на хаду да Аксінні і Насты).* Мы хутка звернемся. *(Пайшоў).*

Наста. Вось яно, жыццё пагранічнае, вяселля згуляць не дадуць. Хацелася-б мне дачакацца той пары, калі не будзе ніякіх граніц.

Ціт. Гэта будзе, хутка будзе.

(Вяселле працягваецца. Танцуюць калгасны танец

Наста. А табе, Паўлуша, пара ў паход ісці. *(Выходзяць).*

Май, 1939 г.
Мінск-Пухавічы.

К. Цітоў

# КАБЗАР[1]

Дай, кобзарю, я заграю!
*Т. Шэўчэнка.*

I

На Івана
На Купалу
Дзеўчына
Вянок сплятала,
З барвёначку
Завівала,
У быстру рэчаньку
Кідала:
Ой, плыві, плыві,
Вяночак,
Разгані мой сум,
Дружочак.
Ой, плыві-ж ты
За вадою,
Можа знойдзеш
Маю долю.
І скажы ёй:
— Я журуся,
Жду яе
Ды не даждуся,—

Звінела песня.
Гэтак ля кастроў
Страчалі ноч купальскую вякамі,
Адзенні новыя надзеўшы скрозь,
Кружылі харавод дзяўчаты. Камень
Хлапцы спяшаліся хутчэй накрыць,
А потым беглі віхрам к хараводу.
Скакалі ў пары з крыкам праз кастры
Дзяўчаты з хлопцамі. Цадзілі воду
Праз хустачку, зачэрпнуўшы з ракі.
Зялёнай папараццю скроні націралі,

[1] Аснована на легендзе, запісанай у с. Хадзеўка на Чарнігаўшчыне.

Гулялі ў «метку», ў «гары-пень» гулялі,
На воду кідалі пярсцёнкі і вянкі...

Рукамі голаву абняўшы, сумны
Сядзеў перад кастром кабзар сляпы.
Ён невідушчым позіркам тупым
Сачыў за гульнямі з цяжкою думай.
— Апоўнач прыдзе—вызначаны час—
І разбрадуцца ўсе яны маўкліва,
Каб сотняю вачэй, каторы ужо раз,
Шукаць заветнай кветкі бляск шчаслівы,
Сарваць яе, ледзь толькі праблісне,
На папараці векавой засвеціць:
Той цвет навечна шчасце прынясе
Бацькам і мацерам, і дзецям.
Ў няволі цяжкай сотні год прайшлі
А людзі кветкі шчасця не знайшлі,—
З людзьмі найлепшымі пасаджана за краты
Яна царом самадзяржаўным катам!..

Плывуць па хвалях свежыя вянкі,
Што ў воду кінуты дзявоцкімі рукамі.
Так, Украіна, і твае вякі,
Нібы вянкі,—заплецены гадамі
Пакут і мук. Павіта галава
Калючым цернем катаргі і здзекаў;
Твой смутак лёг, як тая сон-трава,
І воля-скарб закопана навекі.

Гульні прышоў канец. І як дзяды калісь,
На пошукі пайшло іх пакаленне.
Сляпы кабзар адзін касцёр паліў
З старой падругай-кобзай на каленях.
Ў аддалях голас сумнай песні змоўк.
Касцёр загас і папараць лістамі
Шапоча зманліва. Ў кустах даўно
Заснуў кабзар, спакутваны гадамі.

II

Агнём ружовым бліснуў гарызонт,
І сонца промнем спёкліва-гарачым
Сляпца кранулася... Збудзіўся ён.
І дакрануўся струн рукой бядачай:
— Дзе заступ точаны, каб расхапаць
Ў глухім стэпу вялікія магілы,
Каб косці Налівайка адшукаць,
Панесці іх, як адраджэнне сілы?
Дзе гнеў, каторы вёў на бой палкі
Пад кіраўніцтвам храбрага Багдана,

Калі ўрываліся ў палацы казакі,
Няслі народны суд і кару пану?..

Яшчэ спяваў ён, як ішла арда,
Стэпамі нашымі валіла грозна.
Вачамі невідушчымі рыдаў,
І гукі кобзы падалі, як слёзы.
У нерухомым моры цішыні,
Бы стогн народны песня прагучала—
— Зямелька родная, а дзе-ж твае сыны?
Калі-ж нам шчасце прынясеш, Купала?

... Маўклівы стэп. Калі-б хоць енк, ці крык,
Ці хоць-бы слова ўчуць якое ў травах...
І раптам чуе ён:—Не плач, стары,
Бо слёзы ліць—не кабзарова справа!
Пытаеш ты, дзе заступ наш, дзе меч,
Дзе гнеў і помста, дзе іх закапалі,
Дзе гул паходаў, гром суровых сеч
І дзе сыны, што ў гэтых сечах палі?..
Няволя цяжкая, галеча і турма,
І ў хмарах знікла сонца агнявое,
І зброі іншае пакуль у нас няма—
Як толькі праўды слова залатое.
Яно адно не вызваліць ад бед,
Але грымне, як гром над нашым краем—
І гнеў паўстане, ў мужнай барацьбе
Народ сурова катаў пакарае.
І прышлы змоўк. Як жаўранак ляцеў
Было чуваць. Займаўся дзень гарачы.
Было чуваць аж як трава расце.
Кабзар сляпы сказаў:—Мой дружа, бачыш,
Я перабендзя бедны, старцаў брат,
Узняць той меч ужо не маю сілы,
Схадзіў я свой бядою скуты край—
Ад Запарожжа да Савур-магілы.
Вось тут даўным-даўно ляжаць, юнак,
Мой дзед і прадзед, што свой край любілі.
І. мусіць, давядзецца мне сканаць
Вось тут, на іх праслаўленай магіле.
А ты ідзі, за доляй у паход—
Расчыняць дзверы прад табой народы:
Пра гнеў і помсту, пра салёны пот
Спявай усім, палі агонь свабоды!
Каб люд гаротны песня ўзняла,
Каб праўда ў песні, як зара, свяціла,
Каб ў слове праўды нашай узрасла
Мяча дамасскага, маланак сіла!..
І лёг кабзар, стаміўшыся, ў траву,
Сляза пякучая з вачэй лілася:

— Скажы, юнак мой, як цябе завуць?
І той сказаў:—Завуць мяне Тарасам!
— Ідзі ў народ... І кобза звонам струн
Кранула стэп і на траву упала.
Ляжаў кабзар—нямы, халодны труп,
А на вачах сляза яшчэ дрыжала!
Старую кобзу ўзяў сабе Тарас,
Абцёршы пыл з яе, крануўся струн старэчых.
У неба сіняе ўзляцела песня ўраз,
Стэп адгукнуўся стогнам чалавечым.

III

Над мястэчкам Берастэчкам, над старым базарам
Гукі кобзы узвіліся і людзей склікаюць.
— Гэй, выходзь, народ хрышчоны, слухаць песні дарам,
Слухаць праўду, пра якую, многія не знаюць!
Ой, мястэчка Берастэчка, як ты доўга будзеш
Ярмо несці долі цяжкай у ліхой няволі,
Ці распрамяць свае спіны, ці паўстануць людзі,
З тапарамі гуртам пойдуць ваяваць за волю?
Ой, мястэчка Берастэчка, стэп вакол шырокі,
Ты ад сну прачніся, выйдзі, скінь цяжар пакуты,
Украіну задушылі паны-крывасмокі,
Украіна—родна маці ў кайданы закута.
Як-жа доўга ты з пакорай маўчаць будзеш катам,
І ці доўга плакаць будзеш па сваёй няволі.
Пеў Тарас і песня праўды залятала ў хаты,
Пеў Тарас і песню праўды паўтарала поле,
Праляцела песня праўды над прасторам родным—
Цераз горы, цераз стэпы, ў сонечныя далі.
Паўставаў на Украіне гнеў усенародны,
Тапары тачылі людзі, абух гартавалі.
Не маглі той песні праўды, мужнай і суровай
Задушыць паны, жандары лапаю крывавай,
Цераз краты казематаў, цераз сцены сховаў
Вылятала да народа кабзарова слава!

Пераклаў з рускай мовы *Рам. САБАЛЕНКА*.

Г. Бярозкін

# АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## 1

Аркадзь Куляшоў належыць да таго пакалення людзей, рост і фарміраванне якіх працякалі выключна ва ўмовах совецкага ладу. Пачатак свядомага жыцця гэтых людзей падае, прыкладна, на годы першай пяцігодкі, пяцігодкі карэннай соцыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі нашай краіны. Асноўным момантам, які вызначыў сабою сэнс і змест усёй актыўна-творчай дзейнасці пакалення людзей, да якога адносіцца і Куляшоў, з'яўляецца свядомасць свабоднага і нічым не сцяснёнага жыцця, свядомасць таго, што самому табе, па праву працоўнага і вызваленага чалавека ўручаны твой уласны лёс, непарыўна звязаны з вялікім і слаўным жыццём краіны.

Пачынаючы з вершаў з кніг «Па песню, па сонца» і канчаючы паэмай «У зялёнай дуброве»—ва ўсіх вершах А. Куляшова нязменна прысутнічае пачуццё любві да жыцця. Шлях, які прайшоў Куляшоў ад першых сваіх маласамастойных вучнёўскіх вопытаў да апошніх вершаў—ёсць шлях набліжэння да найбольшай ідэйнай і творчай спеласці, шлях набыцця майстэрства, вартага значнасці і глыбіні выказваемага ім пачуцця. Шлях гэты яшчэ не закончаны. І гэта трэба адзначыць, як безумоўна станоўчую якасць паэта Куляшова, што ён знаходзіцца ў заўсёдным творчым руху, што ён заўсёды адчувае патрэбу ламаць устаяўшуюся манеру пісьма, правяраць сябе на тэме, шукаць кожны раз новыя сродкі паэтычнага ўздзейнічання. Хоць справядлівасць патрабуе адзначыць, што ў гэтым няспынным руху Куляшова ёсць яшчэ шмат ад неўстанавіўшайся індывідуальнасці, ад адсутнасці цвёрдай упэўненасці ў праваце сваіх паэтычных прынцыпаў, ад недастатковай цэласнасці і акрэсленасці паэтычнага стылю.

Так ад заўваг і прадпасылак агульнага характару мы павінны перайсці да больш канкрэтнага аналізу тых паэтычных якасцей, якія характарызуюць вершы А. Куляшова.

Першыя вершы А. Куляшова адносяцца да 1929-30 г. г. Яны сабраны ў невялікім зборніку «Росквіт зямлі». Неабавязкова звяртацца да гэтага зборніка для таго, каб зразумець своеасаблівасць далейшага творчага развіцця Куляшова. Знойдзеныя ў гэты перыяд стылевыя асаблівасці верша не аказалі ніякага ўплыву на далейшую творчасць маладога паэта. Ды аб тых вершах наўрад ці

можна гаварыць як аб чымсьці індывідуальна набытым. Усё тое, аб чым пісаў Куляшоў у зборніку «Росквіт зямлі», было наспех узята пачынаючым, тады яшчэ 16—17 гадовым паэтам з іншых вершаў, з разліку дагадзіць устанавіўшамуся ў той час «публіцыстычнаму» штампу ў паэзіі. Паэт паўтараў гатовыя фразы, слоўныя і вобразныя спалучэнні, звыклыя вуху параўнанні. У пераважнай большасці гэта былі бясплотныя паэтычныя абстракцыі, якія павінны былі выразіць высокі пафас, гучныя, узвышаныя пачуцці. Усе вобразы Куляшова будаваліся ў якімсьці ненатуральна-высокім і патэтычным плане. «Мы—магутны волат», «У жылах пульсуе рабочы цэх, у сэрцы фабрычны жар», «жыве чалавек магутны, як домна і сталь», «праца, як волат, сэрца, як цэх» і г. д.

У тыя годы (1930-31) памыляліся многія паэты. Тады здавалася, што наша паэзія набудзе сваю соцыялістычную якасць толькі ў тым выпадку, калі яна зможа абмежаваць круг сваіх жывых назіранняў і круг сваіх мастацкіх вобразаў некаторымі вонкавымі «фабрычна-заводскімі» адзнакамі. Лірыка была тады пад забаронай вульгарызатарскай крытыкі, і словы паэта праходзілі скрозь нейкія ледзяныя пустыры асабістай незацікаўленасці ў тэме.

У зборніку Куляшова «Росквіт зямлі» ёсць два-тры вершы, у якіх пачынаючы паэт рабіў спробу выйсці за межы трафарэтнага аваподвання тэмай, спробу ўнесці ў злабадзённую палітычную тэму сваё лірычнае перажыванне. Гэтыя вершы, як «Пяцігодка», у якім малады паэт імкнуўся гаварыць з пяцігодкай па свойму інтымна, ці «На зямлі»—верш, у якім ёсць першыя сляды канкрэтнага паэтычнага замыслу, былі затым уключаны ў другую кнігу вершаў А. Куляшова «Па песню, па сонца». Іменна, гэты другі зборнік сам паэт лічыць сваёй першай кнігай паэзіі.

«Па песню, па сонца»—вельмі стракатая і шматкаляровая кніга. У ёй прадстаўлены вершы самых розных паэтычных узроўняў, самых супроцьлеглых стылявых накіраванняў. Перш за ўсё укажам на вельмі значны след таго ілжыва-рамантычнага пафаса і абстрактнага апявання будаўніцтва, да якога быў схільны Куляшоў у сваіх першых вершах, і які ў вельмі моцнай меры сказваўся і ў яго «першай кнізе паэзіі». У ёй яшчэ значнае месца займаюць матывы абстрактнага захаплення, выражанага пры дапамозе наіўна-усклікаючых інтанацый, накшталт: «Ах, палкі час вялікіх дасягненняў», «Ах, гэты час!» і г. д. Аднак, у пераважнай большасці вершаў кнігі Куляшоў імкнуўся перамагчы гэты прымітывізм. Ён стаў на шлях фармальна-паэтычнай вывучкі, імкнучыся да той складанай і багатай культуры верша, якая дала свае рэальныя і асабліва адчувальныя рэзультаты ў перадавой рускай паэзіі. На гэтым шляху спалучэння багатых і плённых традыцый беларускай народнай паэзіі з вышэйшымі дасягненнямі кніжнай паэтычнай творчасці і, перш за ўсё, з дасягненнямі рускай паэтычнай культуры—на гэтым шляху дасягнуты ўсе, найбольш значныя, перамогі нашай паэзіі. Толькі пытанне аб паэтычнай вучобе і паэтычных уплывах на кожным асобным прыкладзе творчасці таго ці іншага паэта, ніколі не ставілася і не ставіцца, як пытанне аб прамых і непасрэдных

перайманнях. Дастаткова прывесці некалькі прыкладаў з паэзіі Куляшова, калі механічна перанесены чужы вершавы лад без дастатковага яго асэнсавання з пункту погляду унутранай ідэйнай мэтазгоднасці, прыводзіў да рэзультатаў неўлічваемых і нежаданых. У кнізе «Па песню, па сэрца» можна знайсці цэлы рад вершаў, у якіх Куляшоў кляўся ў вернасці сваёй краіне, у духу урачыстых ламентацый Лугаўскога. Там, дзе Куляшоў пісаў, звяртаючыся да краіны:

Я сцюжай гадоў загартован не быў,
Я з песняй не жыў у асяроддзі рабочых,
Таму так хачу не сарвацца ў нябыт,
Таму так хачу не скаўзнуцца, не збочыць—

сёнешняму чытачу чутна інтэлігенцкая жальба, нараканне на так-называемыя цяжкасці перабудовы, характэрныя для творчасці вялікай групы савецкіх паэтаў—выхадцаў з дробнабуржуазнага інтэлігенцкага асяроддзя. Відавочна, Куляшоў менш за ўсё разлічваў на такія вывады. Ці яму, 17—19-гадоваму юнаку, поўнасцю належачаму новай савецкай фармацыі, паўтараць тыпова-інтэлігенцкія апасенні «не скаўзнуцца, не збочыць»? Усе яны былі перанесены з чужых вершаў разам з усім ладам верша, яго рытмам, слоўнікам, сінтаксісам. У вершах «Па песню, па сонца» можна знайсці сляды перайманняў у Лугаўскога. Вось як Куляшоў звяртаецца да краіны:

Ты размяркоўваеш нашы пасады
І ты падначальваеш нашы парывы,
Скажаш:—Расці!
 І я буду расці,
Скажаш:—Праў!
 І я стану з брыгадай
Правіць на цэле тваім прарывы...
Скажаш: —Ідзі!..
 І я буду ісці!..

Ёсць і ў кнізе цэлы рад вершаў, у якіх Куляшоў, імкнучыся пашырыць свой тэматычны далягляд, рабіў гэта за кошт падпарадкавання «традыцыйна»-паэтычным матывам, адначасна паўтараючы агульнапрыняты метад іх інтэрпрэтацыі.

У якасці прыклада дастаткова прывесці верш «За зоры, за месік, за ветравы смех». Увесь гэты верш будуецца на выкарыстоўванні умоўна-«літаратурных» сродкаў верша, кананізіраваных усялякімі паэтычнымі школамі. Увесь верш мае якуюсьці вельмі умоўную, туманную семантыку: «Чырвоныя здані злятаюць са стрэх далёкай нябеснай краіны».

І здані у купале сінім гараць
Агнём маладым і мяцежным.
Над цёмнымі пушчамі мудрая гаць
Лягла палатнянаю сцежкай.

Верш прысвечан Крыму. Таму ў ім невыпадковы асацыяцыі, звязаныя з матывамі, неаднаразова распрацаванымі ў вершах, пры-

свечаных таму-ж Крыму. Адсюль упамінанне татарскіх орд і «Крыма далёкай славы». У канкрэтнай паэтычнай трактоўцы гэтага матыва Куляшоў зусім паслухмяна следаваў традыцыі Блока, фактычна паўтараючы яго вершы.

Тут орды забытых татарскіх плямён
Учыняць крывавую справу...
Адскочаць, адзвоняць, адсвішчуць у стэп
І коні узмятуць капытамі,
Каб іх не клялі ля разбураных сцен,
Каб іхных слядоў не пыталі...

У гэтых вершах Куляшоў поўнасцю узнаўляў паэтычную інтанацыю Блока. Вучоба ў рускіх паэтаў, у прыватнасці, у Блока, Багрыцкага, Тіханава з'яўлялася вельмі істотным этапам у перамаганні Куляшовым таго вершавога прымітыва, які ў моцнай меры сказаўся на яго першых вершах. Аднак, зжываючы гэты штамп паэтычнага прымітыва, малады паэт упадаў, як мы гэта паказалі на прыкладзе верша аб Крыме, у другі штамп—штамп кніжна-паэтычнай умоўнасці. Канкрэтным вынікам яго з'яўлялася некалькі прыглушанае гучанне соцыяльнай тэмы, зыбкасць і недастатковая акрэсленасць ідэйнай установкі паэта. Крым татарскіх орд і Крым Перакопа—гэта дзве розныя тэматычныя плоскасці, і аднолькава ўжытая да іх манера блокаўскага верша не магла прывесці да станоўчых вынікаў. Высокі рамантычны план верша, у якім Куляшоў гаворыць аб Перакопе, аб рэволюцыі («А зоры імчацца праз дальны сусвет па сініх шляхох рэволюцыі», «А зоры ўрываюцца праз Перакоп у першых палках рэволюцыі»), з'яўляецца чысцейшай паэтычнай абстракцыяй.

Сур'ёзную спробу перамагчы свой наіўны і кніжны рамантызм зрабіў А. Куляшоў у цыкле вершаў, прысвечаных комсамольскаму пакаленню. Ужо сама па сабе новая (у параўнанні, хоць-бы, з вершамі аб Крыме) тэматычная установка пацягнула за сабою цэлы рад змен фармальна-паэтычнага і жанравага парадку. Верш лірычна-апісальны тут уступае месца вершу-манолагу, у якім паэт выступае не носьбітам лірычнай біяграфіі, а носьбітам лірычнага голасу, які ідзе ад імя цэлага калектыва. Характэрным у гэтых адносінах з'яўляецца верш «Гісторыя гэтай нізкі». У ім Куляшоў імкнуўся адлюстраваць асноўныя рысы свайго комсамольскага калектыва, стварыць, так сказаць, яго збіральны вобраз. Аднак, гэты збіральны і абагулены вобраз комсамольскага калектыва, да якога належыць і сам паэт, у вершах Куляшова хутчэй пракламіраван, чым паэтычна раскрыт. Толькі ў асобных вершах з кнігі «Па песню, па сонца» сустракаюцца першыя жывыя абрысы людзей. Да гэтых вершаў перш за ўсё адносяцца «На лесазагатоўках» і лірычны цыкл «Дарогі». Вельмі знамянальны і той факт, што перамагаючы элемент літаратуршчыны, звяртаючыся ўпершыню да матываў жывой совецкай рэчаіснасці, Куляшоў прыбягае да верша нарыснага, апісальнага характару. Гэтым паэт як-бы падкрэсліваў непраходзячую значнасць самога матэрыяла ў яго першапачатковым, натуральным жыццёвым змесце, а не толькі ў форме свайго

паэтычнага пераказу. Паэт задавольваўся тым, што добрасумленна і дакладна фіксіраваў жыццёвыя з'явы.

Быў такі на свеце час,
Прыязджалі інжынеры,
Вывучалі ціхі пласт
І таемныя намеры.

Іменна, гэты, распрацоўваемы Куляшовым, вершаваны нарыс, з'яўляўся сур'ёзным крокам наперад да рэалістычнага верша. Своечасовае адмаўленне ад метафарычнага вершавага ладу (які, дарэчы, пазней адродзіцца ў «Гарбуне», у «Аманале») у імя жывой поўнакаштоўнасці самога матэрыялу, прывяло Куляшова да безумоўна станоўчых рэзультатаў.

У вершы «На лесазагатоўках» (з кнігі «Па песню, па сонца») той-жа нарысны разварот тэмы ужо падмацаван лірызмам, уменнем карыстацца прыватнай лірычнай дэталлю.

Маленькі спалохаўся заяц
І ў тундру якуцкую збег...
У лесе мяцеліца злая
Знямее і ляжа на снег.

А вось скупымі, але дастаткова выразнымі сродкамі паказваецца малады комсамолец, які адгукнуўся на заклік краіны пайсці на лесазагатоўкі.

Сярод барадатага люду
Адзін ён бязвусы зусім,
Напяў паласатую хутру
Ад ветру марозных зім.

Нам і зараз здаюцца вельмі свежымі і выразнымі гэтыя радкі аб «адным бязвусым» сярод «барадатага люду» лесарубаў. У зборніку «Па песню, па сонца»—гэта лепшыя вершы. Да іх непасрэдна прымыкае лірычны цыкл вершаў «Дарогі», у якім сугуба асабісты, ледзь не дзённікавы запіс маладога паэта ўдала ўключаны ў больш шырокі грамадскі матыў барацьбы і будаўніцтва. Свет, разглядаемы вачыма семнаццацігадовага юнака, прывабнага ў сваёй шчырай юнацкай усхваляванасці, свет, шырокі і ўсебаковы ў сваіх багацейшых праявах, ад «шызых хмар» пагромаў і войн, якія «прайшлі над краем гэтым, не закрануўшы галавы маёй», да ціхай і радаснай першай любві , «да кожнай маленькай засечкі сякерай невядомаю на дрэве»,—увесь гэты свет адлюстрован у вершах «Дарогі». Гэта вершы аб тым, як набліжаецца спеласць і як адыходзіць маленства.

Ад кошыкаў, ад стомы, ад вятроў...
Ад кошыкаў,—
                    У іх мы носім плёя,
Ад стомы,—
                    што ідзе пасля,
І ад вятроў,—
                    норд-остаў і зюйд-вестаў...

У «Дарогах» упершыню паяўляецца дзяўчына, «якую людзі клікалі Алесяй», і якая пазней будзе часта фігурыраваць у многіх

вершах Куляшова. Вершы «Дарогі» па-сапраўднаму канкрэтныя і па-сапраўднаму паэтычныя. У іх ужо выражан з вялікай паэтычнай шчырасцю матыў свабоднага самаадчування чалавека ў новай совецкай рэчаіснасці, матыў радаснага сцвярджэння жыцця.

Успамінаючы свае дзіцячыя годы, гераічны лётчык нашай краіны, заўчасна загінуўшы Анатолій Сероў, пісаў наступнае: «У свет, заваяваны нашымі бацькамі і братамі, мы ўвайшлі, як наследнікі, якім па праву належаць усе багацці вялікай радзімы... Мы прагна слухалі расказы аб тым, як нашы бацькі біліся ў грамадзянскай вайне, як яны перамагалі Калчака і іншых баронаў і генералаў... Мы марылі аб подвігах, аб славе, і хаця ў гэтых марах было многа дзіцячага і смешнага, але заўсёды яны былі звязаны з мыслямі аб радзіме...» Лірычны герой вершаў Куляшова змог-бы падпісацца пад гэтай заявай нашага гераічнага сучасніка. Як і Анатолій Сероў, ён прагна, з захапленнем і здзіўленнем разглядваў гарачыя сляды нядаўніх бітваў, у якіх бацькі і браты заваявалі радзіму. Сэрца яго запаўнялася пачуццём гордасці за сваю краіну, што «ішла праз вогнішчы, праз руіны», пачуццём найвялікшай удзячнасці да бацькоў і братоў, пачуццём чалавечага болю за старых матак і бабуль, што «плакалі па ўнуках і ўнучках»,

Па ўнуках—з чырвонаю зоркай на шлёме
Па унучках,—што ім перавязвалі раны...

З гэтых вершаў аб вайне, аб ветры горкіх і далёкіх вандраванняў, аб «старых людзях Клімах, Міколах»,—«сівых сведках» «забытай турэцкай вайны», аб матках, што «праглядзелі шляхі, даляглядзы сінія і шукалі сыноў сваіх за ўзгоркамі», аб пакутах «дачок, рукі якіх прапахлі укропам», аб жыцці, што рушыцца, «як не адна сасна рушылася» і аб новай маладосці, якая вырастае з крыві і пота адваяваўшых яе людзей,—з гэтых вершаў вырасла першая паэма Аркадзя Куляшова «Крыўда».

## 2

«Крыўда» была напісана ў 1931 годзе і ўключана ў зборнік «Медзі дождж» (з падзагалоўкам «Эпас»).

Тэма паэмы—імперыялістычная вайна і зварот з фронта дзесяці салдат, скалечаных і атручаных вайной. Паэма распадалася на дзве часткі: адна з іх называлася «На імперыялістычнай вайне», другая—«Дзесяць». Паміж імі не было цвёрдай паслядоўнай сувязі. «Крыўда» распадалася на асобныя фрагменты, не звязаныя паміж сабою адным паслядоўна развіваючымся сюжэтам.

Асобныя раздзелы паэмы напісаны ў форме публіцыстычна-газетнага верша, у той час зусім новага для Куляшова. К прыкладу, верш, у якім паказана падрыхтоўка да вайны «за уладу на добрай чужой зямлі, за нафту ў Персіі», «за вольныя воды, за нечапаныя ў зямлі пароды, за ўсё, на што вочы буржуя скваппы...»

З пункту погляду абмежаванага разумення рэалізма ў паэзіі, падмяняючага яго паняццем рэчавай і «апрадмечанай» канкрэт-

насці верша (у духу акмеістычных вершаў Нарбута ці Зенкевіча), сама па сабе ўстаноўка на публіцыстычную, нявобразную (у прывычным разуменні вобраза) мову можа паказацца папіраннем патрабавання рэалізма. Але гэта, вядома, не так. У творчасці цэлага раду савецкіх паэтаў публіцыстычны верш, насычаны вялікім палітычным зместам і глыбокім чалавечым пачуццём, з'яўляўся вельмі істотным этапам да поўнакроўнай рэалістычнай канкрэтнасці. Іншая справа, калі гэты-ж публіцыстычны верш, палохаючы многіх сваім рацыяналізмам, выкарыстоўваецца як састаўны элемент эпічнага твору ў рамках і граніцах агульнаэпічнага задання. У такім выпадку пытанне аб рэалістычнай выразнасці верша не можа вырашацца ізаліравана ад астатніх элементаў твору, а толькі ў цеснай сувязі з імі. У гэтым пункце паэма Куляшова «Крыўда» здольна выклікаць істотныя супярэчанні.

Справа ў тым, што прадпасланы паэме публіцыстычны ўступ з'яўляецца чужародным элементам паэмы, вельмі далёкім ад яе ідэйных і стылявых імкненняў. Наступныя раздзелы паэмы, якія напісаны, як мы гэта убачым пазней, у лірыка-апавядальным плане з выкарыстаннем цэлага раду сімвалічных элементаў народнай песні, не канкрэтызуюць, а наадварот, паслабляюць соцыяльны сэнс рэчы, сфармуліраваны вельмі выразнай палітычнай мовай у пачатковых раздзелах паэмы.

Соцыяльны і класавы сэнс імперыялістычнай вайны, пачатай капіталістамі ўсіх краін у сваіх-жа імперыялістычных інтарэсах, у «Крыўдзе» не гучыць з належнай палітычнай выразнасцю. Агульнае тэматычнае заданне паэмы было недастаткова канкрэтызіравана—у ёй зусім адсутнічала сувязь паміж паказам вайны і пытаннем падрыхтоўкі новых імперыялістычных боек. Фігуры безымянных салдат, якія ішлі «ў першае вогнішча вайны» з тайнай надзеяй на заступніка-бога, Куляшовым асэнсаваны з аднога толькі абстрактна-пацыфісцкага пункту погляду: «кожны чалавек смерці не жадае». Выбіты гвалтоўна з сваёй нармальнай, абжытай калеі, салдат ціханька і сумна марыць пра сябе:

Не кідаў-бы ты сваёй хаты, ганак—
Хаваўся у лесе дужы і цэлы,
Кахала-б цябе твая жонка Ганна,
Цешыла-б цябе маладым целам...
Калі загамоніць шырокі дуб,
І закалоціцца верхавіння,
Перадумае салдат многа доўгіх дум,
Перад кім і ў чым ён вінен.

Гэта само па сабе добрае месца, вельмі паэтычнае і вельмі выразнае. У ім ёсць сапраўдная чалавечнасць і шчыры боль з прычыны недарэчна пакалечанага жыцця. Наогул, «Крыўда» дасягае вялікай сілы ў тых месцах, дзе Куляшоў малюе жорсткую бяссэнсіцу вайны ў адносінах да ўсяго жывога, чалавечага. Нават прырода прыцягнена ў сведкі гэтай бяссэнсіцы. Яна драматычна і напоўнена змрочнымі прадчуваннямі. «Салаўі адпелі, зязюлі адку-

кавалі, адкрычаў сіваграк і ўдод, надыходзіла восень, за восень сумнейшая...» «Прарэзліва крычалі дзікія качкі», «і неба зрабілася шэрым і брудным...» «Крыўда» вытрымана ад пачатку да канца ў мінорных тонах. Але совецкі паэт, які валодае правільным разуменнем гістарычных падзей і гістарычнай перспектывы, абавязан прымусіць нават гэтую мінорнасць служыць на аптымістычную мысль аб рэволюцыі, як аб «адзіна справядлівай вайне з усіх, якія ведала гісторыя» (Маякоўскі). Паэма Куляшова, як сказана, не перамагае мінорнага пачуцця. Замест вайны, як соцыяльнай з'явы, Куляшоў гаворыць аб вайне, як аб стыхійна-разбураючай сіле, якая аднолькава губіць і чалавека і біялагічны свет. Не толькі людзі, але і «зубры і ваўкі ад агню звярэлі...» Салдаты, якія фігурыруюць у «Крыўдзе», падоўгу зазіраюцца ў неба «шэрае і бруднае» і адчуваюць войстры боль, гледзячы як іх абжыты свет гарачым попелам кладзецца ля ног...

У той частцы паэмы, якая называецца «Дзесяць», расказваецца аб дзесяці салдатах, якія вярталіся з фронта, параненыя, скалечаныя, сляпыя.

Хадзіла іх разам дзесяць чалавек—
Дзесяць чалавек—кульгавых калек,
У дзесятага вочы атручаны газам...
Сумавалі разам, весяліліся разам...

Куды ідуць салдаты?—невядома. «І тыдзень ідуць яны пяты, і пяты на тыдзень дзень...» «Ідуць без песень, імя і сцягоў», «і крыўду нясуць за спіной...» Стварэннем гэтага вобраза Куляшоў перш за ўсё абавязан сваёй блізкасцю да паэтычнага складу народнай песні. Можна прывесці шмат мясцін з паэмы, якія сведчаць аб тым, што Куляшоў багата карыстаўся паэтычнымі сродкамі вуснай народнай творчасці, у прыватнасці, тымі яе формамі, якія былі своеасабліва творча апасрэдстваваны і творча распрацаваны Янкай Купалай у яго вядомым вершы «А хто там ідзе?» Сам па сабе вобраз крыўды, якую нясуць за спіною ашуканыя салдаты, бясспрэчна навеян аналагічным, паэтычным вобразам Я. Купалы. У вобразе вандруючых дзесяці салдат зусім адсутнічаюць жывыя рысы сапраўдных салдат імперыялістычнай вайны. Яны фігурыруюць у паэме ў выглядзе абагуленага сімвалічнага знака народнай песні. Не абышлося і без стылізацый.

Хадзілі яны аж да Кіцежа-града,
Стапталі дарогі у святую Казань,
Хадзілі яны к старaверам у Кержанец.

У гэтых радках аб рускіх святых месцах падвержанасць Куляшова чуждым уплывам, крайняя успрыймальнасць і безабароннасць супроць іх, што пераплятаецца, аднак, з уласнай эмацыянальнай усхваляванасцю, раскрываецца вельмі проста і вельмі наглядна. «Кіцеж-град» і «святая Казань» мелі самае далёкае дачыненне да рэальных салдат імперыялістычнай вайны. Аб гэтых рэальных салдатах—простых рабочых і сялянах, апранутых у шэрыя шынелі,

вычарпальна сказана ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» (стар. 165): «Партыя на фронце вяла агітацыю за братанне паміж салдатамі ваюючых армій, падкрэсліваючы, што вораг—гэта сусветная буржуазія». У паэме Куляшова ні агітацыі большэвіцкай партыі, ні рэзультатаў яе, ні саміх салдат, для якіх вайна з'явілася добрай школай класавай вывучкі і выхавання,—не відаць. Я гавару аб тых месцах паэмы, дзе знаходзіцца яе вобразны і ідэйны цэнтр, і свядома абыходжу тыя канстатыруючыя, сухія радкі паэмы, якія не выцякаюць з усёй рэчы, як з натуральнага і закончанага цэлага. Вось гэтыя нямногія радкі, «дапісаныя» ў фінале: «Сяляне палацы палілі і ўсюды руіны ляглі»; «Уздымалася дужае цела вайноюісці на вайну»; калекі «раскідалі лістоўкі ля плыні вялікіх рэк»—усё гэта больш бляднен і менш уражлівей паэмы ў цэлым, па крайняй меры тых яе месц, у якіх адлюстрован асірацеўшы свет і безнадзейнае нямое гора салдат. Усе гэтыя асобныя радкі не ў сілах паслабіць агульнае ўражанне глыбокай мінорнасці, безнадзейнасці і болю.

У паэтычных адносінах паэма «Крыўда» з'яўлялася далейшым крокам маладога паэта да ўпэўненага майстэрства. Усялякія паэтычныя ўплывы (якія часта прыводзілі паэта да прыкрай і непрадбачнай архаізацыі тэмы) спалучаліся ў паэме з асабістай вялікай адаронасцю паэта, з уласным тэмпераментам і ўнутраным пачуццём.

«Крыўда» напісана лірыка-эмацыянальным вершам, поўным частымі паўторамі, ствараючымі ўражанне бесперапыннага нарастання голасу.

І дзевяць сказала:
—Пусцім!
дзевяць сказала:
—Ідзі!
Глядзі там нашую пушчу
І хату нашу глядзі!

Цэлы рад месц паэмы напісан паэтычным рэчытатывам, які нагадвае вусную народную творчасць.

...Цягаў-бы ты, салдат, сасновае бярвенне,
Сек-бы ты, салдат, на балоце лозы,
Вязаў-бы ты, салдат, белыя кошыкі...

Многія вобразы паэмы «Крыўда» непасрэдна перанесены з фальклора. Узяць хаця-б да прыкладу вобраз «маладой жонкі», з якой развітаўся салдат. «Засталася яна за рэчкаю Донам, будуць слёзы яе падаць на плёс, будзе яна плакаць, многа будзе...» Ці «слёзы свае, што даўно павысахлі на ракіце, пападалі рэчак на дно». Усё гэта сведчыць аб уплывах народнай паэзіі на творчасць А. Куляшова.

Апрача паэмы «Крыўда» ў кнізе «Медзі дождж» змешчан цыкл вершаў «Сонечнае заўтра». Тэмай цыкла з'яўляецца соцыялістычная рэканструкцыя сельскай гаспадаркі ў годы першай сталінскай пяцігодкі. Куляшоў адлюстраваў у вершах «Сонечнае заўтра» сутычкі старога патрыярхальнага ўкладу беларускай вёскі з тым

новым, што ўнесла ў яе калектывізацыя і соцыялістычная рэканструкцыя. Усё старое ўяўлялася тады Куляшову ў вельмі змрочных тонах, у вобразе «балота», дзе людзі жывуць—«сапраўдныя лясуны». Наадварот, усё новае, што «ўрываецца з ячэйкай комсамольскай, з маладым пакаленнем гальштуку чырвонага», мела яркія рамантычныя абрысы. Гэтыя агульныя абрысы новага жыцця расшыфроўваліся Куляшовым у вобразы штодзённа-бытавой рэальнасці выключна пры дапамозе сродкаў паэтычнага нарыса.

Куляшоў пісаў аб рэальна існаваўшых і існуючых людзях. Вось, напрыклад, Алесь—адзін з арганізатараў і энтузіястаў комуны. Усе яго ўчынкі і дзеянні спісаны, як гаворыцца, з натуры, з жывога чалавека, якога ведаў паэт. «Таварыш Алесь—той... самы што казаў на падавальшчыка «апартуніст». «Ён ведае ў лесе ўсё дарэшты». Ён дружыць з паэтам, і ні адна дробязь гэтай дружбы не абыйдзена ў вершах.

А вось другі чалавек—трактарыст Анісім:

Голас яго, як басавы звон...
Ад радасці,
ад вады,
ад ёмкага ветру.

Усе паводзіны Анісіма, зноў такі, перададзены ў строгай суадпаведнасці з тым, ці было гэта ў рэчаіснасці, ці гэтага не было. Усё што было—тое адлюстроўвае Куляшоў, наадварот, усё «непраўдападобнае» і не існаваўшае ў рэчаіснасці Куляшоў бязлітасна адкідае. Іменна, гэта добрасумленнасць нарысіста і пакладзена ў аснову стварэння ўсяго цыкла «Сонечнае заўтра».

Вядома, што здольнасць мастака ствараць тыповыя характары і тыповыя становішчы не можа быць зведзена да ўмельства заўважаць і адлюстроўваць з'явы штодзённай рэчаіснасці. Сапраўдны мастак стварае такія характары, дакладныя копіі якіх нельга сустрэць у бытавой абстаноўцы. Паэт, які адмаўляецца ад паэтычнага вымысла, грунтуючыся выключна на добрасумленнасці і дакладнасці сваіх назіранняў над жыццём, незвычайна звужвае свае творчыя магчымасці і паслабляе сілу выразнасці сваіх твораў. Тым больш стварэнне паэтычнага эпаса, з яго патрабаваннямі тыповых і абагульняючых сітуацый і характараў, ні ў якой меры не можа быць рэалізавана пры дапамозе сродкаў нарысна-апісальнага парадку. На няспеласці цыкла «Сонечнае заўтра», як эпічнага твору, сказалася тое, што Куляшоў гэтага становішча не разумеў. У той перыяд паэт яшчэ не мог абагульняць матэрыял рэчаіснасці, не ўмеў вылучыць у ім асноўныя вызначаючыя тэндэнцыі.

Лепшыя вершы цыкла «Сонечнае заўтра» гэта тыя, у якіх актыўна-творчы падыход паэта да рэчаіснасці перамагае яго пасіўна-апісальную манеру. Да гэтых вершаў трэба перш за ўсё аднесці верш аб тым, як «сярод мёртвага цвету гнілушак паміраў першабытны чалавек апошні». У адрозненне ад многіх іншых вершаў таго-ж цыкла, якія жывуць абмежаваным сэнсам прыватнага факта ці з'явы, не ўзнімаючыся да больших паэтычных абагульненняў,

верш «Першабытны чалавек» ужо ў самым замыслу ўсвядомлен і абагульнен. Успомнім, што ва ўсім цыкле «Сонечнае заўтра» Куляшоў адлюстроўваў дарэнную ломку вякамі склаўшыхся прававых, гаспадарчых і эканамічных норм. Ва ўсіх вершах, без адрознення ступені майстэрства, свядомай установкі і творчага пранікнення ў рэчаіснасць, Куляшоў спрабаваў паказаць, як набываюць сваю штодзённа тварымую рэальнасць новыя соцыялістычныя адносіны, у святле якіх галоднае, жабрацкае, бесчалавечае мінулае народа пачынае ўспрымацца, як дагістарычнае існаванне. У дарэволюцыйнай старой Беларусі было шмат вёсак, якія так і называліся: «Караеды», «Мохаеды». Клопатамі партыі і савецкай улады змецены ўсе гэтыя ганебныя сляды чалавечых пакут і чалавечых выродстваў, а соцыялістычная перабудова ўсяго соцыяльна-эканамічнага ўкладу вёскі пазбавіла яе той глебы, на якой узрасталі «Караеды» і Мохаеды». У вершах Куляшова «Сонечнае заўтра» былі адлюстраваны паасобныя моманты гэтага складанага і living... 

На дзікае балота, дзе «трава ў рост чалавеку» і «туманы сцюдзёнасцю праймаюць», прышлі новыя людзі, маладыя, рашучыя, з упартай марай пабудаваць добрае і прыгожае, вартае чалавека жыццё. Гэта ад іх імя расказвае паэт:

У 1929 годзе
было так:
Мы, комсамольцы, сказалі:
— Годзе!
І з рыдлёўкамі
пайшлі на балота.

А на балоце іх чакала сустрэча з першабытным чалавекам— «апошнім нехацімцам». «Жыве ён сярод сабачак, гнілушак, гэты галетнік, чалавек першабытны» і спявае сумную песню: «Як пайшла-ж Мар'яніца а ў млын па муку...» Сямёнька—«першабытны чалавек»— пераканаLны, так сказаць, лясун, які адстойвае гэта сваё напоўдзікае балотнае жыццё, аблагароджанае і ідэалізіраванае ў яго вачах уласным становішчам адшчапенца, ад «пасяганняў» другога жыцця, якое вырастае навокал. Ён з тых людзей, каму яшчэ покуль «шкада балотнага лепета, звыкліся, зжыліся, і яно ў вочы не лезе...» «Але новае ўрываецца з ячэйкай комсамольскай, з маладым пакаленнем гальштуку чырвонага», яно «законы балотныя вон гоніць». І Сямёнька пачынае патроху нудзіцца ў адзіноце, яна яму здаецца ўжо не такой прывабнай. Ён гаворыць: «запішуся ў соўгас...»

Так
на дарогах лесавых,
дзе ваверкі
арэхі лушчаць,
Прыслухоўваючыся,
як па-новаму
жывуць пожні,
Сярод мёртвага цвету гнілушак
Паміраў першабытны
чалавек
апошні.—

паміраў, каб набыць другое жыццё, другое нараджэнне. Верш «Першабытны чалавек» вельмі характэрны ў тым сэнсе, што ў ім Куляшоў адмовіўся з вялікай для сябе карысцю ад зусім негрунтоўнага ў мастацкіх адносінах метада непасрэднага «спісвання» натуры. Вельмі магчыма, што ў штодзённай бытавой абстаноўцы людзі, падобныя да «першабытнага чалавека» сутракаліся не так ужо часта. Ці-ж гэта змяншае значэнне створанага паэтам вобраза? Думаецца, што не змяншае. Наадварот, умельства пісьменніка, мастака даваць канцэнтрыраванае адлюстраванне жыцця, умельства яго проціпастаўляць заклікам дробнага бытавога праўдападабенства, патрабаванні вялікай мастацкай праўды,—з'яўляюцца абавязковай умовай стварэння сапраўды-рэалістычных твораў. З гэтага пункту гледжання верш Куляшова «Першабытны чалавек»—цікавы твор фрагментарнага, урыўкавага характару, абагульняючы аднак вялікі соцыяльны вопыт.

Куляшоў дасягае ўдачы ў тых вершах, дзе яму ўдаецца знайсці першыя жывыя абрысы чалавечага характару. Вось у адным вершы «Цётка Вольга угледзеўшы, як трактар ладзіць «рэволюцыйны паход»,

Крычала на ўсе вуліцы,
Захліпаючыся ад бегатні
да слёз:
— А мае-ж вы, татулечкі,
Схапіў маю палоску і панёс.

Адна жывая дэталь, адзін характэрны штрых—і перад намі паўстае выразны, даволі абагулены вобраз чалавека, які гадамі жыў, прыкаваны ланцугом уласнасці да сваёй палоскі зямлі, і раптам аказваецца ўцягненым у другое жыццё, якое покуль яшчэ не мае сіл асэнсіць і ўсвядоміць. Стварэнне гэтага вобраза—яшчэ адзін аргумент на карысць актыўна-творчага падыходу да матэрыялу жывой рэчаіснасці.

У большасці вершаў з цыкла «Сонечнае заўтра» пераважае, як сказана, другі падыход—падыход нарысіста, расказчыка, фіксіруючага з'явы жыцця. Адсюль, падкрэслена-лагічнае, па ўзору прозы, просталінейнае чаргаванне розных жыццёвых фактаў, звязаных паміж сабою агульнасцю свайго характара і наяўнасцю адных і тых-жа людзей, фігурыруючых ва ўсіх вершах цыкла.

Увесь цыкл пабудаваны пры дапамозе разгаворнай празаічнай інтанацыі. Вось прыклады празаічнага гучання верша з «Сонечнае заўтра», узоры нарачыта лагізіраванага сінтаксіса: «Угледзеўшы мяне Аніс сцішае трактар, усміхаецца. І я крычу яму—бачу!». «Гэта балота. Але людзі ёсць таксама», «у 1929 годзе было так: мы, комсамольцы, сказалі годзе!», «Вечарамі жартавалі, гутарылі,—тады вогнішча разгаралася і гасла». «Тады і здарылася тое, пра што гаворка ў гэтым вершы» і г. д. З гэтай тэндэнцыяй к празаізацыі верша, да ўкаранення элементаў разгаворнага сінтаксіса ў верш непарыўна звязана ўстаноўка на максімальную даклад-

насць адлюстравання («цэлы дзень працавала сіласарэзка на трактарнай прычэпцы ў *восем конскіх сіл»).*

У вершах «Сонечнае заўтра» Куляшоў рабіў смелыя вопыты над вершам, якія мелі станоўчае значэнне не толькі ў яго ўласнай паэтычнай творчасці, але і ва ўсёй беларускай совецкай паэзіі. У той час як традыцыйна-меладычны, успрыняты праз Есеніна верш паспеў ператварыцца ў мёртвы штамп, значэнне занава знойдзенай празаіраванай вершавай структуры заключалася ў тым, што яна па-свойму зварочвала паэзіі сапраўднасць жывой чалавечай гутаркі, яе нерастрачаную эмацыянальнасць і напружанне.

У лепшых вершах цыкла «Сонечнае заўтра» празаізацыя верша выклікала не стушоўванне функцый паасобных кампанентаў паэтычнай мовы, а, наадварот, іх абвастрэнне. Напрыклад, рыфма. Ва ўсіх вершах цыкла відаць вялікая работа паэта, накіраваная на пошукі новых, раней невыкарыстаных, арыгінальных рыфмаў. Тут вы знойдзеце і складаную сустаўную рыфму: «нізкім—ні з кім»; «вогнішча—позні час», і так званую, аманімічную рыфму «рос-рос»; «годзе—годзе»; «сталі—сталі»; і рыфму-асананс, уведзеную і распрацаваную совецкімі паэтамі: «хвораст—хворасці», «мана—Манарх»; «у лесе—Алесем», «вольхі—Вольгай» і г. д. Усе гэтыя фармальныя эксперыменты адыгралі, як сказана, станоўчую ролю. Яны парушылі вершавую інерцыю рамансава-паэтычнага напрамку. Яны прывілі беларускай совецкай паэзіі цэлы рад прыёмаў і сродкаў новай паэтычнай культуры, якая паасобнымі сваімі элементамі ўваходзіць у творчасць любога з совецкіх паэтаў. Засваенне новых рытмаў, работа над рыфмай, укараненне новага інтанацыйнага ладу—усё гэта праводзілася Куляшовым пад непасрэдным уплывам аналагічных вопытаў у рускай совецкай паэзіі (Маякоўскі, Сельвінскі, Тіханаў).

Адзначым, што не заўсёды Куляшоў дабіваўся станоўчых рэзультатаў, уводзячы тое ці іншае фармальнае ноўшаства, што часта знарок прозаіраваная фактура паэтычнага слова пазбаўляла яе багатых магчымасцей і той спецыфічнай выразнасці, без якой верш немінуча збіваецца на прозу. З прычыны гэтага падае эмацыянальнае напружанне радкоў, увесь верш становіцца расхістаным, віхляючым, малавыразным:

Але ён дае слова,
Што ў трэці рашаючы год
Выканае напалову
Гэты пастаўлены рэкорд.

У значнай меры гэта выцякала з нарыснай устаноўкі Куляшова ў перыяд напісання вершаў «Сонечнае заўтра», што часта вершы ўспрымаліся ім па-за сваёй спецыфічнай адасобленасцю ад прозы, а як больш ці менш удала зарыфмаваны пераказ пэўнай падзеі ці здарэння (да прыкладу верш «Я прымацоўваюся да трактара»). Абмяжоўваючы сябе фактамі і з'явамі, не выходзячымі за межы сярэдняга жыццёвага вопыта, Куляшоў зніжаў дзейснасць сваіх вер-

шаў, іх актыўную мэтанакіраванасць і асобную сілу гучання паэтычнага слова. Яшчэ раз выкарыстаем магчымасць напомніць, што кожны значны твор мастацтва ўяўляе жыццёвую карціну, больш закончаную і больш упарадкаваную, чым тая, якую можа стварыць індывідуальны чалавечы вопыт. Аднак, адсюль не вынікае, што ўсякая перагружанасць твора элементамі, перавышаючымі звычайнае ўяўленне аб жыцці, усякая аддалёнасць мастацкага вобраза ад бытавой рэальнасці, з'яўляюцца самі па сабе адзнакамі сапраўднага мастацтва. А Куляшоў у сваёй творчасці іменна кідаўся з адной крайнасці ў другую. Услед за нарысннымі вершамі «Сонечнае заўтра», у якіх паспешна адмовіўся ад усякага вымысла, ён напісаў паэму «Аманал»—рэч умоўную і цалкам выдуманую.

3

«Аманал»—паэма зусім няўдалая, умоўная, са значным сімвалічным элементам. Паказаная ў паэме совецкая рэчаіснасць была пазбаўлена ўсіх сваіх рэальных рысаў і асаблівасцей. Рэальныя класавыя ўзаемаадносіны ў краіне ў перыяд апошніх год НЭП'а і пачатку першай пяцігодкі Куляшовым адлюстроўваліся зусім няправільна, з густым налётам дрэннай дэтэктыўнай займальнасці. Над усім у паэме пераважае сваволле і самаўласце лукава мудрствуючага паэта. У ёй бадзяюцца таямнічыя людзі з сімвалічнымі іменамі: следчая Маладосць, Юнак, Гандляр... «За сталом сядзіць следчая Маладосць»—так гаворыцца ў адной з аўтарскіх рэмарак. Па паэме блукаюць валацугі, звар'яцелыя, самагубцы. Адзін з персанажаў паэмы—настаўнік звар'яцеў на адной фразе, якую ён безупынна паўтарае на кожнай старонцы: «Чую голас патайны, голас з-пад Эйфелевай вежы...» Другі персанаж пад умоўным імем Юнак шукае «Маладосць, якая ўсім прычына прычынам»—«лепшую ад усіх парук для сэрца чалавечага». Да яго прыстае Гандляр з патрабаваннем напісаць яго (гандлярскую) «хроніку продкаў». Тым часам бухгальтар калгаса Жыгнер, які з'яўляецца, па ўпэўненню паэта, арганізатарам шкодніцтва ў калгасе, носіцца з нейкай сваёй «праблемай душы і рацыі», і навучаныя ім калгаснікі адмаўляюцца выйсці на працу да таго часу, покуль трактар не будзе заменен электрычнымі плугамі» (??!)... Лішне гаварыць, што падобны паказ калгаснікаў з'яўляецца вынікам палітычнага недамысля аўтара, яго недастатковай знаёмасці з сапраўдным жыццём новай калгаснай вёскі. Тая чалавечнасць і шчыры лірызм пры апісанні чалавека, якія былі хоць-бы ў «Крыўдзе», тут у «Аманале» прынесены ў афяру створанай паэтам бяздушнай схемы, якая была навязана ім жывой рэчаіснасці. Бясплотная і безжыццёвая сімволіка «Аманала» спалучаецца ў паэме са штампамі чыста раппаўскага паходжання. Куляшоў лічыў магчымым стварыць вялікі эпічны твор без ўважлівага вывучэння жыцця, без жывых чалавечых вобразаў, і быў за гэта ў «Аманале» жорстка пакаран.

Ужыты ў «Сонечным заўтра» празаіраваны разгаворны верш быў

пакладзен у аснову стварэння і «Аманала». Аднак тут ён быў зусім пазбаўлен сэнсу і штучным чынам ускладнён. Толькі ў паасобных месцах паэмы, у тых, дзе непасрэднае адчуванне жыцця пераважала над безжыццёвай схемай паэта, там паяўляліся добрыя, выразныя радкі. Вось канцоўка паэмы:

Праз поле бег ласіны табун,
Ён бег адтуль, дзе лес стары стаяў самотны.
Пастух, які ўгледзеў іх, выраніў берастаўую трубу,
А яны беглі, на сонца выставіўшы халодныя морды.
А стары дзядок не угнаўся за імі,
Спатыкнуўся і паваліўся тарчма, а зямля пахла кропам...
І тады заплакаў ён дзяцінымі слязьмі,
Згадваючы дзяцінства
нейкую дробязь.

На прыкладзе «Аманала» можна прасачыць усе хістанні неакрэпшага таленту Куляшова, яго найглыбейшую падуладнасць усялякім паэтычным уплывам, пасля якіх цяжка выпрастацца на ўвесь свой уласны рост. У паэме «Гарбун» (32—34 г. г.) напісанай хутка пасля «Аманала», Куляшоў спрабаваў вызначыць лінію роста. Але і ў ёй жывое жыццё дасталося паэту праз дзесятыя рукі. У ёй шмат чужароднага, напускнога і выпадковага. Звернемся к паэме «Гарбун», напісанай на тэму аб жыцці і барацьбе першых комун 1918 года. Сама па сабе вельмі драматычная і складаная тэма была Куляшовым асэнсавана з вельмі далёкіх рэалізму творчых пазіцый. Замест таго, каб паглыбіцца ў сапраўдны змест першых комун, як першых вястуноў комуністычнага будучага, і будаваць усю паэму, выходзячы з гэтага зместу, Куляшоў захапіўся знешнім бляскам гераічных спраў, знешняй афектацыяй гераізма. Нікому, вядома, не прыдзе ў галаву патрабаваць ад паэта, каб ён пісаў сваю паэму аб першых комунарах выключна ў плане рэальна-бытавога апавядання. У даным выпадку выбар жанра, жанра гераічнай паэмы, які ўздымаецца над *данай* бытавой паверхняй жыцця, зусім законны і натуральны. Тым больш, што сам па сабе тэматычны матэрыял даваў яму найшырэйшыя магчымасці. Справа не ў выбраным жанры гераічных страсцей і гераічных характараў, а ў яго ўнутранай матываванасці, у яго гераічнай *праўдзе*, у мастацкай поўнацэннасці чалавечых вобразаў. Падыходзячы з гэтага пункту гледжання к паэме «Гарбун» прыдзецца сказаць, што яна знаходзіцца не на ўзроўні сваёй тэмы, а шмат ніжэй яе.

Недастатковая пранікнёнасць паэта мысляй аб сапраўдным значэнні і змесце комуны прывялі к таму, што гераічны пафас яго паэмы атрымаўся пафасам беспрадметнага і бязмэтнага гераізма дзеля гераізма, подвіга дзеля подвіга. Куляшоў не ўбачыў людзей комуны і ў сваёй паэме іх не паказаў. Тыя нямногія, якія мільгаюць на старонках «Гарбуна», характарызуюцца толькі скупымі, пашпартнымі, як гаворыцца, данымі. «Жыве ў ім (у палацы—*Г. Б.*) Ластаўка Макар—сын берастаўых труб, Агей Жаўна і Вольдамар — сірата Якуб. У пана адбываў палон салдат нямецкі Курт. Нарэшце

з хутарскіх сядзіб прыбег Даніла Дыб»... Чытач абавязан і хоча ведаць, якімі шляхамі прышлі гэтыя людзі к комуне, якое ў іх за плячыма жыццё, якія пачуцці іх трывожаць, якія мыслі прымушаюць іх адстойваць у акружэнні ворагаў сваю невялікую комуну. Бо толькі ў гэтым выпадку чытач будзе пераживаць адчуванне «супрацоўніцтва» з героямі паэмы, будзе радавацца іх перамогам і засмучацца кожнай іх няўдачай. Не здаволіўшы гэтага пазнавальнага інтарэса свайго чытача, Куляшоў пазбавіў яго магчымасці актыўна пераживаць станаўленне комуны, яе геraічныя справы, багатыя драматычнымі калізіямі. Колькі-б не паэтызіраваў Куляшоў геraічныя дзеянні, чытач застанецца абыякавым да іх, калі ён не бачыць жывых людзей, якія чыняць гэтыя дзеянні. Змястоўнасць дзеяння ў мастацкім творы вызначаецца значэннем характараў. Зноў-такі мы не хочам быць зразуметы ў тым сэнсе, што мы дыктуем паэту сродкі псіхалагічнага скажам, апавядання. Пачуцці і мыслі людзей могуць быць выказаны ў самай яркай, самай рамантычнай, самай небытавой форме. Але толькі яны павінны быць выказаны.

Куляшова ў «Гарбуне» людзі і іх учынкі цікавяць выключна з іх знешняга дэкарацыйна-жывапіснага боку. Цэнтральны герой паэмы—гарбун Антон Шандабыла паказан так, што чытач ні ў якім разе не можа зрадніцца і зблізіцца з ім, не можа наладзіць з ім непасрэдна-інтымную, арганічную сувязь, і ў канчатковым выніку застаецца абыякавым да ўсіх зменнасцей яго лёсу. Ды, наўрад ці паказан гэты лёс? Антон Шандабыла—канкрэтнае ўвасабленне бязмэтнага гераізма. У ім мітусяцца нейкія неясныя рамантычныя пачуцці, незразумелыя геraічныя парывы. Яго акружае такая-ж «дзікая», неабжытая прырода, напісаная паэтам па ўзору і падабенству свайго героя.

Расла навала, трэск і стогн,
Гул прагрымеў над Сожам,
І там скакаў рыбак Антон,
Крычаў:—Мы пераможам!

Падобная сітуацыя скокаў, выцця, гулу ў «Гарбуне» паўтараецца безліч разоў. Антон «да мяккай купіны прыпаў і доўга *дзіка выў* там» (разрадка ўсюды мая.—*Г. Б.);* «ён доўга адгібаў прабой *і выў* ажно ад болю», «А навокал білі ў вёдры. і *раўлі* і *рагаталі»;* «рукі грукалі ў харомы, ногі тупалі ля ганку»; «І Шкроб Анісім пад дубам скакаў на майдане ў баку (?)»; «Ром *рагатаў»;* «Дубы-ж гудуць»; *«выў* над забітым, памёршым валацуга і парабак Рог»; «сосны *рагаталі* злосна»; *«Рыкаюць* быкі і каровы...» Нават раздзел такі ёсць: «Парабак вые...» Усім гэтым рыкаючым і выючым персанажам паэмы «Гарбун» прадпаслана агульная «натурфіласофская» ўстаноўка Куляшова, прадстаўляючая прыроду ў выглядзе актыўнага ўдзельніка адбываючыхся падзей, а людзей ледзь не суставай часткай гэтай прыроды. Адсюль багацце пейзажных вобразаў поўнай і прынцыпова-нерэалістычнай накіраванасці

Ашалелы бык кідае ў возера кулака Анісіма Шкроба. Кара за замучанага батрака Загулу

> выраслa травою
> І наскрозь праходзіць глыбы,
> Пад глыбокаю вадаю
> Захапалі яе рыбы.—

І гэта кара, «як дождж, як град над гаем», «у дарозе насцігае афіцэра Нікадзіма...» Куляшоў тым больш ахвотна ўжывае метафарызіраваны пейзаж, непамерную гіпербалу, што для яго зусім скрыты свет натуральных паводзін чалавека, адпавядаючых яго ўнутранаму становішчу. Куляшоў карыстаецца малапраўдзівай пейзажнай гіпербалай, каб тварыць бачнасць драматычнасці сюжэта. Тэатралізіраваная феерычнасць, «игра шумов», выкарыстанне алітэрацыйнага апарата—усё гэта ў Куляшоваператварылася ў сродак дасягнення драматычнага эфекту. Эпізод смерці Анісіма Шкроба, сцэна забойства Шандабылы братам эсэра Рома, безлічныя сцэны шалёных скокаў на конях—усё гэта не больш, як рамантызіраваная ўмоўнасць, якая адарвала трагічны сюжэт паэмы ад яго рэальна-жыццёвага зместу і заключыла яго ў сферу абстрагіраванай і адцягненай «ігры ваабражэння». Паэма рухаецца выпадкова, ад эпізода к эпізоду, па-за ўсякай законамернасці. Мноства фактаў, з'яў, людзей не зліваецца ў адзіны арганічны працэс жыцця. А між тым, калі зрабіць самы строгі адбор з усёй гэтай беспарадачна накіданай кучы падзей і фактаў, то можна знайсці ў ёй невялікае, але каштоўнае зернятка паэзіі. Вось эпізод выгнання комунараў з харомаў. Шандабыла зварочваецца да комунараў і гаворыць такія словы:

> Нам спакой і волю бор дасць,
> Данясіце-ж да сасонак
> І жыццё дзяцей, і гордасць
> сваіх жонак!

Як водзіцца ў «Гарбуне», Шандабыла гаворыць тут прамову, якая ні яму, ні комунарам не патрэбна. Яна патрэбна толькі паэту. Але ў ёй, калі прыслухацца, гучыць усхвалёванасць паэта мужнай дружбай згуртаванага працоўнага калектыва, які з вінтоўкай у руках ахоўвае сваю працу, сваю будучыню. Калі-б Куляшоў больш чула прыслухаўся к гэтаму свайму пачуццю блізасці к першым комунарам, ён бы немінуча сутыкнуўся з неабходнасцю большага апасрэдствавання свайго замысла, больш вычарпальнага адлюстравання сваіх герояў, іх пачуццяў, іх дзейнасці, іх сувязі паміж сабою. Тады-б адпала патрэба ў вялікіх награмаджэннях, і на першы план выступіла-б паступальная сіла самаразвіцця, якая вызначае любы працэс рэчаіснасці. Паэме, якой яна ёсць, не хапае натуральнага самаразвіцця. Створаны паэтам свет пазбаўлен рысаў самастойнага існавання. Ён—суб'ектыўны свет паэта, у якім пануе паўнейшае асабістае сваволле. У ім адсутнічае ўнутраная законамернасць. На ўсіх яго шляхах і дарогах адны і тыя-ж сляды—сляды паэта і яго «сфантазіраваных» двайнікоў. У ёй высяцца «гарбатыя дубы», сатканыя фантазіяй самога паэта, і шчупак

б'ецца хвастом не аб ваду, а аб рыфму. Свет, адлюстраваны ў «Гарбуне», пазбаўлен натуральнасці, ён увесь—гіпербала.

Непатрэбнае і маланатуральнае разбуханне знешне-арнаментальных элементаў верша ў «Гарбуне» таксама з'яўляецца канкрэтным вынікам таго, што ў паэме паэтычная манера Куляшова, сама па сабе пазбаўленая натуральных рысаў, распараджаецца жывым адлюстраваннем, душыць яго, кіруе ім. Добра, калі паэт валодае закончанай і цэльнай творчай манерай і калі ён гэту манеру адстойвае, але вельмі дрэнна, калі манера, стыль, своеасаблівы почарк пісьменніка выпукляе і дэманстрыруе сябе на шкоду паўнаце і вернасці адлюстравання. Тады гэта творчая манера пісьменніка робіцца перашкодай паміж чытачом і творам, яна не дае чытачу зразумець і захапіцца дасканаласцю мастацкай рэчы. У «Аманале» Куляшова вельмі ярка сказваецца фармальны максімалізм паэта, калі выпрабоўваемы ім вельмі няўдалы фармальны эксперымент канчаткова пазбавіў Куляшова пачуцця рэчаіснасці. У «Гарбуне» таксама не былі знойдзены яшчэ правільныя суадносіны паміж фармальнымі якасцямі верша і яго сэнсавай нагрузкай. Надзвычай шмат энергіі паглынала алітэрацыя, навязваючая сябе чытачу. Скрозь хмызнякі «віньетачна-самацэннага» вобраза яшчэ вельмі цяжка прабіцца к жывой і непасрэднай творчай мыслі паэта. Уся паэма нагадвае будынак, які знаходзіцца ў рыштаваннях, але які вельмі настойліва прапануюць абжываць. Будынак, хоць і мяркуецца добры, прыгожы, як кажуць, спакушаючы, але рыштаванні палохаюць і не дазваляюць наблізіцца к дому.

У «Гарбуне» добрыя тыя месцы, з якіх зняты рыштаванні—ці то ў выглядзе ўсёпаглынаючай алітэрацыі («на кручах арахоўнік рос і трос на кручы росы...»), ці то ў форме спецыяльна дэманстрыруючага сябе рытма, ці нарачыта ломанага сінтаксіса («І не гаваркі ён быў, Ром яму калі на Галыншчыне адбіў валоку зямлі»). Тады паяўляецца ў вершах сапраўднае жыццё, яго непасрэдны колер і пах. І скрозь метафарычны лад верша прабіраюцца

барадатыя,
прыбраныя у ручнікі,
Гасцей сустракаюць багатыя
І хітрыя мужыкі.

Варта Куляшову «забыцца» аб сваёй манеры, аб неадольнай патрэбнасці штомінутна яе падкрэсліваць і выпукляць, і ў вершах паяўляюцца жывыя людзі з яснымі і зразумелымі пачуццямі, з учынкамі і словамі, натуральна адпавядаючымі гэтым пачуццям. Вось выпадкова прамільгнуў і зараз-жа знік сціслы скупы вобраз адшчапенца Агея Жаўны. Гэта чалавек, які не перанёс цяжкіх умоў комуны і пакінуў яе з надзеяй так-сяк прабіць сабе дарогу ўласнымі сіламі. Але захоплены патаемным інтарэсам да спраў комуны, якога ён не можа ў сабе адолець, Агей Жаўна пад рознымі прычынамі наведвае комунараў. Сіла і настойлівасць сваіх былых прыяцеляў па комуне выкрываюць у ім самім маладушнасць і слабасць натуры. Натуральна, што гэта сіла валодае для яго велізарнай прыцягальнай ўласцівасцю. І вось прыходзіць Агей у комуну. «Трэці і чацверты

дзень працуюць яны, прыблукала ў сосны цень Агея Жауны». З прычыны зусім зразумелай сарамлівай гордасці Агей не можа прызнацца комунарам у мэце свайго наведвання. «Слухае ён скрогат піл і рыдлёвак звон, дзівіцца праз дым і пыл на балота ён...»

Ластоўка Макар тады
На асіну ўзлез:
— Гэй, Агей! А ты, куды?
— Па ягады ў лес!

На другі дзень ён адказвае інакш: «Гэй, Агей! А ты куды? Венікі вязаць!» На трэці дзень: «У лес па грыбы!..» Гэта—адно з лепшых месц у паэме «Гарбун». Удала ўжыты элемент юмара у асноўным мала характэрны для куляшоўскага даравання, тут удала *разражае* надзвычай напружаную атмасферу паэмы, адцяняючы і падкрэсліваючы праўдзівасць сітуацыі. Наяўнасць такіх месц у паэме пераконвае нас, што ў ёй сапраўды заключан каштоўны твор, але Куляшоў не здолеў выцягнуць яго, адкінуўшы ўсё лішняе і непатрэбнае.

4

Паэтычная работа Куляшова апошніх год ішла ў двух асноўных кірунках: у кірунку стварэння эпічных твораў—паэм, і невялікіх лірычных вершаў, матэрыялам для якіх з'явіліся тэмы, дыктуемыя совецкім днём. Зборнік «Мы жывём на граніцы» (1938 г.) падвёў вынікі творчасці Куляшова за некалькі апошніх год.

Як характэрную асаблівасць новай кнігі Куляшова трэба адзначыць надзвычайную зыбкасць мяжы паміж лірычнымі і эпічнымі элементамі, прадстаўленымі ў ёй. Цэлы рад вершаў («Табуны» напрыклад) паказвае на непасрэдныя апавядальныя магчымасці лірычнай манеры Куляшова. З другога боку, яго паэмы, у прыватнасці «Васіль Баранаў», заключаюць у сабе значны элемент лірызма і перанасычаны мноствам дэталей чыста лірычнага складу і характару.

Да лепшых вершаў зборніка належаць тыя, у якіх вялікая грамадская тэма нашага часу вырашана і як асабістая тэма паэта, выцякаючая з яго ўнутранага чалавечага вопыту. Да гэтых вершаў перш за ўсё адносіцца верш «Бацька». У ім Куляшоў расказвае аб таварышу Сталіне і аб пачуцці бязмежнай любві да свайго правадыра, якое перажывае наш народ. У канкрэтным вырашэнні тэмы Куляшоў застаўся верным арганічным задачам сапраўднай паэзіі, патрабуючым ад паэта актыўна-творчага, прадыктаванага ўласным вопытам, страснага пранікнення ў жыццё. У «Бацьку» вялікая грамадская тэма займела выключна-лірычны змест. Паэт піша аб сваім самым заветным і дарагім. Для яго пачуццё найвялікшай удзячнасці і любві да правадыра не ёсць голас зверху, а жывая непакойная страсць, якая павінна быць выказана і быць зразуметай іншымі людзьмі. У гэтым выглядзе тэма перастае быць толькі знешнім заданнем паэта, а жывым апладатвараючым пафасам верша. У «Бацьку» паэт актыўна ўдзельнічае ў тэме. Агульныя з'явы асмысліваюцца ў іх суадносінах да індывідуальных страсцей і імкненняў асобнага чалавека. З другога боку, паэт знайшоў такія пала-

жэнні, пры дапамозе якіх ён змог паказаць, якім чынам гэтыя індывідуальныя імкненні чалавека перарастаюць рамкі чыста-асабістага.

Вось у пачатку верша ўяўленне малюе паэту магчымую карціну будучай вайны. Яна бессэнсоўна страшная, жорсткая. Вайна губіць чалавецтва, разбурае створаную ім культуру. Такую вайну мы ненавідзім і пойдзем на яе рашучай і справядлівай вайной. Для чалавека, любячага дзяцей, для якога дзеці з'яўляюцца ўвасабленнем самай рэальнай і самай паэтычнай мары аб шматвяковым шчаслівым будучым чалавецтва, жорсткая бессэнсоўнасць вайны, навязваемай фашызмам, выступае з асаблівай вайстрынёй і відавочнасцю, як няўмольнае няшчасце, якое абрушваецца на ні ў чым невінаватых дзяцей. Адсюль натуральны паварот лірычнага сюжэта:

Калі вайна мой мірны край агорне,
Ці ў месяц май, ці ў месяц лістапад,
Я забягу,
апрануты па форме,
Да роднае дачкі ў дзіцячы сад.

Такім чынам, у вершы аказваюцца ўвязанымі два антаганістычных матывы—абвяргаемы матыў вайны і сцвярджаемы матыў бацькоўства. Абараняючы сваю радзіму ад ворагаў, паэт патрыёт ахоўвае і жыццё нашых дзяцей. Натуральнае і арганічнае развіццё тэмы прыводзіць паэта к мыслі аб таварышу Сталіне, у якім увасоблена непахісная воля народа да перамогі над любым ворагам, і якога сам народ назваў сваім бацькам:

Яму за сына кожнага асобна
Балела сэрца
у часы нягод...
Ён бацька мой,
мне паміраць не страшна
Да кроплі ўсё жыццё яму аддам...

Так заканчваецца верш. У ім ёсць асобныя недахопы. Да іх трэба перш за ўсё аднесці некалькі «літаратурнае» гучанне верша, «цытатнасць» паасобных радкоў, непасрэдна перанесеных з паэтычнай традыцыі: «Там на зямлі чужой свой дзень апошні, магчыма, давядзецца бачыць мне». Можна ўказаць і на выпадковасць паасобных дэталей у вершы, хоць і эфектыўных з паэтычнага пункту гледжання, але складаючых нейкі пабочны «літаратурны» арнамент у адносінах да суровай і драматычнай тэмы: «тваім вядром, дачка мая малая, я зачарпну сцюдзёнае вады», «і ты заснеш, птушыны учуўшы свіст...» Але як бы там ні было—верш «Бацька» з'яўляецца адным з лепшых вершаў А. Куляшова і, бадай, адным з лепшых твораў беларускай савецкай паэзіі, прысвечаных таварышу Сталіну. Ці многа значаць у параўнанні з «Бацькам» іншыя вершы зборніка «Мы жывем на граніцы», такія, як «Размова сяброў», «Мы жывем на граніцы», «Дэпутат народу»?!

Усё гэта тыпова «газетныя» вершы, г. зн. вершы, якія ў свой час былі напісаны на тэмы, заданыя газетай, былі надрукаваны ў газеце і сталі гісторыяй адначасова з тым нумарам газеты, у якім

былі змешчаны. Між іншым усё гэта патрабуе растлумачэння. Паэт, які дабіўся таго, што яго вершы ператварыліся ў жывую гісторыю нашых дзён, безумоўна, дабіўся высокага гонару і заслужыў усялякія пахвалы. Але гісторыя гісторыі розніца. Газетны артыкул і верш, змешчаны ў газеце, хоць і напісаныя з адной і той-жа прычыны, праследуючыя адну і тую-ж мэту ўплываць на мысль і пачуццё чытача, падыходзяць да ажыццяўлення гэтай мэты рознымі шляхамі. Поўнацэнны паэтычны твор не вычэрпваецца ў сваім значэнні выканаўшы тую ці іншую канкрэтную функцыю. А такі твор можа быць створаны пры ўмове, калі паэт умее звязваць кожны дробны, перахадзячы, здавалася-б, факт сучаснасці з больш агульнымі з'явамі, з усёабнімаючай тэмай комунізма.

У большасці вершаў з кнігі «Мы жывём на граніцы» адзінкавыя з'явы не атрымалі свайго поўнацэннага мастацкага ўвасаблення. Паэтычны пафас і страсць у гэтых вершах падмяняецца даволі халодным выкладаннем падзей. У іх адсутнічае індывідуальнасць паэта. Адсюль вяласць і недастатковая эмацыянальнасць верша, «традыцыйнасць» эпітэта, зглажанасць слова. Паэт як-бы гаворыць чытачу: вы прывыклі к «мужнай славе»—калі ласка, атрымайце яе зноў у тым-жа прывычным вуху спалучэнні; з азнаямлення са мноствам «пагранічных» вершаў вы даведаліся, што кардон «суровы», вы прывыклі да гэтага акрэслення—не буду яго мяняць... «Атуліць ласкава», «усмешкаю ветлай»—гэта таксама звычна і таму бяспечна...» «Смяротныя раны легендарных герояў», «баявыя дарогі», «шчаслівае свята»—усё гэта не словы, а моцна зросшыяся групы слоў, кантэксты. Апяруючы імі, Куляшоў непрыкметна зніжае ўзровень сваёй паэзіі да ступені пасіўнага паўтарэння агульных месц, накшталт:

З гэтым спевам мы выходзім
На работу,
на парад
І яго нясе стагоддзем
Наш юнацкі авангард!

Ці:

Ты, таварыш наш, Маруся,
што выдатнаю была
Трактарысткай.
Ганаруся
комсамолкаю сяла...

Да лепшых вершаў зборніка «Мы жывём на граніцы» належыць цыкл «З дзённіка брыгадзіра». З максімальнай свабодай, не звязваючы сябе ніякімі патрабаваннямі жанрава-раздзельных, сюжэтных і ўсякіх іншых прынцыпаў, паэт расказвае аб працоўных калгасных буднях. «У нас сенакос—і брыгада даўно ўжо чакае мяне», «Праз двор, на гару, кулінары чугунныя коцяць катлы»—«Катлы налівають. Даярка кладзе смаляныя карчы», «Апошнія ў сценку цагліны замазалі печкуры».

Частуе іх рыбаю повар
І я ім пішу працадні.

Так развіваецца верш, які даны як унутраны маналог героя. Ён пераклікаецца з вершамі Куляшова «Сонечнае заўтра», напісанымі, як і «Дзённік», у форме свабодных апавядальных фрагментаў нарысна-апісальнага складу. У тых вершах Куляшоў адлюстраваў першыя крокі соцыялістычнай перабудовы вёскі, у «Дзённіку брыгадзіра» паэт адлюстроўвае соцыялістычны лад на тым яго перыядзе, калі вялікі паварот у сельскай гаспадарцы даў свае вынікі не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей. У гэтым сэнсе «Дзённік брыгадзіра» прадстаўляе сабою законамернае развіццё матываў ранніх вершаў Куляшова і адначасова робіць выбар зместу, г. зн. адбор найбольш тыповых элементаў новай калгаснай рэчаіснасці, якія пазней ляглі ў аснову стварэння лепшай паэмы Куляшова «У зялёнай дуброве». Тое пачуццё таварыства, якое «У зялёнай дуброве» стане асноўным зместам паэмы, у «Дзённіку брыгадзіра» выступае толькі як агульны лірыка-эмацыянальны фон верша. Яно адчуваецца ва ўсіх радках і ва ўсіх раздзелах цыкла, але яно яшчэ пакуль не падмацавана і не суправаджаецца падрабязнасцямі. Брыгадзіру—аўтару дзённіка—лёгка і радасна адчуваць сябе таварышом многіх, занятых агульнай справай. Свет просты і светлы. «Па грэчках вільготных, па хмарах пазнаю я заўтрашні дзень»—так раскрываецца бытавая дэталь у больш шырокае сімвалічнае значэнне. Чалавек любіць людзей, якія працуюць з ім поруч, рука ў руку, працуюць на яго, як сто семдзесят мільёнаў працавала на Чкалава (па яго ўласнаму выказванню). І толькі «У зялёнай дуброве» з гэтага неабдымнага мноства прыяцеляў вылучаюцца паасобныя індывідуалізіраваныя персанажы, да якіх больш уважліва прыглядаецца паэт. У «Дзённіку» мы сустракаемся з лірычнымі правобразамі гэтых персанажаў. Вось дзяўчына Алеся. Мы сустракалі яе не раз у вершах А. Куляшова. Чытач, мусіць, не забыў ранняга лірычнага цыкла Куляшова «Дарогі». У ім таксама ўспамінаецца дзяўчына, якую любіць паэт і імя якой таксама Алеся. У «Дзённіку брыгадзіра» лірычны герой па-ранейшаму «дзяўчыны імя: Алеся» піша «на сасновай кары». Ён—«дваццацігадовы дзівак» перажывае чыстае, невыказанае пачуццё кахання да дзяўчыны, і ў гэтым пачуцці, хоць знешне і адарваным ад асноўнай тэмы верша, даюць сябе знаць новыя адносіны да жыцця, новы калектыўны дух і калектыўная мараль. Сапраўдная чалавечнасць і сапраўдная ласка,—вось канкрэтныя праяўленні гэтай новай маралі. Паэт, які змог у сваім творы аб'еднаць «непаэтычную» ў разуменні старога грамадства, будзённую тэму працы з вечнай і неўміручай тэмай кахання, адлюстраваў аб'ектыўную сутнасць нашай рэчаіснасці.

«Дзённік брыгадзіра»—пераходны, прамежны твор паміж лірыкай і вершаванай апавядальнай формай—г. зн. формай, якая непасрэдна вядзе к эпасу. Паасобныя апавядальныя элементы падпарадкоўваюцца лірычнай аснове і змацаваны адным рухаючымся з верша ў верш лірычным героем. Прычым, *пад выглядам брыгадзіра ў «Дзённіку» выступае сам паэт, лірычны герой яго асабістых «біяграфічных» вершаў.*

Усе наступныя паэмы Куляшова, работу над якімі ён невыпадкова пачаў услед за «Дзённікам», выраслі з гэтага паэтычнага

цыкла. У іх Куляшоў захаваў лірычную насычанасць сваёй паэзіі, зусім законную і неабходную ў творах, пабудаваных на перажытым матэрыяле. Але побач з гэтым лірычным зместам паэм Куляшова ў іх выступае новая якасць: *адносная* самастойнасць чалавечых вобразаў, іх аб'ектыўная, незалежная ад аўтара эпічная значымасць. Сапраўдная вартасць таго ці іншага твора вызначаецца іменна ступенню рэальнай самастойнасці чалавечага вобраза, якая дазваляе адчуць яго, як асобу і характар. Каштоўнасць і вартасць паэм Куляшова могуць быць устаноўлены ў залежнасці ад таго, наколькі паэт умее свае лірычныя, асабістыя, суб'ектыўныя адносіны к людзям савецкай рэчаіснасці падпарадкаваць стварэнню абагуленых і тыповых вобразаў. Ацэньваючы з гэтага пункту гледжання паэму «Песня аб разведчыках», прыдзецца прызнаць яе якасці, як мастацкага твору, вельмі нязначнымі.

Асноўная мысль паэмы заключаецца ў супроцьстаўленні мэтанакіраванай рэвалюцыйнай мужнасці супакойваючай ідэалогіі безмяцежнага ідылічнага жыцця ў перыяд, калі стабілізаваны быт аказаўся зламаным, разбураным, і асноўным законам жыцця зрабілася барацьба. Чырвонаармейцы Якуб і Адам з'яўляюцца па мыслі Куляшова носьбітамі гэтых свядома накіраваных законаў барацьбы. Не можа быць спакою і любві на зямлі, пакуль на ёй бразгаюць акрываўленай зброяй кулацкія найміты і бандыты. У імя будучай вялікай любві дабі бандытаў і акупантаў!—так кажа А. Куляшоў у сваёй паэме, напісанай на матэрыяле грамадзянскай вайны ў Беларусі.

Сама па сабе, гэта, бясспрэчна, цікавая і правільна вырашаная мысль, толькі ў паэме Куляшова гэта мысль аб гераізме і мужнасці, аб дружбе і маральным абавязку, аб жыцці і смерці не прадстае перад чытачом, як асобыя індывідуалізіраваныя ўчынкі, як індывідуалізараваныя страсці пэўных людзей. Яна адарвана ад рэальна існуючых у чалавеку магчымасцей. Яна выглядае абстрактнай сінтэзіруючай ідэяй, якая не паказвае сапраўдных узаемаадносін паміж людзьмі. У Адаму і Якубу класавая рэвалюцыйная самасвядомасць яшчэ не ўвайшла, як гаворыцца, у плоць і кроў іх чалавечай натуры, яшчэ не «перарасла ў эмоцыю», у несакрушальную волю, не «стала такім-жа інстынктам, як голад і любоў» (М. Горкі). Яны нічым не адрозніваюцца адзін ад другога—Адам і Якуб. У іх зусім адсутнічае асабістае, «выпадковае», г. зн. непаўторна-індывідуальная праява «агульнай мэты, ажыватворанай да такой ступені, што яна стала індывідуальнай мэтай» (Гегель, «Эпічная паэзія»). Звычайна праз гэта «выпадковае», і асабістае мастак перадае душу чалавека, улаўліваючы ў ёй такія супярэчнасці, якія даюць чытачу вернае меркаванне аб характары і тыпу. Ні Адам, ні Якуб Куляшовым не паказаны ў сваім свабодным развіцці, як самастойныя, сцвярджаючыя сябе асобы. У паэме з тым-жа поспехам змаглі-б дзейнічаць не абавязкова два, а адзін ці тры героі-разведчыкі. На цэласнасці твору такая змена не адбілася-б, таму што і тыя, якія зараз фігурыруюць у ім, даны не ў суадноснасці, а ў суседстве адзін з другім. Узаемавызначаючыя адносіны паміж персанажамі цяжка парушыць

пабочным умяшацельствам, а колькасць суседзяў можна механічна павялічваць. Звернемся да паэмы Куляшова.

Паэма пачынаецца з раздзела, у якім паэт паказвае шумны кірмашовы дзень у мястэчку. «Праз плошчу едуць верхам вайсковыя чыны. А што ні чын—вядомы ці рабаўнік, ці кат...» «і едзе ўсіх наперадзе генерал Булак». У гэты час «два маляры на продаж прынеслі абразы»,—г. зн. Куляшоў дае цалкам праўдападобную карціну жанравага, бытавога характара. У чытача павінна стварыцца ўражанне, што ён сам трапіў у гэты мітуслівы шум кірмаша, і ўсё, што адбываецца ў мястэчку, ён павінен успрымаць у строгай і рэальнай паслядоўнасці. Як і ўсе сапраўдныя ўдзельнікі кірмаша, чытач не павінен ведаць аб тым, што памянёныя маляры з'яўляюцца зусім не малярамі, а пераапранутымі чырвонаармейцамі, якія маскіруюць сваю агітацыйную працу сярод насельніцтва ў тылу ў ворага мірнымі гандлёвымі здзелкамі. Аб гэтым чытач пазней даведаецца з выпадковай прыпіскі ў трэцім раздзеле:

Яны-ж
Лістоўкі на паўстанне
Падсоўвалі ў вазы,
Як прадавалі ранне і
на плошчы абразы.

А пакуль: «Два маляры на продаж прынеслі абразы...» Чытач ведае тое, што ведаюць іншыя персанажы, а не тое, што ведае паэт. Такая экспазіцыя твору, здаецца нам вельмі невыгоднай. Яна не ўводзіць чытача ў тое, што адбываецца, не арыентуе яго ўсебакова ў падзеях і тым самым пазбаўляе яго магчымасці эмацыянальна суправаджаць сапраўдныя паводзіны блізкіх і родных яму персанажаў. Сапраўды, калі чытач не будзе вычарпальна асвядомлены аб сапраўдных мэтах, з якімі паяўляюцца на кірмашы «маляры», ён будзе пазбаўлен магчымасці прасачыць за тым, як сябе вядуць Адам і Якуб у складанай абстаноўцы падполля і канспірацыі. Прыпіска-ж у трэцім раздзеле, тлумачэнне ўжо ў другой сітуацыі: «стаяць пад нізкім дубам... байцы Адам з Якубам—*былыя маляры*», хоць і раскрываюць тайну, аднак, не могуць звярнуць чытача да першага раздзела, занава яго пераглядзець і перажыць.

Паступовае і законамернае развіццё сюжэта ў эпічным творы патрабуе ўмела намечанай экспазіцыі, г. зн. пэўнай акрэсленасці чалавечых адносін у іх зародкавым становішчы. У Куляшова ў паэме аб разведчыках вельмі наіўная экспазіцыя. Кожны раздзел уводзіць новага персанажа, які выходзіць з паэмы з той-жа лёгкасцю, з якой ён паяўляецца ў ёй.

На кірмашы «прадае жанчына мёд і чарніц карэц». Тут-жа, на кірмашы, на паляне ёй прыглянуліся два маляры (заўважце, абодвы разам) і «ўзнікла на паляне ў іх знаёмства ўраз...» Імя жанчыны—Арына Касянок. З пункту гледжання агульнага замыслу паэмы гэта жанчына з'яўляецца вельмі патрэбным аўтару персанажам... Арына Касянок увасабляе ў сабе ідэю безмяцежнага ідылічнага шчасця, супроцьстаячую ідэі рэвалюцыйнай барацьбы. Яна, такім чынам, з'яўляецца адной з супроцьлеглых, кантрасты-

руючых сіл, у сутыкненні і сустрэчы якіх заключаецца асноўны канфлікт твору. Гэты канфлікт не можа праяўляцца ў сферы чыста розумапогляднага, як спрэчка і сутыкненне супроцьлеглых ідэй, як філасофскі паядынак. У жыцці падобныя канфлікты заўсёды заземлены, яны ўключаюць у сябе складаны комплекс пераплятаючыхся інтарэсаў, у іх удзельнічае не толькі мысль чалавека, але ўсе яго унутрана-затоеныя сілы і магчымасці. Таму і правільнае вырашэнне падобных канфліктаў не можа быць «рэкамендавана» пісьменнікам, яно павінна выцякаць як непазбежнасць з сутыкнення характараў. У сілу ўсяго гэтага для нас набываюць асаблівую цікавасць у паэме Куляшова ўзаемаадносіны паміж Арынай і чырвонаармейцамі-разведчыкамі.

Сустрэўшыся ўпершыню з «малярамі», адчуўшы якуюсьці цягу да гэтых двух, амаль незнаёмых маладых людзей, Арына пазней, па прычынах мала вядомых чытачу, аддае перавагу Адаму. Яна яго палюбіла. Гэта любоў абяцае быць цікавай з пункту гледжання паказу характараў, паколькі ў ёй пераплецены натуральныя чалавечыя імкненні з супроцьлеглымі светапоглядамі. Звычайна, такія ўзаемаадносіны бываюць гранічна драматычнымі, насычанымі жорсткімі канфліктамі. Непрымусова і свабодна развіваючы гэтыя ўзаемаадносіны ў сваёй паэме, Куляшоў меў усе магчымасці знайсці патрэбнае вырашэнне агульна-ідэйнага замыслу «Песні аб разведчыках». Ці выкарыстаў ён гэту магчымасць?

Узаемаадносіны паміж Адамам і Арынай Касянок, перш за ўсё, вызначаюцца сваёй недамоўленасцю. Яны выражаюцца ў выпадковых сустрэчах і выпадковых размовах. Яны і ўзнікаюць зусім выпадкова, з аднаго-двух позіркаў, «цікавых позіркаў», якіх кідае Арына «на іх («маляроў»—*Г. Б.)*, ці іхні бок...» Чытаючы першую сцэну «знаёмства» Арыны з разведчыкамі, здзіўляешся не столькі лёгкадумнасці жанчыны, якая ахвотна звязваецца з незнаёмымі людзьмі—у крайнім выпадку, гэта лёгкадумнасць магла праявіцца, як рыса характара Арыны Касянок,—а недастатковаму разуменню з боку аўтара, што вырашаючыя чалавечыя адносіны, ад якіх залежыць рэзультат рэчы ў цэлым, павінны быць усебакова матывіраваны, што чытач павінен быць «заражон» усімі суб'ектыўнымі прычынамі, якія штурхаюць героя на той ці іншы ўчынак. Любоў, якая ўзнікае чыста выпадкова, з некалькіх слоў, з некалькіх позіркаў, не можа быць ні змястоўнай, ні драматычнай. Ва ўсякім выпадку, будаваць на такой любві асноўны ідэйны канфлікт твору немагчыма. У яе героі не ўцягваюцца пачуццём, страсцю, усёй істотай, а наадварот, яны яе цураюцца, абыходзяць, ігнарыруюць.

Чытачу вядома, што Арына любіць Адама. Аб гэтым недвухсэнсова кажуць асобныя з'явы і ўчынкі гераіні. Але ці любіць Адам Арыну—аб гэтым чытач нічога не ведае. Словы і заявы Арыны Касянок застаюцца вісець у паветры, не атрымаўшы ніякай рэакцыі з боку іншых дзейнічаючых асоб. Адам можа і не любіць Арыну, ён вольны адхіліць яе любоў, але толькі яго паводзіны павінны быць яснымі і строга-акрэсленымі. Інакш, які сэнс у рэпліцы героя, якая не даходзіць да слыху астатніх персанажаў, у прапанове,

якая застаецца без адказу, у паядынку, на які не з'явіўся адзін з працоўных бакоў?

З супастаўлення цэлага раду агульных заяў героя чытач даведваецца, што Адам апраўргае ўціхамiраную любоў Арыны ў імя задач і мэт рэвалюцыйнай барацьбы. Гэта, так сказаць, рацыяналістычны вынік, які не выцякае з сапраўднага сутыкнення чалавечых характараў. На «спакусныя» ўгаворы Арыны «кінуць службу і паёк», «горкі хлеб салдацкі», жыць разам з ёй адным спакойным і шчаслівым жыццём, Адам часцей за ўсё ніяк не рэагіруе, не адказвае. І чытач поўнасцю раздзяляе недаўменне Арыны: «чаму, Адам, маўчыш?» Калі-ж Адам імкнецца выказаць свае адносіны да свету, свае адносіны да прапаведваемай Арынай ідэі вузказразуметага шчасця, у яго гэта атрымоўваецца ненатуральна і на рэдкасць віцiеватa. Ужо лепш-бы памаўчаў. У адказ на прапанову Арыны жаніцца з ёй, Адам гаворыць наступную тыраду: «Я заручоны...»

Мая нявеста,—кажа,—
Мяне не знае ў твар,
Але вяселле наша
Ёй не выходзіць з мар.
Мы з ёю заручоны
Крывёй братоў сваіх,
А сведкай сцяг чырвоны...

...Усе гэтыя гучныя і ўзнёслыя словы выцякаюць з таго, што Куляшоў не ўмее падглядзець сваіх герояў у хвіліны самай глыбокай чалавечай шчырасці, калі проста, без залішняй афектацыі, раскрываюцца найбольш істотныя, маладаступныя павярхоўнаму позірку, глыбокія ўласцівасці чалавечай натуры. Натуральнае самараскрыццё чалавека ў паэме Куляшова заменена рэтраспектыўным чаргаваннем асобных эпізодаў з жыцця герояў, а адсутнічаючы ў паэме асноўны канфлікт кампенсіраван увядзеннем вялікай колькасці падзей вонкавага парадку.

Замучаны бандытамі чырвонаармеец Якуб, за некалькі хвілін да смерці прадпрыймае патэтычны экскурс «на дваццаць год уперад і дваццаць год назад». Ён малюе сабе карціну «як маці калыхала калыску—спі сынок!», «А бацька ў завірухах у тых снягах, скрозь ноч, дзіцячы плач падслухаў і думаў:—спі сынок!..» А ў мары байца «над агульнай славай спявала гімн Масква...» Усе гэтыя «гучна»-выказаныя пачуцці Якуба цікавяць Куляшова толькі з боку іх вонкавай эфектыўнасці, а не як выражэнне сапраўднага становішча чалавека. Ці можа чалавек, які знаходзіцца ў тым-жа становішчы, што Якуб, так пазіруюча-«прыгожа» выказваць свае пачуцці?

Героі «Песні аб разведчыках» яшчэ не жывуць сваім уласным жыццём, яны гавораць не свае словы, а тыя, якія яму падсоўвае аўтар, яны вядуць сябе так, як быццам іх падслухоўвае хтосьці трэці, пабочны. Гэтым трэцім пабочным аказваецца сам паэт. Сваімі адвольнымі ўмяшацельствамі ў натуральны ход падзей паэт разбурае пачуццёвую і адчувальную рэальнасць вобраза. Ён падштур-

хоўвае і прыскорвае дзею пры дапамозе выпадковых сустрэч і сутыкненняў паміж персанажамі. Сцэну першага спаткання паміж Арынай і «малярамі» Куляшоў ненатуральна перарывае нечаканым уводам новага персанажа: «і вось вядзе штабістаў (балахоўцаў—*Г. Б.*) з карчмы Арынін муж...» Зусім ясна, што Арынін муж вядзе сваіх штабістаў па манавенню сюжэтнага сваволля. У ім няма ніякай патрэбы, мабыць толькі для таго, каб дзесьці ў канцы паэмы Арына мела магчымасць прызнацца Адаму: «Я мужа не кахала ніколі... божа мой...» Любоўная гісторыя, якая можа быць матывіравана сваім дачыненнем да Адама, робіцца зусім непатрэбнай, зацямняючай сэнс усёй рэчы, калі ў яе аказваецца ўцягненым штабіст-балаховец Ігнат Касянок. У адным з раздзелаў паэмы паэт упамінае пра парабчука, які «карэц зрабіў з бярозы». Пазней гэты парабчук аказваецца братам Якуба, і паміж імі адбываецца тайная сустрэча. Гэта калізія з братамі успрымаецца як непатрэбнае тармажэнне сюжэта, можа і неабходнае паэту з якіх-небудзь ідэйных меркаванняў (паказ працоўнага батрацтва, ці так?), але зусім пабочнае ў адносінах да асноўнага сюжэтнага накіравання паэмы. Іменна таму, што Куляшоў не змог у сваёй «Песні аб разведчыках» усебакова і поўна ахарактарызаваць сваіх герояў, не знайшоў адпаведных прапорцый у адносінах паміж імі, яго паэма не дае ўражання дзеючай масы. За кожнай падзеяй, якая адбываецца ў паэме, чытач павінен быў нязменна адчуваць непасрэдную прысутнасць чырвонаармейскага атрада, да якога належаць разведчыкі Якуб і Адам. У паэме гэтага няма. Выгодная на першы погляд творчая незалежнасць аўтара ад фармальных патрабаванняў сюжэта і фабулы, якая прадастаўляе, здавалася-б, шырокую магчымасць ахапіць жыццё ў яго рашаючых момантах, у сапраўднасці аказалася сур'ёзнай перашкодай на шляху да сапраўды-глыбокага, рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці. Вобразы людзей, характэрнай рысай якіх з'яўляецца арганічная сувязь з калектывам, аказаліся, дзякуючы адсутнасці ўмела-праведзеных сюжэтных сувязей, адзінока-фігуруючымі, адасобленымі ад людзей, паэтычнымі персанажамі.

5

У творчым развіцці Аркадзя Куляшова паэма «Баранаў Васіль» з'яўлялася ў многіх адносінах творам этапнага значэння. Параўноўваючы яе з усімі раней напісанымі паэмамі Куляшова («Крыўда», «Гарбун», я ўжо не кажу аб «Аманале»), можна перш за ўсё адзначыць адну асноўную асаблівасць паэмы: у ёй паэт выразна канкрэтызаваў тэму ў палітычных і ідэйных адносінах. У ёй паэт расказаў аб жыцці і смерці героя-чырвонаармейца, бясстрашнага савецкага пагранічніка, які загінуў у палоне ў самураяў, не выдаўшы ні адной свяшчэннай тайны савецкай зямлі.

Бедныя духам, чуждыя і далёкія задачам і мэтам вялікага мастацтва, усялякія рамеснікі ад літаратуры паспелі ператварыць цэлы рад гераічных тэм сучаснасці ў ходовыя штампы чарговай

літаратурнай моды. Паэма Куляшова вельмі далёка ад усіх рамесніцкіх практыкаванняў на патрыятычную тэму. Яна непасрэдна навеяна жыццём, а не пабочнымі пабуджэннямі літаратурнай кан'юнктуры. У ёй адчуваецца ўсхваляванасць паэта тэмай.

Паэма «Баранаў Васіль» напісана на аснове скупой, але выразнай газетнай заметкі аб тым, як чырвонаармеец-пагранічнік Баранаў быў захоплен японцамі ў часе іх чарговага правакацыйнага налёту на совецкую тэрыторыю і замучан у самурайскіх засценках. Не гледзячы на страшэнныя катаванні, якія перанёс Баранаў, ён нічога не адказаў на выведачныя дамаганні японцаў. Як чэсны і адданы патрыёт совецкай краіны, Баранаў застаўся да канца верны сваёй клятве байца і грамадзяніна. Так гаворыцца ў газетнай заметцы. Паэма амаль нічога не дадае да яе. У гэтым можа і заключаецца яе асноўны недахоп. Паэме нехапае сапраўднага мастацкага пафаса. Да лепшых і мастацка-ўражлівых месц паэмы адносяцца тыя, у якіх жывая сапраўднасць падзей не стала канчатковай мэтай паказу, а паслужыла зыходным пунктам для творчага ваабражэння паэта. Прыгадаем заключны эпізод паэмы, калі змучанаму, перанёсшаму цяжкія катаванні, маладому совецкаму патрыёту ўяўляецца вобраз правадыра, які выносіць Васіля, засынаючага пад удары вялікага сэрца, да родных снягоў, да родных абшараў—гэта месца паэмы робіць моцнае ўражанне.

З пункту погляду інтэнсіўна і глыбска распрацаванага характара вобраз Баранава яшчэ ні ў якім выпадку не задавольвае патрабаванняў, якія прад'яўляюцца да эпічнага твору. У ім амаль зусім адсутнічае неабходная для стварэння поўнакаштоўнага тыпа, характара якасць, а іменна, узаемадзейнічанне гістарычнай падзеі і канкрэтнай чалавечай псіхалогіі. Індывідуальны склад думак, пачуццяў, перажыванняў Баранава застаецца не да канца раскрытым паэтам. Але і тое, што зроблена Куляшовым у гэтым напрамку павінна быць ацэнена як сур'ёзны крок наперад ад «Аманала», ад «Гарбуна» да новых, больш дасканалых і больш спелых эпічных твораў. Васіль Баранаў—вобраз чалавека, непарыўна звязанага з соцыялістычным калектывам, калектыў фарміруе яго асобу, выклікае да жыцця закладзеныя ў ёй магчымасці. Пачуццё непарушнага адзінства з масай, адчуванне сябе яе часткай і глыбокая задаволенасць ад гэтага адчування—дамініруючае пачуццё Васіля Баранава. У гэтым сэнсе Баранаў—родны брат лірычнаму герою вершаў Куляшова. Таксама, як герой лірычнага цыкла «Дарогі» ці «Дзённіка брыгадзіра», Баранаў успрымае ўсю краіну, занятую адной агульнай справай як адну велізарную сям'ю, і яму—Баранаву—радасна сябе адчуваць неад'емнай часткай гэтай сям'і. Абноўленая радаснай працай соцыялістычная краіна аналагізіруецца ў свядомасці Баранава з вобразам дому, які пабудаваны ўласнымі рукамі і які абжывае адна шматмільённая сям'я. У гэтым доме жыве, працуе, любіць Васіль Баранаў. Яго захапляючыя адносіны да сваёй краіны ніколі не нагадваюць таннага расчулення. Вельмі свежы ў памяці вобразы «сібірскіх дзядоў», якіх белаяпонцы «катавалі ў дні грамадзянскай вайны», каб мужная любоў да

совецкай радзімы так лёгка магла перайсці ў самаздавольна-расчуленыя адносіны.

Баранаў любіць сваю краіну бязмежнай любоўю адданага социялістычнага патрыёта. Калі ён ідзе на заставу, ён адчувае, быццам «цёплую шубу на плечы надзела радзіма яму». Ён любіць сваю краіну, таму што ў ёй увасоблены ўсе яго лепшыя імкненні і інтарэсы. І вось, калі краіна даручае Баранаву ахоўваць совецкія граніцы ад ворагаў, якія войстраць на нас свае клыкі, Баранаву здаецца, што гэта яму даручан яго ўласны лёс і ўласнае шчасце, непарыўна звязаныя з шчасцем і лёсам другіх далёкіх, незнаёмых, але блізкіх яго сэрцу людзей совецкай краіны.

Ён іхні наказ чалавечы
У сцюжу нясе, у зіму.

Баранаў адчувае краіну з сілай і вайстрынёй глыбока-асабістага адчування. Для яго справы краіны, яе палі, яе заводы—неад'емная частка яго асабістага чалавечага існавання, натуральны працяг яго ўласнага жыцця. У халодных снягах, на далёкай заставе яго саграве велізарная ласка краіны. Непахісную сілу сваёй радзімы Баранаў адчувае як сілу сваіх уласных мускулаў. А сілы ў ім шмат. Яна імкнецца да дасягнення ўсіх сваіх магчымых прэдзелаў. І вось, у сутыкненні з бандай узброеных самураяў сілы Баранава падвергліся найвышэйшым выпрабаванням. У няроўным баю Баранаў быў захоплен у палон і аднесен на чужую заставу. Але іменна таму, што ў Баранаве сказалася невымерная сіла свабоднага социялістычнага чалавека, у разняволенай свядомасці якога знішчана супярэчнасць паміж пачуццём грамадскага абавязку і так званымі асабістымі патрэбнасцямі, ворагі не змаглі радавацца сваёй перамозе над совецкім пагранічнікам. Ён зрабіў подзвіг, які не быў такім лёгкім, як гэта сабе ўяўляюць многія, якія пішуць на тэмы совецкай граніцы. Баранава катавалі. «Маўчаў ён. Пытаўся ў яго з квантунскага штаба японец і дробненька тупаў нагой». Яго пыталі аб гарматах, якія «глядзяць у байніцы на варце абшараў сваіх», пра «совецкія хуткія танкі, што ломяць гушчары сабой». Баранаў маўчаў. Паэту добра ўдаўся гэты эпізод катавання і допыту. У ім герой амаль ні слова не гаворыць аб сваёй краіне, аб яе магутнасці і сіле, і толькі дапытваючы «з квантунскага штаба японец» сваімі распытваннямі малюе карціну непераможнай совецкай магутнасці. Баранаву яна дае сілы маўчаць і моўчкі пераносіць самыя страшэнныя катаванні. У Куляшова няма натуралістычна-падрабязнага паказу моманта катавання. У гэтым сэнсе паэт праявіў бясспрэчны густ і пачуццё мастацкага такта. Дастаткова было адной страфы, каб перадаць нацятасць і напружанасць страшэннага моманта допыту, калі нецярпліва-мітуслівыя японцы, збянтэжаныя непрадбачаным упартым маўчаннем чырвонаармейца-палонніка, павінны былі парушыць заведама-намечаную лінію «джэнтльменскіх» паводзін, упадаючы ў паніку і разгубленасць.

Прыходзілі тройчы. Пыталі
Удвух, але ўсе пра адно.
У крэслах сядзелі.
Чакалі
Ці так пазіралі ў акно.

Награмаджаючы вялікае мноства дзеясловаў, якія выражаюць няпэўнасць і мітуслівасць дзеяння (прыходзілі, пыталі, у крэслах сядзелі, чакалі, пазіралі ў акно), Куляшоў змог вельмі ўдала перадаць цвёрдую непахіснасць Васіля Баранава, абышоўшыся без прамых і непасрэдных на тое ўказанняў. Адзін толькі сказ вымаўляў у гэтай сцэне Баранаў: «Нічога, нічога я вам не скажу...» І зноў хітрае падлізванне квантунскага чыноўніка, які спрабуе «спакусіць» Баранава. Ён даводзіў яму і сцвярджаў, што іх «дарагая дзяржава—мацнейшая ў свеце з дзяржаў. Яна яму стане радзімай...» Ён указвае Баранаву на прыклад рускіх белагвардзейцаў, якія «зжыліся», з японскімі ўладамі, і перад Баранавым паўстае на ўвесь свой «змізарнеўшы» рост «герой» самурайскіх разведак, здраднік і вораг сваёй радзімы—рускі белагвардзеец.

Змяніўся і выгляд іх хлёсткі,
Слухмяна віляюць хвастом,
Японскай ч каючы косткі
Пад бедным манчжурскім сталом.
Так думаў Васіль...

Трэба адзначыць, што ў гэтым месцы Баранаў думае надта «памфлетна», вобразамі і фігурамі надта падкрэсленага сатырычнага жірунку. Ход думак яго ў даным выпадку нам здаецца не зусім натуральным. Калі-б Баранаў выказаў сваю пагарду да белагвардзейцаў праз якуюсьці выпадковую, але выразную дэталь, выпадковы, але натуральны і выразны жэст, мы-б яго нянавісці верылі значна больш, чым гэтай палітычна-чоткай і па-газетнаму выражанай сатырычнай фармуліроўцы. Аднак, такіх месц, якія парушаюць лінію натуральных паводзін Баранава, у паэме вельмі вялікая колькасць. Яны ўказваюць на слабасці авалодання Куляшовым складанейшым мастацтвам стварэння чалавечага характару.

У Баранаве Куляшоў хацеў адлюстраваць перадавыя грамадскія ідэі нашага часу. У ім павінны сябе пазнаць лепшыя людзі—носьбіты перадавых грамадскіх тэндэнцый, якія змяняюць твар жыцця. Убачыць гэтыя прагрэсіўныя з'явы ў іх штодзённай рэальнай сіле, гэта значыць дабіцца адной «з найвялікшых перамог рэалізма». Аб гэтым неаднаразова гаварылі Маркс і Энгельс. Адкідаючы ўсякую абстракцыю, яны патрабавалі, каб ідэі «больш жыва, актыўна, так сказаць, самародна былі высунуты на першы план ходам самой дзеі» (Пісьмо Ф. Энгельса Ласалю—18/V 1859 г.).

Створаны Куляшовым вобраз пагранічніка Баранава абагульняе да ступені ідэальнага выражэння лепшыя якасці людзей нашага часу. Але ў ім гэтыя якасці выражаны недастаткова індывідуалізіравана. Вобраз Баранава не паданы з той пэўнасцю спалучэння індывідуальных, псіхалагічных, «выпадковых» рыс персанажа з яго

аб'ектыўна-гістарычным зместам, які-б дазволіў у асабістым геройстве Баранава разглядаць праяўленне жывога чалавечага характара. Сацыялістычная грамадская самасвядомасць Баранава раскрываецца ў той агульнай форме, якая выключае непаўторнае ў чалавеку, яго асабістыя якасці і ўласцівасці, індывідуальны склад яго думак і пачуццяў. Адчуваючы няпоўнакаштоўнасць паказу Баранава, абстрактнасць яго пачуццяў, Куляшоў «дапісвае» некалькі раздзелаў, у якіх герой паказан на фоне сваіх родных месц, калгаса, вёскі. У радзе раздзелаў паэмы Куляшоў «дапаўняе» вобраз Васіля Баранава дэталямі і прыватнасцямі лірычнага парадку. Ён імкнецца стварыць вобраз простага, некалькі сарамлівага вясковага хлопца. Вось праходзіць перад намі першае каханне Баранава. Яно вельмі чыстае, шчырае, можа і вельмі глыбокае, але вельмі ціхае, невыказанае. Баранаў

сатзіўся з дзяўчынай у лолку,
Плыў міма і красак і траў...
Характар, відаць, не дазволіў
Прызнанняў рашучых такіх.

Характар чалавека простага, сарамлівага, расчуленага ў сваім шчасці, які любіць жыццё, людзей, прыроду,—гэты характар мог паслужыць выдатным адпраўным пунктам у паказе Баранава. У паэме Куляшова сустракаюцца асобныя вельмі ўдалыя дэталі псіхалагічнага парадку. Быў час, калі Васіль вучыўся і «жыў марай вясёлай і ўпартай быць граматным, быць кавалём...» Гэта дэталь вельмі дакладна характарызуе чалавечую сутнасць Баранава. Так, ён мог марыць пра рамяство каваля. У нашай-жа краіне нараўне паважаюцца і тыя «радавыя» прафесіі, якія былі аддалёны па паняццях старога грамадства ад «магістральных» дарог славы і магутнасці. Ёсць у паэме Куляшова і іншыя вельмі дакладныя і выразныя ў сваім лірызме дэталі і падрабязнасці біяграфіі Баранава. Вось добрая любоўная сцэна пасля шумнага працоўнага дня ў калгасе... «Дзе цені кранаюцца ціха ракі».

Другія таксама кахалі
І шлюб неадкладны узялі—
А вы-ж як?—выпытваюць хвалі,—
А наша вяселле калі?

Так з усіх гэтых дэталей і падрабязнасцей вырастае фігура чалавека, якому чужда ўсякая ўзнёсласць, вонкавая афектацыя: чалавека шчырага і простага, бясконца любячага ўсё жывое і чалавечае. Але ўсе гэтыя дэталі і падрабязнасці даны не ў плане непасрэднага паказу, а як простыя ўспаміны з мінулага Баранава. Не ў гэтых лірычных сцэнах заключана тая натуральная абстаноўка, у якой вобраз савецкага пагранічніка можа сябе раскрыць найбольш глыбока і ўсебакова. Натуральная абстаноўка—на граніцы, у баю з самураямі, у іх палоне, там дзе ўсе ўнутраныя сілы Баранава, неабходныя для зробленага ўчынка, выявіліся відавочна. Куляшоў не паказаў выспяванне гэтых сіл. У свядомасці чытача засталіся два

Баранавы: адзін «празмерна беззаганны» (Маркс), які раствары́ўся ў прынцыпе, у словах і ўчынках вельмі агульнага характару, а другі— лірычны, «ачалавечаны» пры дапамозе прыёмаў і сродкаў лірычнай паэзіі. Але героіка плюс лірыка ў сваёй суме не даюць таго, што мы называем поўнакаштоўным чалавечым характарам. Стварыўшы ў сваім выабражэнні адцягнены вобраз мужнасці і бясстрашнасці, перанесены за межы пачуццёвага і рэальна-адчувальнага свету «сапраўднага чалавека» (Маркс), Куляшоў не ў сілах быў «ажывіць» гэты вобраз выслаўленнем асобных «праўдападобных» прыватнасцей лірычнага парадку. Толькі ў тым выпадку Баранаў мог быць успрыняты як пэўная асоба, калі суседствуючыя ў ім элементы героікі і лірызма былі-б паданы ў іх арганічным перапляценні, як розныя бакі адной цэласнай і ўсебаковай у сваіх праявах чалавечай асобы. Не дасягнуўшы гэтага, г. зн., не адчуўшы свайго героя ў яго цэльнасці і пэўнасці, Куляшоў змог толькі «дадаць» надта агульныя контуры біяграфіі Баранава асобнымі лірычнымі дэталямі, якія яшчэ не даюць уражання характара. І кампазіцыйна задача спалучэння двух тэм—лірычнай і гераічнай у паэме аказалася неажыццёўленай. Паэма фактычна пачынаецца з эпізода допыту, паколькі тут пачынаецца непасрэдны паказ, пачынаецца дзея. Першыя лірычныя раздзелы паэмы ствараюць уражанне вельмі зацягнуўшайся падрыхтоўкі да дзеі, празмерна зацягнуўшайся экспазіцыі.

Адной з характэрных асаблівасцей «Баранава Васіля», выгодна адрозніваючай гэтую паэму ад першых паэм Куляшова, з'яўляецца яе прастата і натуральнасць. У ёй відаць вучоба Куляшова ў паэтаў-класікаў, у прыватнасці, у Някрасава; вучоба, якая азнамянавала сабою перамогу рэалістычных тэндэнцый над фармалістычнымі хітраваннямі, якія мелі месца ў «Аманале», у «Гарбуне». Калі ў «Гарбуне» алітэрацыйная ігра і гукапіс часта паглыналі сэнс верша, дык у «Баранаве» сэнсавая значымасць верша поўнасцю падпарадкоўвае сабе яго фармальна-паэтычныя элементы. Рытміка-сінтаксічныя хады ў «Баранаве» вылучаюцца сваёй бясштучнасцю, адсутнасцю нарочытага ўскладнення. Свет, паказваемы Куляшовым, перастаў быць сферай чыстага сваволля, як у «Гарбуне»,—ён стаў асязаемы ў сваёй прастаце і праўдзівасці. Паэтычны малюнак стаў дасканалей і выразней: «Па хвоях скакалі вавёркі—малыя звяркі, барадамі сумна хісталі з уральскіх калгасаў дзядзькі...» Паварот да традыцый класічнай паэзіі, да традыцый народнай паэзіі, які заўважан у паэме «Баранаў Васіль», з'ўляўся адначасова і паваротам да добрай рэалістычнай прастаты.

6.

Новая паэма Аркадзя Куляшова «У зялёнай дуброве» абагульняе ўвесь раней набыты вопыт паэта, адначасова намячаючы якасна-новы этап у яго творчым развіцці. Тое пачуццё новай рэчаіснасці, пачуццё сяброўства, якое абумовіла сабою лепшыя вершы Куляшова, у паэме «У зялёнай дуброве» выступае як яе ўнутраны сэнс, цэнтральная

тэма, арганічная аснова і сутнасць. Калі захацець у самай агульнай і самай кораткай форме выразіць мысль паэмы, прыдзецца яе характарызаваць так: разняволеная чалавечая праца і разняволеная чалавечая любоў.

«У зялёнай дуброве» названа паэмай. Па нашай думцы, новая паэтычная рэч Куляшова менш за ўсё падыходзіць пад жанравае вызначэнне паэмы. Ёй нехапае рэзкай і поўнай акрэсленасці аднаго цэнтральнага канфлікта, рэчы ў цэлым; у ёй мала, ці амаль зусім няма, дзеі ў сэнсе сутыкнення фігурыруючых у паэме персанажаў.

Маладая калгасніца Хрысціна пакахала трактарыста Івана, і сцэнай жаніцьбы, вяселля пачынаецца паэма. Сцэна гэта нечакана прарываецца ўрываннем зусім пабочнага эпізода—ад'езда старога—бацькі Івана да свайго другога сына, параненага на граніцы. Затым зноў прадаўжаецца вяселле. Танцы, спевы, гаворка: «Васіль-брыгадзір падыходзіць з баянам...» Васіль тайна закаханы ў Хрысціну, ці ва ўсякім выпадку, адчувае нейкае блізкае да кахання пачуццё блізкасці. Хрысціна і Васіль—сябры дзяцінства, і ўсе падрабязнасці іх сардэчнай і добрай дзіцячай дружбы суправаджаюцца асаблівай шчырасцю і лірызмам:

З маленькай дзяўчынкай
Хадзіў ён у ляды,
Сядзець пад хваінкай
Былі яны рады.
Ен поўнаю жменькай
Насіў ёй маліны,
Няма ўжо маленькай
На свеце Хрысціны.

І вось калгас гуляе вяселле Хрысціны. Натуральна, яно выклікае ў Васіля цяжкае пачуццё. Дзяўчыне здаецца «знаёмае вока глядзіць,... ёй у сэрца глыбока, глыбока. А можа, Хрысціна, цябе ён кахае? Пра гэта дзяўчына не знала, не знае...»

Зноў-такі мы тут сустракаемся з сюжэтнай памылкай таго-ж парадку, што і ў «Песні аб разведчыках». Ствараючы свой твор, сам аўтар аказваецца ледзь не на роўным становішчы са сваімі героямі. Ён ведае толькі тое, што ведаюць яго героі і ўсё, што адбываецца, ён перажывае ў той паслядоўнасці, у якой перажываюць дзеючыя асобы. Мастак тут зварочваецца к свайму гледачу (чытачу) як-бы знутры сваёй карціны, у той час, як ён павінен быць звонку яе. Заўважым, што гэта наша заўвага рашуча ніякіх адносін не мае да пытання аб ідэйнай блізкасці аўтара да паказваемых ім людзей. Перад намі памылка чыста фармальная, якая выходзіць з спецыфікі мастацкага адлюстравання рэчаіснасці.

Чытаючы паэму Куляшова « У зялёнай дуброве», цяжка скласці сабе да канца яснае ўяўленне аб узаемаадносінах паміж людзьмі паэмы толькі таму, што гэтага да канца яснага ўяўлення няма (з больш ці менш матываваных псіхалагічных прычын) у саміх герояў. Хрысціна не разабралася ў сваіх пачуццях да Васіля. У яго поглядзе яна адгадвае сум, невыказаны дакор. Магчыма, ён яе кахае і моўчкі дакарае за гэта вяселле? Гэтага Хрысціна не ведае, і гэтым

яе няведаннем карыстаецца паэт як прычынай, якая дае права гераіні ніяк не адказваць і наогул не рэагіраваць на каханне Васіля. Вельмі пяшчотна і вельмі чалавечна апісаў гэта каханне Куляшоў. Але мінорная тэма Васіля, яго сум, дружба, каханне к Хрысціне— усё гэта застаецца зусім без адказу з боку іншых дзеючых асоб паэмы і, перш за ўсё, з боку самой Хрысціны. Зноў такі мы тут маем права прыгадаць аб паедынку, на які не з'явіўся адзін з праціўных бакоў, а аднаму, які з'явіўся, немагчыма праявіць сябе. І сапраўды, якая патрэба ў элегічнай тэме Васіля, калі яна застаецца вісець у паветры, зусім без эмацыянальнага суперажывання іншых, сутыкаючыхся з ёю вобразаў? Куляшоў у сваёй паэме забыў аб адным з асноўных патрабаванняў эпічнага твору, якое заключаецца ў тым, што розныя людзі, фігурыруючыя ў творы, абавязаны па-рознаму развіваць у сваіх мыслях і пачуццях адны і тыя-ж аб'ектыўна дадзеныя праблемы. Персанаж, калі ён уведзен у твор, павінен у ім грунтоўна абаснавацца і ўступаць у сувязь з іншымі персанажамі, каб такім чынам праявіць сябе і сваю ўласную чалавечую сутнасць. Тыповасць і мастацкая ўражлівасць любоўнай тэмы Васіля непамерна выраслі-б, калі-б розныя людзі, якія акружалі Васіля, па рознаму адносліся да яе. Перш за ўсё гэта датычыцца Хрысціны. Мяркуючы па яе ўчынках, Хрысціна адкінула каханне Васіля. З другога боку цяжка ўгадаць, як-бы паступіла Хрысціна ў тым выпадку, калі-б яна ведала аб каханні Васіля. Вельмі магчыма, што яна вышла-б за яго замуж. Але-ж усё гэта домыслы і магчымасці. Тут псіхалагічная матывіроўка сюжэта не ясная. Куляшову трэба да канца вычарпальна арыентыраваць Хрысціну, паведаміць яе аб каханні Васіля і такім чынам, прымусіць яе прымаць рашэнні самастойна, з чыстых душэўных пабуджэнняў, і што вельмі важна—на вачах у чытача. Такі падыход да сюжэта і да паказу чалавечых вобразаў нам здаецца больш удзячным і прыемлемым, чым ужыты Куляшовым прыём недагаворак і слаба матывіраваных нечаканасцей.

Пераканаўча і моцна паказаўшы каханне Васіля, Куляшоў павінен быў у інтарэсах мастацкай праўды таксама пераканаўча і моцна адлюстраваць тыя псіхалагічныя жыццёвыя прадпасылкі, якія процідзейнічаюць гэтаму каханню. Але-ж у канчатковым выніку іменна гэтыя прадпасылкі бяруць верх і штурхаюць Хрысціну на замужжа з Іванам. Куляшоў павінен быў усебакова ахарактарызаваць прычыны, штурхнуўшыя яе на такі крок. Натуральна, сам вобраз Івана з усімі ўласцівымі яму якасцямі і асаблівасцямі, павінен быў у адпаведнай меры пацвярдзіць немінучасць падобнага кроку Хрысціны. Ці стварыў Куляшоў гэты вобраз? Вырашыўшы, што Іван фігура пабочная, «службовая», Куляшоў аддаў яму надзвычай мала ўвагі. Між тым у Іване ўвасоблен адзін з бакоў асноўнага, пунктірам намечанага, канфлікта паэмы. У гэтых-жа інтымных адносінах паміж Іванам і Хрысцінай, з аднаго боку, і Васілём—з другога,—прадстаўлялася паэту адзіная скупая магчымасць пабудаваць драматычны канфлікт, сюжэт, асноўную калізію, без якіх немыслім эпічны твор. Чаму-ж Куляшоў не выкарыстаў гэтай

магчымасці? Думаецца, таму, што аўтар адлюстроўвае, як сказана, падзеі сапраўднага жыцця з пункту гледжання дзеючых асоб, удзельнікаў гэтых падзей. Ён недастаткова паведамлён аб усім, што адбылося і адбываецца і гэтую сваю неасведамлёнасць абгрунтоўвае наяўнасцю яе ў дзеючых асоб. Так, напрыклад, малюючы вяселле Хрысціны з Іванам, Куляшоў робіць характэрную агаворку:

**Не зналі ўсе чыста,**
**І маці не знала—**
**Калі трактарыста**
**Яна пакахала?—**

І гэтай сваёй агаворкай, спасылкай на «натуральнасць» развіцця дзеі, Куляшоў непрыкметна для самога сябе абыйшоў самае галоўнае ў адносінах паміж людзьмі. Калі Хрысціна пакінула Васіля дзеля другога, трэба меркаваць больш блізкага і зразумелага ёй чалавека, чытач абавязан ведаць аб тых суб'ектыўных прычынах, якія штурхнулі яе на такі крок. І лёс Івана для яго не абыякавы, бо з ім звязан і лёс іншых людзей. Ва ўсякім выпадку адмежавацца ад неабходнасці ўсебакова растлумачыць гісторыю ўзнікнення і наспявання кахання Хрысціны і Івана Куляшову не трэба было.

Куляшоў дапусціў рашаючую кампазіцыйную памылку, пачаўшы паэму сцэнай вяселля. Фактычна ён пачаў з завяршэння, калі чалавечыя ўзаемаадносіны замест таго, каб развівацца на працягу ўсёй рэчы з саміх сябе, з сваіх уласных супярэчнасцей, прадсталі ўжо ў сваім склаўшымся і аформіўшымся выглядзе. Экспазіцыя такога роду здаецца нам вельмі невыгоднай. У прыватнасці яна робіць вельмі паэтычную фігуру Васіля непатрэбнай з пункту гледжання логікі сюжэта, бо ні адна яго рэпліка ўжо фактычна не даходзіць да слыху іншых персанажаў, да слыху Хрысціны. Сустрэча паміж імі пачынаецца з развітання, і чытач прысутнічае пры развітанні двух людзей, не ведаючы толкам, што-ж уяўляла сабою сустрэча паміж імі, у часе якой вырашаўся іх узаемны лёс.

Так абстаіць справа з сюжэтам новай паэмы А. Куляшова. Недахопы сюжэта неадступна следуюць за Куляшовым і ў гэтай яго паэме. І ўсё-ж не гледзячы на гэтыя вельмі істотныя недахопы, паказваючыя на няспеласць рэчы, як эпічнага твора, паэма, «У зялёнай дуброве» робіць радаснае ўражанне. Прычыны яго трэба шукаць у лірычным пачуцці паэмы, у тыповасці і праўдзівасці тых з'яў жыцця, якія атрымалі ў ёй сваё паэтычнае выражэнне.

Прынцыповае значэнне новай паэмы А. Куляшова заключаецца ў тым, што яна, пры ўсіх сваіх недахопах, з'яўляецца адным з нямногіх твораў нашай паэзіі, шчыльна падышоўшых да паказу новага чалавека—актыўнага будаўніка новага свету, набыўшага ў гэтым свеце вытраўленую вякамі рабства і прыгнечання любоў, пачуццё чалавечай годнасці, вольную натуральнасць паводзін. Самае каштоўнае і вартае ўвагі ў гэтай паэме тое, што складае яе атмасферу, яе паэтычны пафас, яе асноўны тон, а іменна—асэнсаваная і прачуленая ідэя любві і таварыства.

Рэвалюцыя і социялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне ства-

рылі нашымі рукамі новае грамадства, вольнае ад ценяў уласнасці і прыгнёту. Упершыню ў гісторыі будаўнічая, творчая дзейнасць чалавека з сілы, стаячай над ім, накіраванай на дасягненне мэтаў яму невядомых і чужых, ператварылася ў сілу, апладатвараючую чалавека, творачую вышэйшае шчасце новай матэрыяльнай культуры. З пасіўнага аб'екта гісторыі, яе пробнага каменя, на якім «звышнатуральны» невядомы чалавеку лёс выпрабоўваў сваю «бажэсцвенную» волю, працоўны чалавек нашай краіны ператварыўся ў актыўнага рухавіка гістарычнага працэса, носьбіта яго разумных і асмысленых законаў. «Рэальнасць нашага плана—гэта мы з вамі, жывыя людзі» так вычарпальна поўна выразіў таварыш Сталін найбольш характэрную сутнасць новага чалавечага грамадства. «Жывыя людзі, мы з вамі» перашагнулі з душнай турмы прыватнаўласніцкага грамадства ў новы свет вызваленай працы, вызваленых пачуццяў і мыслей. Чалавек свабодна распараджаецца сваім жыццём, якое з гэтага часу перастала здавацца яму ланцугом незалежных ад сябе, фатальных выпадковасцей, цалкам падуладных няўмольнаму і чужому ходу гісторыі. Каханне, сум, нянавісць, радасць, сумненні—усе гэтыя пачуцці новага чалавека праяўляюцца ў найбольш натуральнай сваёй форме, як непасрэдная рэакцыя.

Звернемся да паэмы Куляшова. «У зялёнай дуброве» напісана на тэматычным матэрыяле новай калгаснай вёскі. У нашай паэзіі не мала твораў на гэту тэму, шкада толькі, што вялікая частка гэтых твораў не могуць быць названы мастацкімі. Аўтары гэтых твораў у большасці выпадкаў абмяжоўваюць кола сваіх жывых назіранняў над новай калгаснай рэчаіснасцю некалькімі знешнімі адзнакамі быта, часцей за ўсё вобразам калгаснага свята і вечарынкі. Калі перад табою твор аб калгасе, то і чакай у ім тлумнага багацця ежы, «заможных» натур-мортаў і бясконцых танцулек. Выходзячы з зусім правільнай прадпасылкі аб тым, што новы калгасны лад прынёс найглыбейшае здаволенне матэрыяльным жыццёвым запатрабаваням людзей, многія, якія пішуць на тэмы новага сяла, прыходзяць да зусім ложнага ўяўлення аб калгасным жыцці, як аб галіне чыста матэрыяльнай, ледзь не спажывецкай. Ва ўсіх гэтых да адурэння жручых і скачучых персанажах нашай літаратуры ёсць нешта акрэслена крыўднае, ганьбячае, адмаўляючае людзям ва ўменні мысліць і адчуваць.

У сваёй паэме А. Куляшоў таксама паказвае калгас, калгаснае вяселле. Паэт паказвае радасць новага ўкладу жыцця, але выражае яе не ў той бязглуздай «спажывецкай» манеры, да якой так ахвочы многія пісьменнікі. Людзі, якіх паказвае Куляшоў, надзелены лепшымі і больш пяшчотнымі пачуццямі. Гэта ўжо не проста «прадстаўнікі працоўнага сялянства на фоне соцыялістычнага наступлення», а жывыя старыкі, звеннявыя, трактарысты, закаханыя хлопцы, прыгожыя, ледзь-ледзь сантыментальныя дзяўчыны, брыгадзіры, чырвонаармейцы—вялікі круг прыяцеляў, занятых адной агульнай справай. Што-б ні рабілі гэтыя людзі, як бы яны ні пастуралі, над імі не адчуваецца няўмольнай улады лёсу, жорсткай апекі чужых і вышэй стаячых сіл. Усе іх пачуцці і мыслі ўзнікаюць з іх непа-

срэдных, нікому не падуладных адносін. Яны кахаюць свабодна і беспакарана таму, што і ў свеце, створаным імі, яны адчуваюць сябе свабодна і раскавана. Іменна, гэта другое нараджэнне пачуцця, заваяванае чалавекам права на натуральнасць паводзін складаюць у паэме Куляшова лірычную задушэўную атмасферу простых і негучных пачуццяў, яснай і празрыстай дружбы.

Соцыялістычнае спаборніцтва стала асноўным і рашаючым прынцыпам жыцця, якім у старым свеце была канкурэнцыя, нянавісць, прагнасць да нажывы. Соцыялістычнае спаборніцтва выхавала ў людзях новую калектыўную мараль, якая аднолькава сказваецца ў працоўнай практыцы новага чалавека і ў яго інтымных глыбокаасабістых якасцях. Знікла старое каханне, адданае на вечную кабалу грашам, золату, маёмасным інтарэсам, і на яго руінах узнікла зусім новае, свабоднае і радаснае каханне.

Маладая дзяўчына, звеннявая калгаса «Чырвоная Зорка» Хрысціна пакахала брыгадзіра Івана. У паэме не адлюстравана гісторыя ўзнікнення і наспявання пачуццяў Хрысціны. Але нават з тых нешматлікіх указанняў на акалічнасці, суправаджаўшыя гэтае каханне, прыкметна выступае яго зусім новы, у параўнанні з каханнем мінулага, свабодны характар. Яно цалкам ва ўладзе саміх закаханых, яно можа быць прынята ці адкінута імі самімі і нікім іншым. Каханне Хрысціны, глыбокае і радаснае, авеяна дымкай паэтычнасці і лірызма.

Вось ёлачка тая
Над ціхай мясцінай,
Дзе першага мая
Ён стрэўся з Хрысцінай.

Гэта каханне, як і ўсе астатнія душэўныя праяўленні новага чалавека, у канчатковым выніку абумоўліваецца яго грамадскай дзейнасцю, соцыялістычнай перабудовай свету, але абумоўліваецца не ў той недарэчнай форме, калі грамадскі працоўны працэс непасрэдна і просталінейна выклікае сваю рэакцыю ў выглядзе аблагароджанага, ураўнаважанага, анемічнага кахання. У паэме Куляшова людзі не апраўдваюць сваё каханне, сваю схільнасць да пяшчотных успамінаў нейкімі нарочыта «ідэалагічнымі» меркаваннямі. У той натуральнасці і свабодзе, з якою выражае сябе пачуццё, заключана яго соцыялістычная якасць.

Існуе велізарнай даўнасці літаратурная і фальклорная традыцыя паэзіі аднаасобнай сялянскай гаспадаркі. Вартасць новай паэмы Куляшова заключаецца ў тым, што ў ёй паэт здолеў адлюстраваць іменна тыя рысы і якасці новага калгаснага жыцця, якія заключаюць паэзію ў самай сваёй сутнасці. Пачаўшы ад асноўнага, ад мыслі аб моцнасці новага соцыялістычнага ўкладу і яго велізарнай эканамічнай перавагі, Куляшоў шчыльна падышоў да вырашэння галоўнай задачы—ускрыць цэлы рад складаных і паэтычных эмоцый соцыялістычнага чалавека, убачыць і адлюстраваць у ім наспяванне новай, поўнацэннай, чыстай, благароднай асобы. Людзі Куляшова любяць працу, і радасць свабоднай працы еднае іх у адзін згуртаваны калектыў. Гэта радасць дае адчуванне салідарнасці з масай, прыму-

мае адчуваць сябе неадлучнай часткай яе. Поўнацэннасць чалавека вызначаецца ў залежнасці ад таго, наколькі ён можа аддацца агульнай справе. Граніцы соцыялістычнага таварыства не носяць вузкацэхавага замкнутага характара, у ім спалучаецца бязмежная адданасць аднаму блізкаму чалавеку з любоўю к далёкаму і незнаёмаму, але занятаму адной агульнай справай. Свет раскрыт наўсцяж, і далёкае становіцца родным і блізкім. Стары едзе на граніцу да раненага сына. Калгаснікі «збіралі гасцінна Пракопа ў дарогу» з такой клапатлівасцю, нібы ў кожнага з іх быў там на граніцы свой сын. Гордасць і радасць творчай працы еднае ў адзін калектыў калгаснікаў беларускага калгаса з далёкімі і незнаёмымі пагранічнікамі. Гэта не абстрактны пафас масы, а арганічнае жыццеадчуванне соцыялістычнага чалавека, якое выкрываецца ў канкрэтнай і пачуццёвай форме цэлага рада асабістых чалавечых уласцівасцей.

Маладая звеннявая Хрысціна вышла замуж за трактарыста Івана. Пасля вяселля Хрысціна, як водзіцца, пераходзіць у дом свёкра і свякрові. «Здалёку з калгасу нявестку прывезлі». Перад намі звычайная жанравая пaслявясельная сцэна, добра знаёмая з той-жа паэтычнай і фальклорнай традыцыі, аб якой мы ўспаміналі вышэй. Нявестка аплаквае свой дзявочы лёс. Дом мужа здаецца ёй чужым, неабжытым, мала ўтульным. «Вакол не такая, другая краіна».

Сяло не такое,
Зямля не такая,
І ўсё не такое,
І мэці не тая.
І ціха пад печкай,
І цесны загнетак.
І сонца за рэчкай
Заходзіць не гэтак».

Гэта адно з лепшых і паэтычных месц у паэме Куляшова, як-жа дзіўна, выклікае найбольшую колькасць супярэчанняў. «Ортодаксальных» крытыкаў бянтэжаць паводзіны Хрысціны, якая скардзіцца на неабжытасць чужога калгасу. Стварыўшы сабе абстрактную мадэль «беззаганнага» соцыялістычнага чалавека, які дзейнічае па законах абавязку, гэтыя крытыкі недаўменна разводзяць рукамі заўсёды, калі жывы чалавек парушае сваімі паводзінамі стройнасць іх благачэсцівай схемы. Па думцы гэтых крытыкаў Хрысціна не можа жадаць вярнуцца ў свой родны калгас, паколькі яна і зараз знаходзіцца не ў аднаасобнай гаспадарцы, а ў калгасе... Так раіла крытыка, і добра, што Куляшоў не паслухаў гэтых парад. Ён праявіў даволі разумення таго, што новы чалавек не з'яўляецца прэйскуранцкім наборам ідэальных якасцей—працавітасць, энергія, дабрата, сіла і г. д. і да т. п. Паказваючы сваіх герояў—людзей новай рэчаіснасці, Куляшоў ішоў не ад рассудку, ад свайго абстрактнага ўяўлення аб іх, а ад самога жыцця. Ён не сартыруе жыццёвыя факты ў залежнасці ад палітычнай формулы, ад агульнага лагічнага вывада. У сваім адлюстраванні самых істотных бакоў калгаснага быта Куляшоў ідзе ад жывога ўчынка, ад душэўнага руху. У гэтым заключаецца сакрэт удачы паэмы «У зялёнай дуброве».

Упершыню апынуўшыся ў чужым калгасе, у доме мужа, Хрысціна адчула сум развітання са сваёй брыгадай, з дзяўчатамі, з родным калгасам, які ўзрошчаны і пабудаваны яе рукамі. Там гарачая пара ўборкі. З здаровага і натуральнага жадання прадоўжыць і завяршыць распачатую працу, а не з хваравітай ганарыстасці, Хрысціна рвецца ў свой калгас. Яна не можа ўявіць сябе па-за брыгадай, далёка ад дзяўчат. Перад ёй паўстае карціна роднага калгаса:

Там сонца ўзыходзіць
У ранішнім дыме,
Дзяўчаты выходзяць
З сярпамі сваімі,
У зрэбных сарочках—
На працу адзеты;
Завуць па садочках.
— Хрысціначка, дзе ты?

Так у прэдзельна-індывідуалізіраванай форме, у поўнай адпаведнасці з характарам і тэмпераментам персанажа, раскрываюцца новыя адносіны да працы, новае соцыялістычнае жыццёадчуванне. Мастацкая ўражлівасць і праўдзівасць гэтага эпізода суму Хрысціны па роднаму калгасу ў значнай меры ўзрасла, дзякуючы выкарыстанай Куляшовым форме традыцыйнай дзявочай песні. Вядома, якой ўстойлівасцю валодае фальклорны вопыт, асабліва ў сялянскім асяроддзі. Песні перажываюць стагоддзі, відазмяняючыся і ўзбагачаючыся новым сэнсам. Старая народная песня нявесткі па свойму, вельмі паэтычна выражала рэальныя ўзаемадносіны старой, сцвярджаючай сябе ў прыватна-уласніцкім грамадстве сям'і. Шлюб—здзелка, пастыднае і зневажаючае «каханне» з чыста-ўласніцкіх меркаванняў, рабскае становішча жанчыны—Хрысціне ўсё гэта незнаёма. І ўсё-такі яна выказвае словы, добра знаёмыя са старых дзявочых песень. У гэтым і выражаецца ўстойлівасць песеннай традыцыі ў народзе. З вялікай свабодай, «не звязваючы сябе штучнымі патрабаваннямі «стопроцантнага» аптымізма, не ўпадаючы ў стылізацыю пад «сялянскую псіхалогію», Куляшоў перадаў у адной дэталі, у адным лірычным вобразе даволі складанае пераплячэнне розных рысаў чалавечай псіхалогіі. Песня Хрысціны аб родным доме, нагадваючая сваёй мелодыяй сумныя песні многіх пакаленняў сялянскіх дзяўчат, гучыць нейкім мінорным адгалоскам былога жыцця, нагадваннем таго, што жыццё гэта, хоць і мінула, але песні яго яшчэ не раз будуць хваляваць чалавечыя сэрцы сваёй сумнай праўдай. Хрысціна спявае пад стары матыў зусім новую песню. Зневажаючае і рабскае становішча нявесткі ў доме мужа зяўляецца для яе не жыццёвай, а хутчэй кніжнай сітуацыяй. Яна—роўнапраўны член адзінай працоўнай сям'і і ніхто не пасмее пасягнуць на яе правы. Ад старых сямейных адносін і старых вясельных абрадаў і цэрэмоній, фактычна маскіраваўшых бесчалавечы і ўласніцкі характар шлюбу-здзелкі, у нашы дні там-сям засталася адна толькі бяскрыўдная вонкавая форма, якая ўкаранілася ў традыцыі сялянскага жыцця. Захаванне гэтых вонкавых форм пры зусім новым

жыццёвым іх напаўненні складае займальны іграві элемент паэмы «У зялёнай дуброве». Вось едуць праслаўлтыя «сваты» і сваццi наладжваць спатканне заручоных:

Прымі прывітанне,
Калгасе багаты.
У яснае ранне
Мы едзем у сваты.
Нас едзе брыгада
У згодзе і ладзе.

Куляшоў назіральны і ўмее падкрэсліць значнасць усяго таго, што ў агульнай сукупнасці складае наш савецкі быт. Перад тым, як раз'язджацца гасцям з вяселля, «Хрысцінін калгас прыслаў ім трохтонку...» і ў гэтай дэталі атрымала сваё бытавое адлюстраванне змянення ўсіх шлюбных працэдур, вызвалення іх ад маскараднай мішуры ў выглядзе шумнага і шматлюднага вяселля, нястырманых п'нак, бойкі, бяссэнсных агледзін. Хрысціна і Іван вядуць рахунак сваім спатканням па датах рэвалюцыйных свят: «Вось ёлачка тая над ціхай мясцінай, дзе *Першага мая* ён стрэўся з Хрысцінай». Тут слова «Першае мая» атрымлівае нейкую асаблівую незвычайную абаяльнасць.

Цвёрдая ўпэўненасць у тым, што жыццё непарушна моцнае, суправаджае сабою ўсе мыслі і пачуцці людзей. Куляшоў знайшоў сапраўдныя чалавечыя словы, насычаныя добрым і яшчэ непаспеўшым астыгнуць лірызмам для таго, каб выказаць пачуццё шчасця, пачуццё паўнаты быцця. Цэлы рад дэталей служыць той-жа ідэйнай і мастацкай задачы. Вось паказ дубровы, у якой спыніліся пераначаваць госці, якія едуць з вяселля:

Стаяць там капцы
Межавыя на полі...
Кляймёны нанова
Ўкапаны навечна...

Аб чым-бы ні пісаў Куляшоў, усюды ён сустракаецца з радаснымі з'явамі, з уражаннямі падкрэслена станоўчага парадку. Героі паэмы спраўляюць наваселле ў новым доме. Вакол іх свет, празрысты, бясконцы ў сваіх праявах, ясны, ледзь не ідылічны. Я не выпадкова ўжываю тут слова ідылія, паколькі Куляшоў у сваёй тэме сапраўды знаходзіцца на той рэзкай грані, пераступіўшы якую немінуча збіваюцца на саладжавасць, уміратвораную пропаведзь добрабыту, ідылію. На шчасце Куляшоў гэтай грані не пераступіў.

У паэме шмат дэталей, прызначэнне якіх—наўмысля падкрэсліць добрабыт свету, нармальнасць новай жыццёвай абстаноўкі. Адсюль вялікае мноства вобразаў і дэталей чыста ідылічнага напрамку. «Спяць мірна *падружкі*, хлапцы-трактарысты...» Васіль заснуў у дуброве, «над ім галасочак звініць, як званочак. Заснуў Васілёчак? Устань, Васілёчак!..» «І полымя ззяла гасцінна ў дуброве, пяклося ў ім сала ўсім на здароўе». «Голубы ў згодзе пад лес паляцелі...» Усе гэтыя дэталі і фразы, узятыя па-за кантэкстам рэчы ў цэлым, указваюць на небяспеку збіцца на шчаслівую «калгасную ідылію» таннага гатунку. З Куляшовым гэтага не здарылася, таму што ў яго паэме

ёсць вельмі значнае лірычнае пачуццё, злёгку адцененае іранічнай умеранасцю, а гэтага ўжо даволі, каб ідылічнасць не пераступіла граніц ідэйна і мастацка-прыемлемага.

«У зялёнай дуброве»—расшыраны лірычны верш. Ён радуе сваёй натуральнасцю. Жыццё, намаляванае Куляшовым, не страціла свайго непасрэднага густу і паху. Вечары і захады—сапраўдныя вечары і захады. «І плавала качка, і вечар быў свежы...» У першых паэтычных рэчах Куляшова было шмат вазёр і дубоў, рыб і зорак. Але гэта былі ў большасці запазычаныя дубы і рыбы, умоўныя, выкарыстаныя, запазычаныя ў Багрыцкага, у акмеістаў. «У зялёнай дуброве» дзейнічае не штучна, а проста, як можа дзейнічаць канцэнтрыраванае паэтычнае выражэнне жыцця. Гэта натуральнасць дзеяння можа быць растлумачана рэалістычнай прастатой, адсутнасцю фармальнай нарачытасці. Форма перастала ўжо дэманстрыраваць сябе, як форма, ёю насычан сам змест. Куляшоў абраў наўмысля «спрошчаны» рытм—рытм «Беларускай застольнай» («Бывайце здаровы, жывіце багата»). Аднак у рамках гэтага размеру паэт знайшоў вялікае мноства ўнутраных інтанацыйных ходаў, адпавядаючых той ці іншай мэтавай устаноўцы. На прыкладзе паэмы «У зялёнай дуброве» асабліва прыкметна выступае пладатворны ўплыў народнай паэзіі.

---

Паэтычнае фарміраванне Аркадзя Куляшова яшчэ далёка не закончана. Многае ў яго папярэдняй творчасці было падрыхтоўкай, папярэднім накапленнем матэрыяла, вопыта, майстэрства.

«Аманал», «Гарбун», раннія вершы—гэта ўсё толькі ўваход ў сапраўдную творчасць, якая прысутнічае ўжо ў апошніх паэтычных творах Куляшова. І калі мы, магчыма, залішне педантычна разбіралі паасобныя дэфекты ранніх і яшчэ няспелых паэм Куляшова, то толькі таму, што гэты разбор, мае, па нашай думцы, немалаважнае значэнне для ўсёй нашай паэзіі, якая імкнецца асвоіць самы цяжкі жанр эпічнай паэмы. На гэтых рэчах расло і мацнела дараванне А. Куляшова. З усіх нашых паэтаў, магчыма, адзін Куляшоў неадступна і паслядоўна працаваў над павышэннем агульнай культуры верша, робячы смелыя вопыты ў гэтым напрамку, шукаючы найбольшай паэтычнай выразнасці. У Куляшова строгі паэтычны густ і ўдзячнае ўмельства знаходзіць той нечаканы напрамак творчай мыслі, які ператварае рыфмаваныя радкі ў паэзію. Гэта яго асаблівасць праявілася ўжо ў ранняй паэме «Крыўда». Падмацоўваючыся майстэрствам, узросшым веданнем жыцця, гэта каштоўнейшая якасць Куляшова прывяла яго да значных рэзультатаў у яго апошніх рэчах, у прыватнасці ў паэме «У зялёнай дуброве».

Чэрвень 1939 г

*Адказны рэдактар М. Лынькоў*
Рэдкалегія: *М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў.*
Адрас рэдакцыі: Мінск, Савецкая, 76. Дом Пісьменніка. Тэлефон 20-831.

## ЗМЕСТ

